1931
ЛІПЕНЬ
ЖНІВЕНЬ

XVIII
7441



# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

7-8



З Ь М Е С Т.



**АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА НА НАШУ ЧАСОПІСЬ НА 1931 ГОД**

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

**ГОД ВЫДАНЬНЯ V.**

**СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ ЧАСОПІСІ:**

**Знатакі паляўніцтва: праф. Федзюшын, Маркевіч, Есінаў, Зубароўскі, Качыоні, Пятрункевіч, Вініцкі, Лялін, Пячонкін, Генэрозаў, Рохманін, Штам, Сацінскі, Чэлішчаў, Салін, Лаўроў, Патцэр і інш.**

**ШТО АДБІВАЕ ЧАСОПІСЬ?**

Паляваньне, рыбны промысел, зьвераводзтва, аруж. тэхніку, сабакагадоўлю, будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі і калгасбудаўніцтва, быт паляўнічага і рыбака. У кожным нумары даецца агляд замежнага паляўнічага друку.

ШЫРОКА СТАВІЦЦА ЛІТАРАТУРНЫ АДДЗЕЛ: АПАВЯДАНЬНІ, НАРЫСЫ, ВЕРШЫ.

Выпісвайце, чытайце, распаўсюджвайце!

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на год 2 руб., на 1/2 года — 1 руб. 20 кап., асобны нумар—30 кап.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА ва ўсіх паштовых аддзяленьнях і раённых таварыствах паляўнічых.

Заказ № 1383. 16.500 экз. Галоўлітбел № 1641.

Друкарня імя Сталіна




ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІСЬ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАЦЫЙНАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

г. Менск. Савецкая, 68, тэл. 11-60

ВЫДАНЬНЕ ГАЗ. „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На 1 год . . . 2 руб. — к.
На паўгода . . 1 руб. 20 к.
На 3 месяцы . . . . 70 к.
Асобны нумар каштуе 30 к.

1931 № 7-8

ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ

XVIII (XII)

7441

## НА МАГУТНЫМ УЗДЫМЕ

### Аб 2-м Усебеларускім зьезьдзе рабсельваенкораў

На днях пасьля шасьцідзённай работы, закрыўся 2-гі Ўсебеларускі зьезд рабсельваенкораў. Уся падрыхтоўчая работа і сам зьезд, у аснову якога пакладзены пастановы чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б), апошняга пленуму ЦК КП(б), пастанова ЦК УсеКП(б) і ўсесаюзнай нарады па пытаньнях рабселькораўскага руху і прамова тав. Сталіна, зьяўляюцца вялізарнейшым укладам у работу па перабудове рабселькораўскага руху БССР.

І зусім правільна адзначыў у сваёй прамове загадчык сэктару друку культпропу ЦК УсеКП(б) тав. Гусеў, што:

— Гэты зьезд зьяўляецца вышэйшай формай кіраўніцтва рабсельваенкораўскім рухам.

Такое вялізарнейшае палітычнае значэньне зьезду абумоўліваецца прынамсі трыма наступнымі палажэньнямі:

1. Пэрыод соцыялізму характарызуецца тым, што ў нашай краіне ўжо забясьпечана абсолютная перавага соцыялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі. Пытаньне „хто каго“ ў прамысловасьці ўжо вырашана ў нашу карысьць канчаткова і безпаваротна.

Пры наяўнасьці больш 50 проц. колектывізацыі СССР, больш 40 проц. БССР мы пасьпякова набліжаемся да вырашэньня пытаньня „хто каго“ і ў сельскай гаспадарцы. Перамога забясьпечана ў нашу карысьць. Колгасьнік ужо на сёньня зьяўляецца цэнтральнай фігурай земляробства, а СССР краіна самага буйнага земляробства ў сьвеце.

Мы няўхільна і цьвёрда ажыцьцяўляем задачы суцэльнай колектывізацыі і ліквідуем на яе аснове апошнюю цьвярдыню капіталізму ў нашай краіне—кулацтва як клясу.

Як па лініі прамысловасьці, так і па лініі сельскай гаспадаркі выкананьне бальшавіцкай пяцігодкі забясьпечана ў чатыры гады, а па раду галін і значна раней. Так мы спраўляемся з задачай дагнаць і перагнаць у тэхніка-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

Такія агромністыя дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе і ў яго баявым форпасьце—БССР толькі і маглі быць заваёваны пад правільным выпрабаваным кіраўніцтвам Камуністычнай партыі. Няпрымірымая і пасьлядоўная барацьба з клясавым ворагам, з яго агентурай на два франты—супроць правай галоўнай небясьпекі на даным этапе і „левых“ загібаў, барацьба з атакамі на ленінскую лінію ў нацыянальным пытаньні,—вось што забясьпечвала выкананьне бальшавіцкіх задач.

Такія вялізарнейшыя посьпехі ў СССР на фоне абвастраючагася з кожным днём мiравога экономічнага крызісу, росту ўсіх супярэчнасьцяў капіталізму, разгортваньня рэволюцыйнага руху ў капіталістычных краінах, калёніях і паўкалёніях не маглі не знайсьці свайго адбітку і на ўзаемаадносінах СССР з капіталістычным сьветам.

Падрыхтоўка ўзброенай інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу зараз зьяў-

ляецца ў цэнтры ўвагі ўсяго капіталістычнага сьвету і галоўным чынам жандара Эўропы—фашысцкай Польшчы.

Такім чынам уся кампанія супроць СССР, якая з кожным днём вядзецца з большай інтэнсіўнасьцю, кампанія супроць ударнай брыгады сусьветнага пролетарыяту зьяўляецца важнейшым этапам фашысцка-капіталістычнага наступленьня на міравую рабочую клясу.

Ітак, рэзумуючы сказанае, трэба падкрэсьліць, што вялізарныя перамогі соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе па-новаму ставяць пытаньне ў суадносінах клясавых сіл у краіне, з наяўнасьцю магутнага росту энтузіязму рабочае клясы, які выяўляецца ў руху соцспаборніцтва, ударніцтва. Ударнік на прадпрыемстве ўжо зьяўляецца цэнтральнай фігурай. У вёсцы цэнтральнай фігурай земляробства зьяўляецца не серадняк—саюзьнік, як гэта было раней, а колгасьнік — моцная апора Савецкай улады.

Зьмены, як бачна, вялікія.

Ва ўзаемаадносінах з капіталістычным сьветам у наяўнасьці новае абвастрэньне супярэчнасьцяй двух сыстэм, квітнеючай соцыялістычнай і гніючай капіталістычнай, узмоцненая падрыхтоўка ўзброенага нападу на СССР.

Такая новая абстаноўка дыктавала свае ўмовы рабоце рабсельваенкораўскага зьезду.

2. Партыйна-савецкі друк, як „самая моцная і вострая зброя“ ў руках комуністычнай партыі, як організатар працоўных мас заўсёды адыгрываў вялізарнейшую мобілізуючую ролю ва ўсім нашым соцыялістычным будаўніцтве. Іменна сіла нашага друку састаіць у тым, што ён у адрозьніваньні ад буржуазнага друку, у руках комуністычнай партыі будуецца зьнізу дзесяткамі мільёнаў працоўных мас. І ўся работа яго, як організатара, зьяўляецца органічнай часткай усяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Ва ўсёй суме выкананьня задач соцыялістычнага будаўніцтва мы маем вялізарнейшыя дасягненьні і на фронце друку. Плян газэтнай продукцыі БССР перавыканан у параўнаньні з плянавымі меркаваньнямі пяцігодкі на 156 проц., г. зн., што ў справе разьвіцьця пролетарскага друку пяцігодка ў БССР выканана за тры гады.

Значна ўзрасла і рабсельваенкораўская армія. Напрыклад, калі ў 1924 г. яна складала 2000 чалавек, дык зараз складае 40000 чал. Мы маем вялікі якасны рост нашага друку і вялікія якасныя зьмены ў самой рабселькораўскай масе.

„Рабкор - ударнік і організатар ударнікаў становіцца цэнтральнай фігурай рабкораўскага руху, таксама як рабочы-ўдарнік стаў цэнтральнай фігурай на прадпрыемстве. Селькор-колгасьнік, ударнік і організатар колгаснага руху становіцца цэнтральнай фігурай селькораўскага руху, бо мільёны колгасьнікаў сталі асноўнай і галоўнай апорай Савецкай улады ва вёсцы“. (З рашэньняў Усесаюзнай нарады пры „Праўдзе“).

Посьпехі, як бачна, вялізарныя. Яны, як і посьпехі ўсяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва, сьведчаць аб правільным ажыцьцяўленьні ленінскай лініі на фронце будаўніцтва пролетарскага друку. Яны забясьпечаны няпрымірымай барацьбой комуністычнай партыі з усякімі рэвізіяніснкімі скажэньнямі прынцыпаў ленінізму ў газэтным будаўніцтве і рабселькораўскім руху (Курса, Густа, Троцкага і інш.), барацьбой з устаноўкамі Бухарына на 6-й усесаюзнай нарадзе з спробамі абмежаваць задачы рабселькораў голым „культурніцтвам“, ролю інформатара, якія пасыўна адбіваюць настроі і г. д.

Нарэшце яны гавораць аб пасьпяховым прасоўваньні ўперад.

Праведзеная падрыхтоўчая работа да зьезду і сам зьезд бязумоўна наслужылі вялізарным крокам у перабудове рабселькораўскага руху, але гэта яшчэ першы крок у параўнаньні з тымі новымі больш якасна высокімі задачамі, якія ставяцца новай абстаноўкай.

Задачы друку і ўсёй рабселькораўскай масы на даным адрэзку часу састаяць у тым, каб па-бальшавіцку мобілізавацца, мобілізаваць рабсельваенкораўскую армію і ўсе працоўныя масы на практычнае ажыцьцяўленьне рашэньняў чэрвеньскага пле-

нуму ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б і прамовы тав. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў ад 23 чэрвеня.

Гэтыя дакуманты зьяўляюцца праграмай баявых дзеяньняў для ўсіх нашых організацый, для друку і рабсельваенкораўскай масы.

У барацьбе за выкананьне паказчыкаў прамысловасьці, за гаспадарчы разьлік, у барацьбе за рэконструкцыю транспарту, за здаровы паравоз, за спараную язду. У барацьбе за ўздым комунальнай гаспадаркі. Нарэшце ў барацьбе за правільную організацыю кіраўніцтва прамысловасьцю, за опэрацыйнасьць, канкрэтнасьць на аснове аўладаньня тэхнікай — правяраецца кожная газэта, кожны рабкор.

У барацьбе за колгасы, за спэцыялізацыю сельскай гаспадаркі, за правільную організацыю працы—зьдзельшчыну на аснове ўліку, пасьпяховае заканчэньне ўборкі, організацыю хлебанарыхтовак, распаўсюджваньне ў колгасах мэтаду соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва—правяраецца кожная газэта, кожны селькор.

У барацьбе за ўмацаваньне баяздольнасьці Чырвонай арміі, аўладаньне вайсковай тэхнікай. Нарэшце за выкананьне агульных задач умацаваньня абароназдольнасьці Савецкай краіны — правяраецца кожны ваенкор, рабкор і селькор.

Падцягваць адстаючых, організоўваць ім дапамогу, паказваць прыклады героізму — такая задача.

Мы падыходзім да канца выкананьня першай бальшавіцкай пяцігодкі. Перад намі адказьнейшая задача — складаньне другога пляну бальшавіцкіх работ. Зьезд рабсельваенкораў прысьвяціў спэцыяльнае паседжаньне гэтаму пытаньню.

Зьезд зьвярнуўся з спэцыяльнай адозвай да ўсіх ударнікаў варштатаў, палёў, да ўсіх ударнікаў друку, комсамольцаў, навуковых сіл, спэцыялістых і пролетарскага студэнцтва з заклікам разгарнуць работу па складаньню другой пяцігодкі. Рабсельваенкораўская маса павінна быць застрэльшчыкам і організатарам пад кіраўніцтвам партыі ў гэтай вялікай рабоце.

Выкананьне ўсяго пераліку гэтых галоўнейшых задач не магчыма без далейшай самай бязьлітаснай барацьбы з скажэньнямі генэральнай лініі партыі.

Барацьба на два франты супроць правай небясьпекі, галоўнай на даным этапе, супроць „левых“ загібаў. Супроць скажэньняў ленінскай нацыянальнай палітыкі, з галоўнай небясьпекай на даным этапе—вялікадзяржаўным шовінізмам, беларускім нацыянал-дэмократызмам і шовінізмамі іншых колераў—гэта важнейшая ўмова ажыцьцяўленьня задач пастаўленых перад друкам і рабсельваенкораўскай масай.

Але што неабходна, каб справіцца з гэтымі задачамі?

Неабходна перш за ўсё перабудаваць свае рады.

— Кожны рабсельваенкор — ударнік, кожны ўдарнік—рабсельваенкор.

— Ударныя брыгады друку— вядучае зьвяно рабсельваенкораўскага руху,—такія цэнтральныя лёзунгі перабудовы.

Іменна стаўка на ўдарніка, як цэнтральную фігуру, унядрэньне ва ўсе поры друку мэтаду соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва — важнейшая ўмова яго баявой работы.

Таму надзвычайна вялікае значэньне мае соцыялістычнае спаборніцтва, якое на другім зьезьдзе рабсельваенкораў заключылі прадстаўнікі друку і рабселькораўскай масы Украіны з друкам і рабселькорамі БССР. Кожная газэта БССР павінна неадкладна ўключыцца ў гэта соцспаборніцтва.

Разам з тым, перабудоўваючы ўсю масавую работу друку на рэйкі ўдарніцтва і спаборніцтва, ні ў якім разе нельга ігнараваць рабселькора-адзіночку. Неабходна змаганьне на два фронты. Супроць недаацэнкі ўдарных брыгад друку,—як правай небясьпекі і супроць ігнараваньня рабселькора-адзіночкі—як „левых“ загібаў.

Другой рашаючай умовай перабудовы зьяўляецца аўладаньне тэхнікай.

— Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі рашае ўсё,—гаварыў тав. Сталін на конфэрэнцыі гаспадарнікаў. Зараз якасьць ударніка вымяраецца аўладаньнем тэхнікі. Гэты важнейшы лёзунг павінен

быць перанесен поўнасьцю і ў друк.

Кожная газэта для таго, каб сапраўды працаваць па-бальшавіцку, павінна аўладаць тэхнікай, а гэта азначае:

Па-першае, кожны работнік газэты павінен аўладаць газэтнай тэхнікай.

Па-другое, экономікай, асаблівасьцямі, спэцыялізацыяй таго раёну, дзе знаходзіцца газэта.

Кожны рабкор, селькор павінны аўладаць тэхнікай свайго прадпрыемства, свайго варштату.

Бяз гэтага нямысьліма бальшавіцкая работа, барацьба за канкрэтнае опэрацыйнае кіраўніцтва вытворчасьцю, гаспадаркай.

Зьезд рабсельваенкораў па канкрэтызацыі і кіраўніцтву рабсельваенкораўскім рухам зрабіў вялікі крок. Работа 10 сэкцый на зьезьдзе па спэцыяльным галінам прамысловасьці і сельскай гаспадарцы: мэталяапрацоўчнай, торпа-энэргетыкі, чыгуначна-воднага транспарту, дрэваапрацоўчай прамысловасьці, па перабудове коопэрацыі, жывёла-сьвінагадоўлі, ільнаводзтва і тэхкультур, гарбарна-абутковае прамысловасьці, МТС і тэкстыльна-швэйнай прамысловасьці, — узброіла рабселькораў гэтых асобных галін канкрэтнымі задачамі.

Акрамя таго, работа сэкцый прадаставіла магчымасьць прыняць найактыўнейшы ўдзел у абгаварэньні пытаньняў пастаўленых на зьезьдзе ўсёй асноўнай масе прысутнічаючых дэлегатаў.

Такія галоўнейшыя моманты з работы зьезду.

3. Політычная важнасьць, вялізарнейшае значэньне зьезду і рашэньняў для нас відавочна. Яно выцякае з адказнасьці пэрыоду, у які працаваў зьезд, са зьместу яго работы і важнасьці для рабселькораўскага руху і нарэшце з тых задач, якія ставяцца ў справе рэалізацыі яго рашэньняў.

Неабходна дабіцца таго, каб пастановы зьезду былі даведзены да шырокіх рабкораўскіх, селькораўскіх і ваенкораўскіх мас, да мас рабочых, колгасьнікаў і чырвонаармейцаў.

Сыстэма паляўнічай коопэрацыі і ўсе організацыі саюзу паляўнічых абавязаны забясьпечыць практычную рэалізацыю гэтых рашэньняў сярод мас паляўнічых.

Уся гэта работа павінна праводзіцца пад кутом погляду мобілізацыі мас паляўнічых на выкананьне і перавыкананьне свайго „прамфінпляну“. Паляпшэньне работы паляўнічай коопэрацыі, далейшае ачышчэньне яе апарату і радоў паляўнічых ад клясава-варожых элементаў,—такая першая задача ў рэалізацыі рашэньняў рабсельваенкораўскага зьезду.

Мобілізацыі мас паляўнічых на актыўны ўдзел у правядзеньні чарговых гаспадарча-політычных задач, уборачнай кампаніі, асеньняга севу, хлебанарыхтовак пад кутом погляду барацьбы за далейшае разгортваньне колектывізацыі, правільную організацыю працы ў колгасах. Барацьба за выкананьне прамфінпляну на вытворчасьці, за аўладаньне тэхнікай ва ўсіх галінах вытворчасьці і гаспадаркі, барацьба з усякімі скрыўленьнямі партыйнай лініі, за выкананьне задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі—другая задача ў рэалізацыі рашэньняў зьезду.

Бясспрэчна, ва ўсім гэтым вялізарнейшую ролю павінен адыграць друк. Трэба сказаць, што друк мала займаецца сыстэмай паляўнічай коопэрацыі. Так і корэспондэнцкі рух сярод паляўнічых слаба разьвіт. Трэба паставіць канкрэтную задачу, каб кожны ўдарнік-паляўнічы быў ударнікам у друку.

Разам з тым неабходна далейшая перабудова друку паляўнічых у прыватнасьці часопісі „Паляўнічы Беларусі“ па лініі ўздыму яго опэрацыйнасьці, аўладаньня тэхнікай, конкрэтным кіраўніцтвам і дапамогай у гэтай даволі важнай галіне гаспадаркі.

Такія задачы.

М. Жарын.

---

**Рабселькоры, пішучыя ў часопіс „Паляўнічы Беларусі“, павінны ведаць рэзалюцыю 2-га рабселькораўскага зьезду**

## Паляўнічы, мацуй абарону краіны!

# ГРОЗНЫЯ СЫГНАЛЫ

*Нарыс С. Барысава*

„... ніколі яшчэ падрыхтоўка імпэрыялістаў да новых крывавых войнаў, і ў першую чаргу, да ўзброеннай інтэрвэнцыі супроць СССР, не дасягала такога напружаньня такой сілы, як у сучасны момант",—заявіў у першамайскім загадзе тав. Варашылаў.

— Вайна!—крычыць агаладаўшае вараньнё, беспрацоўныя генэралы, папы і сацыял-дэмакраты.

„Толькі барацьбой, сілай шаблі можна ўмацаваць дзяржаву,—заяўляе рэдактар „Польска збройна".—Для Польшчы неабходна яшчэ выпрабаваньне ўзброеньнем. Не маленькія групы, а сотні тысяч павінны будуць яшчэ ўдзельнічаць у крывавым танцы... Я падымаю свой бакал за здароўе бліскучай шаблі, якая павінна расьсячы „гордиев узел".

Генэрал Лудэндорф, праіграўшы адну вайну, марыць аб будучай: „Вайна". Ніякіх абвяшчэньняў вайны. Стрэльбы пачынаюць страляць самі сабой. Усе эўрапэйскія дзяржавы, за выключэньнем Нарвегіі, Галяндыі, Гішпаніі і Партугаліі і на Дальнім Усходзе—Японіі, абвесьцяць у адзін і той-жа дзень усеагульную мабілізацыю. Ужо ў ноч на першы дзень мабілізацыі пачнецца вайна на моры і ў паветры... Па ўсёй Эўропе працягваюцца лініі акопаў, пачынаюцца рэвалюцыі, у Эўропе зьяўляецца савецкая армія, паміраюць хрысьціянскія народы..."

Ватыкан, гняздо мракабесія і чорнай рэакцыі, моліць хрысьціянскага бога аб пасланьні вайны супроць бязбожных народаў Савецкага саюза. Папа Пій XI па ўсякаму міжнароднаму поваду пытаецца распаліць нянавісьць да нашае краіны. Газэта папы „Обсерваторе Романо" выступіла нядаўна супроць савецкай палітыкі міра з нядзусэнсным заклікам да вайны:

„Трэба зразумець адно: экспартны бальшавізм імкнецца разброіць народы, каб зрабіць іх афярай анархіі. Разброеньне, якое прапануецца бальшавікамі, ня ёсьць тое разброеньне, на якое паказвае папа і да якога трэба імкнуцца. Гэта разброеньне ёсьць толькі спроба сацыяльнага пераварота, якую Пій XI растлумачыў (!?) як рэч больш небясьпечную для міра, чым само разброеньне. Удзел Расіі ў эўрапэйскім аб'яднаньні і значыцца разброеньне



Апараты для ўлаўліваньня гукаў аэропланаў у ангельскай арміі.



Бамбавозы ў англьскай арміі.

можа быць пажаданым пры ўмове, калі Расія адмовіцца быць фіцялём сярод бочкі пораху".

Асобную нецярплівасьць праяўляюць белa-эмігранты. Гатовыя якой угодна цаной патапіць у крыві Савецкую ўладу, ператварыць СССР у калёнію, яны імкнуцца даказаць камэрцыйную выгаднасьць для імпэрыялістаў вайны з саветамі. „Затраціўшы 1 міліярд рублёў, чалавецтва атрымае даход ня менш, чым у 5 міліярдаў, гэта значыць 500 проц. гадавых і з пэрспэктывай далейшага ўзрастаньня прыбылі, штогодна яшчэ на 100—200 проц.",— пісаў завадчык Рабушынскі.

І да агульнага хору генэралаў, імпэрыялістаў, папоў і белагвардзейцаў далучаюць свой голас сацыял-дэмакраты. Каўцкі ў часопісе „Гезельшафт" надрукаваў паскуднейшы артыкул з заклікам да інтэрвэнцыі. „Толькі нядаўна я ўзнаў, што людзі (а што гэта за людзі—мы нядаўна ўзналі з працэсу меншавікоў-інтэрвэнтаў. *СБ*), чые эканамічныя пазнаньні я вельмі паважаю, сур'ёзна лічацца з магчымасьцю правядзеньня пяцігодкі... Калі Ленін праў, тады ўся мая жыцьцёвая работа напрасна..." Далей Каўцкі б'е трывогу аб неабходнасьці паскорыць барацьбу з саветамі і, заяўляючы, што 1931 год зьяўляецца крытычным, пытаецца: „Хіба нам сапраўды трэба чакаць яшчэ адзін год?"

---

Калі разгаворамі аб вайне займаюцца нецерплівыя халопы капітала, дык іх мары падаграваюцца ня толькі клясавай нянавісьцю, але і фантастычным ростам матар'яльнай ваеннай базы, удасканаленай да меж зьнішчальнай моцы ваеннай машыны, якую моўчкі гатовяць імпэрыялістычныя краіны.

Мы абмяжуемся ў нашым нарысе некалькімі заўвагамі аб росьце ўзброеньня Францыі і яе васалаў. Ва ўсіх антысавецкіх камбінацыях, ва ўсіх правакацыйных выступленьнях супроць СССР за апошнія гады злая рука францускіх імпэрыялістаў кідае страшэнную цень на лёс міра між народамі.

Да пачатку 1931 году француская армія налічвала 655.700 салдат і 33.000 афіцэраў. Але моц арміі ня ўлічваецца толькі лічбовым складам, а яе тэхнічным аснашчэньнем на базе добра разьвітай ваеннай індустрыі. У 1914 годзе француская прамысловасьць магла зрабіць у месяц 50.000 вінтовак, а зараз 200.000; адпаведна кулямётаў 1000 і 8000; арудзьдзяў—200 і 2000; самалётаў—50 і 2000; танкі не рабіліся зусім, а зараз 2000.

Мэтам вайны падпарадкавана ўся прамысловасьць. На днях у Францыі ўчынялася спробная мабілізацыя прамысловасьці штучнага шоўку і ўсе заводы ў 48 гадзін пераключыліся на вытворчасьць выбуховых матэрый.

Французская ваенная прамысловасьць задавальняе адначасна польскую і румынскую арміі. Апрача таго французскія банкі фінансуюць банкі польскія і румынскія—мерапрыемствы, накіраваныя да вайны з нашым Саюзам.

На базе французскіх крэдытаў у Польшчы наладжана вытворчасьць усіх асноўных відаў узброеньняў, аж да самалётаў з маторамі, кулямётаў, артылерыйскіх арудзьдзяў, танкаў, шырока разьвіваецца хэмічная прамысловасьць па вытворчасьці сынтэтычнага азоту, хлёру, фосгэна і іншых атручваючых матэрый для газавай вайны. Польская армія па афіцыйных даных складаецца з 304 000 салдат і 20.000 афіцэраў, але фактычна ўзброеныя сілы, выключаючы ваенна-фашысцкія саюзы, дасягаюць 2.000.000 чалавек. Узброеньне польскай арміі складае: 300 лёгкіх арудзьдзяў, 700 цяжкіх, 1000 ваенных аэрапланаў, 350 танкаў і 22.000 кулямётаў.

У Румыніі блізка Бухарэста прыступлена да пабудовы грандыёзнага заводу выбуховых істот і бояпрыпасаў. У Братове французкімі фірмамі пабудован завод авіяматораў, самалётаў і гідрапланаў. Чэха-Славацкая фірма Шкода дабудоўвае буйнейшыя ваенныя заводы ў Копша-Міка і ў Кужыры для вытворчасьці танкаў, матораў і арудзьдзяў да 305 *см* гаўбіц уключна. У выпадку вайны Румынія можа выставіць 1½ мільённую армію.

Дастаткова паказаць, што лік ваенных заводаў у сумежных з СССР краінах узрос з 1923 году (Польшча, Румынія і г. д.) з 13 да 65 у 1931 годзе.

Але галоўным ваенным арсэналам будучых інтэрвэнтыяніскіх армій зьяўляецца Чэха-Славакія з яе высока разьвітымі ваеннымі прадпрыемствамі Шкода, якія, пашыраючы свае асноўныя ваенныя заводы ў Пільзене, павялічваючы вытворчасьць артылерыйскіх і зэнітных арудзьдзяў, танкаў і самалётаў, будуюць новыя зьверхмоцныя ваенныя заводы і разьвіваюць моцнасьць хэмічнай прамысловасьці, якая абслугоўвае ваенныя мэты.

Ва ўсіх гэтых краінах мы назіраем стан глыбокага эканамічнага крызісу, рост беспрацоўя і толькі ваенная прамысловасьць перажывае пэрыяд росквіту.

Паралельна, а часта нават абганяючы колькасны рост узброеньня, ідзе і якасны рост вынаходніцкай сілы сродкаў зьнішчэньня жывой і матар'яльнай сілы ворага.

Асабліва відаць прагрэс у сучаснай авіяцыі. Цяжкія бомбавозы павялічылі дальнасьць свайго дзеяньня да 2500 клм., маючы на барту да 6 тон бомб і, апрача таго, узброены буйна-каліберным і кулямётамі, і нават, арудзьдзямі. Эскадрыльля такіх самалётаў можа залятаць глыбока ў тыл працаўніка і раскідаць бомбы напоўненыя газамі, якія здольны ўчыняць пажары. Знойдзен рад новых атручваючых газаў, супроць якіх бясьсільны супроцьгазавыя маскі. Бактэрыялёгічныя бомбы павінны распаўсюджваць бактэрыі тыфусу, халеры, эапа, а бомбы з такімі газамі, якія здольны запальваць, будуць распаўсюджваць пажары, супроць якіх бясьсільны нармальныя супроцьпажарныя сродкі.

Газы зьяўляюцца ня толькі сродкамі наступленьня, але і абароны. Францускі генэрал Л. у газеце „Франс Мілітэр" пісаў нядаўна: „Важнейшыя вучасткі тэрыторыі, даўжынёю ў некалькі дзесяткаў *клм.* і глыбінёю ў 2-3 *клм.*, звычайна даступныя для пранікненьня няпрыяцельскіх армій, могуць аказацца зусім непраходнымі ў выніку затапленьня іх і пры тым падобна таму, як былі затоплены вадой у час апошняй вайны палі Фляндрыі. Гэта дасьць эканомію другіх форціфікацыйных пабудоў і эканомію войск прыкрыцьця".

Па сушы будуць рухацца фалянгі танкаў, пры чым найбольш цяжкія з іх да 70 тон вагою—уяўляюць сабой цытадэлі, спасобныя пераходзіць ямы і акопы да 4 мэтраў шырыні і перабірацца праз невялікія лясы. Калёны лёгкіх танкаў, якія дасягаюць хуткасьці 60 *клм.* у гадзіну, аўтамабілі, прыстасованыя к бездарожжу і ўзброенныя шматкулямётнымі ўстаноўкамі, прыдадуць нябывалую манэўраную і наступальную магчымасьць будучым арміям. Дастаткова адзначыць, што амэрыканцамі сканструіраваны новыя тыпы вода-непранікальных тараных танкаў, якія здольны ўмясьціць каманду да 50 чалавек.

Ня менш пасьпяхова ідзе і разьвіцьцё артылерыі. У часы міравой вайны вура-

ганным агнём дасягалася, што на кожны квадратны мэтр падала 3 снарады і перараблівала раён абстрэлу ў месіва чалавецкіх цел, зямлі і сталі, то зараз на гэты вучастак будзе выпушчана 6 снарадаў пры павялічэньні ня толькі інтэсыўнасьці абстрэлу, але і магчымасьці разбураць арудзійным агнём тыл праціўніка.

Так, француская артылерыя распалагае арудзьдзямі, якія пасылаюць свае снарады на дальнасьць да 150 *клм*. У нагу з разьвіцьцём артылерыі ідзе і разьвіцьцё кулямётаў і аўтаматычных стрэльбаў. Каб наглядна ўявіць сабе сілу кулямётнага агня, прывядзём у прыклад амэрыканскую дывізыю, калі яна вядзе бой на фронце 2-3 *клм*., маючы свае 947 кулямётаў.

Кожная вузенькая палоска зямлі будзе абстрэльвацца цяжкім кулямётам, які робіць кожную мінуту 500 стрэлаў, а ззаду цяжкага кулямёта будуць разьвіваць агонь 5 лёгкіх кулямётаў і ўтвораць страшэнны ручэй куль, у сфэры якога выключаецца ўсякая магчымасьць для перасоўваньня чалавека.

Стары спэцыялісты па арганізацыі зьнішчальных войн ангельскі кансэрватар Чэрчыль, які працягвае распрацоўваць пляны ўзброеннай інтэрвэнцыі супроць нашай краіны, у думках робіць абгляд ваенных сіл імпэрыялізма ў сваіх успамінах аб мінулым і ў марах аб будучым, рытарычна піша: „У 1919 годзе тысячы аэрапляна ў павінны былі разбурыць гарады Германіі, дзесяткі тысяч арудзьдзяў павінны былі разбурыць фронт, былі зроблены ўсе нарыхтаваньні, каб прасоўваць чвэртку мільёна салдат на аўтамабілях на 300 *клм*. штодзень. Атрутная газы павінны былі зьнішчыць усякае супраціўленьне і ўсякую магчымасьць жыцьця. Замыслы, якія былі распрацаваны для наступленьня ў 1919 годзе, у сучасны момант разьвіваюцца далей у кожнай арміі, і, калі ўспыхне вайна, яна будзе весьціся куды больш страшэнным узброеньнем, чым меркавалася тады... Сьмерць стаіць перад намі на выцяжку, паслухмяная, поўная чаканьня, гатовая служыць нам... Яна чакае толькі загада“.

---

Як-бы імпэрыялісты ня скрывалі свае ваенныя нарыхтаваньні, усё-ж усюды бачучае вока працоўных усяго сьвету, з рэвалюцыйнымі настроямі якіх імпэрыялістам прыходзіцца лічыцца і ў сучасны „мірны“ час, пытліва сочыць за тым, што робіцца ня толькі ў арсэналах, але і ў штабах, дзе распрацоўваюцца пляны нападу на СССР. Але часта, дзякуючы раздорам у лягеры імпэрыялізма, мір пазнае аб новых ваенных замыслах ці ўсюды бачучае вока нашай ОДПУ выяўляе агентуру імпэрыялістаў у нашай краіне: шахцінская справа, СВУ, „промпартыя“ і меншавіцкі загавар далі дастатковы матар'ял, каб судзіць аб ваенных плянах нападу, не гаворачы ўжо аб адкрытай кампаніі капіталістычнага друку аб „дэмпінгу“, аб „прымусовай працы“, якія зьяўляюцца дымавой завесай для падрыхтаваньня інтэрвэнцыі.

Па плянах францускага генэральнага штабу польская і румынская арміі павінны зрабіць першы асноўны ўдар на Украіну і з-за яе вялізарных натуральных багацьцяў (вугаль, мэталь, хлеб, цукар) і ўдар з мора на паўночны Каўказ з дэсантам ваенных сіл эміграцыі і радам апэрацый утварыць магчымасьць адрыву ад СССР грозьненскай і бакінскай нафты.

Плян нападу праз Чорнае мора прыцягвае ўвагу і ангельскіх ваенных колаў. Так, пад відам нібы супроцьдзеяньня наступленьня савецкіх армій праз Турцыю афіцыёзны ангельскі марскі часопіс „Невал энд милитери рекорд“ у перадавой пісаў: „Наш уласны флёт можа пранікнуць у Чорнае мора і зьвязаць флянг наступленьня праз Турцыю, натуральна пры рашучым супраціўленьні (савецкаму ўтаржэньню) з боку саміх турак. Ён можа заблакіраваць і атакаваць усе галоўнейшыя рускія парты і падтрымаць любую высадку войска, каб перарэзаць комунікацыі бальшавікоў“.

Існуе таксама плян узброенага нападу на Ленінград. Апроч палітычнага значэньня Ленінграда, усім вядома, што там згрупавана шостая частка прамысловасьці СССР. Падрыхтоўку вайны на Балтыцкім моры вядзе Францыя, а таксама і ангельскія эскадры вывучаюць Балтыку, як будучы тэатр вайны.

Гісторыя ведае выпадкі нападу з Балтыцкага і Чорнага мораў на Савецкую краіну. Напомнім коратка вынікі. У выніку бояў з чырвоным балтыцкім флётам на дне мора знайшлі могілкі наступныя ангельскія суды: крэйсэр „Касандра“,

экскадронныя мінаносцы „Вікторыя“ і „Верулем“, тральшчыкі „Міртл“, „Джэнцыен“ і „Бенберы“, тры тарпедных кацеры, тры маторных баркасы, адзін транспарт. Атрымалі цяжкія пашкаваньні крэйсер „Кюрасо“, авіяносец „Венедзікціў“, адзін заградзіцель, адзін экскадрыльны мінаносец, 6 мінаносцаў і адзін нафтаналіўны транспарт. Усяго ж загінула 27 караблёў ангельскага флёту! У францускім флёце, які падтрымліваў белагвардзейцаў з Чорнага мора на „Вольдэке Русо“ ўзбунталіся матросы і хацелі пакідаць сваіх афіцэраў у мора, у пасхальную ноч 1919 года ўспыхнулі бунты на суднах: „Мірабо“, „Жанбарт“ і „Франс“ і каманды караблёў паднялі чырвоныя сьцягі рэвалюцыі. Адказаліся падтрымліваць белае войска і пяхотныя францускія часткі.

Вопыт мінулай інтэрвэнцыі паказаў імпэрыялістам, што ў вайне з рэволюцыйнай краінай, якая мае на сваім баку гарачае спачуваньне шматмільённых мас працоўных усяго сьвету, пытаньне перамогі не вырашаецца толькі арытмэтычнымі суадносінамі вайсковых сіл. У часы акупацыі на поўначы малалічбовыя, дрэнна ўзброенныя чырвоныя палкі прымусілі ангельскае войска пакінуць нашу тэрыторыю. Тое самае мы бачылі на поўдні пад Адэсай і на Дальнім Усходзе. А зараз ня 1920, а 1931 год.

Рост нашай індустрыі, узмацняючы нашу абароназдольнасьць, разьвіцьцё мэталюргічнай і хэмічнай прамысловасьці, якая ўзмацняе нашу Чырвоную армію ўсімі сучаснымі сродкамі абароны, няўхільна праводзімая генэральная лінія нашай партыі, згрупаваньне вакол ленінскай партыі ўсіх працоўных нашай краіны прымушае імпэрыялістаў падумаць, ці не перавернецца вайна супроць саветаў у міравую грамадзянскую вайну супроць капіталізму? І такая ваенная сіла, на якую зможа абаперціся ў вайне з намі капіталізм, становіцца ненадзейнай. Нядаўна тав. Хітараў на пашыраным прэзыдыуме ІККІМ у сваім дакладзе прывёў цэлы рад прыкладаў, якія даводзяць, што бунтаўшчыцкія, паўстанцкія настроі ў арміі і ў розных буржуазных вайсковых і паўвайсковых арганізацыях растуць.

У Францыі ў жніўні-верасьні мінулага году адбыліся вялікія манэўры з удзелам запасных, якія зрабілі цэлы рад паўстаньняў. Паведамленьні аб іх гавораць: „31 ліпеня запасныя пелі ў цягніку Інтэрнацыянал“. Прыбыўшы ў Мурмелон яны вызвалілі таварыша, арыштаванага жандарамі, уселіся групамі ў 10—20 чалавек у канаву, сталі крычаць „кароўя морда“ (вельмі папулярная сярод францускіх салдат назва для начальства) і пець Інтэрнацыянал. 10 жніўня, пры зьвярненьні адпусьнікоў на вакзале ў Рэймсе была ўчынена дэмонстрацыя супроць жандараў з сьпевамі Інтэрнацыяналу. У Англіі ў часы служэньня ў царквох малебстваў супроць няіснуючых рэлігійных прасьледваньняў у СССР, салдаты ў Кінстоўне адмовіліся прысутнічаць на малебстве. Нядаўна былі паўстаньні ў брытанскім флёце, але падрабязнасьці гэтых паўстаньняў трымаюцца ў строгай тайне. У ПАЗШ нядаўна 5 батальёнаў падпісаліся пад высунутым кампартыяй патрабаваньнем аб увядзеньні страхаваньня ад беспрацоўя.

Найбольш трэзвыя палітыкі буржуазіі пачынаюць разумець, што калі імпэрыялізм, разьдзіраемы ўнутранымі непаладкамі і суровым эканамічным крызісам усё-ж адважыцца кінуць меч на чашку вясоў, якая хістаецца, вайны і міра, дык гэты меч можа быць выбіты ня толькі з рук імпэрыялістаў, але і зьвернуты супроць яго-ж.

У сакавіку, у нумары ангельскага буржуазнага часопісу „Форэйн Эфайерс“ у рэдакцыйным артыкуле паказвалася:

„Зараз ва ўсім сьвеце разам з сем'ямі ёсьць каля 60—70 мільёнаў людзей закранутых беспрацоўем, а тыя, хто працуе, знаходзяцца ў вечным страху, што яны ў любы дзень апынуцца бяз справы ў радох жабракоў. Пануючым настроем зьяўляецца зараз растучае незадавальненьне мас. У пошуках ратунку нацыяналізм балканізуе Эўропу шляхам таможных войнаў і пратэкцыянізму. Выхадам усяго гэтага можа быць толькі вайна. Але, калі будучая імпэрыялістычная вайна, калі ня было яшчэ непераможнага рускага сацыялізму, усё-ж прывяла да сацыялізму, дык да чаго прывядзе наступная вайна пры наяўнасьці камунізма, які на прыкладзе даказаў сваю жыцьцяздольнасьць, ня гледзячы на тое, што ўвесь сьвет ідзе супроць яго“.

(30 дней)

С. Барысаў



**Паляўнічыя масы СССР ня толькі палююць, але і ўладаюць сваёй гаспадаркай, будуюць яе**

# Абавязак кожнага паляўнічага

Працоўныя масы СССР пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі будуюць паляўнічую гаспадарку. Каб наша праца была як найбольш прадукцыйнай, каб нашы паляўнічыя багацьці былі багаты дзічай і зьверам і служылі прыкладам для працоўных мас капіталістычных краін, дзе паляваньне знаходзіцца ня толькі ў руках абшарнікаў, але дзе працоўныя масы па свайму сацыяльна эканамічнаму стану нават ня могуць паляўнічыць, нам неабходна ўсю нашу работу паставіць на належную вышыню і зрабіць нашу паляўнічую гаспадарку ня толькі багатай, але і прыкладна арганізаванай, паказальна вопытнай гаспадаркай.

Што для гэтага патрабуецца? Першна-перш неабходна прыступіць да неадкладнага афармленьня тых заказьнікаў, якія ёсьць у БССР, і абсьледваць так званыя вольныя паляўнічыя ўгодзьдзі з поўным падлікам дзічы і вывучэньнем мясцовасьці, выяўленьнем прыродных кармоў для дзічы і зьвера, а таксама адвесьці вучасткі пад новыя заказьнікі. Падругое—неабходна арганізаваць па раёнах прыпісныя паляўнічыя гаспадаркі, устанавіць там дакладную ахову дзічы, арганізаваць прыкормкі ў зімовы час натуральнымі кармамі, пабудаваць кармушкі і па-трэцяе зьнішчыць браканьерства і драпежнікаў.

Усё гэта трэба рабіць, вядома, плянава. Таму неабходна скласьці пляны памнажэньня дзічыны і эксплёатацыі прыпісных паляўнічых гаспадарак. Для арганізацыі заказьнікаў і гэтых прыпісных гаспадарак Белкохотсоюз камандыруе на месцы спэцыялістага паляўнічазнаўцу, загадчыка паляўнічай гаспадаркай „Белкохотсоюз“ тав. Сямашка. Раённым таварыствам неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўчую працу па арганізацыі заказьнікаў і прыпісной паляўнічай гаспадаркі.

Трэба адзначыць, што да гэтага часу большасьць раённых таварыстваў па пытаньню арганізацыі паляўнічых угодзьдзяў зусім нічога не рабіла, а такія адносіны, бязумоўна, недапушчальны. Раённым таварыствам неабходна ўзяцца пабальшавіцку за гэтую справу з тым, каб наша паляўнічая гаспадарка, як гэта было ўжо сказана вышэй, зьяўлялася першай, прыкладнай у сьвеце, каб яна паказала і апраўдала сваю значнасьць, каб наша пролетарская дзяржава мела пушніны па БССР не на адзін мільён рублёў, а ў два, у тры разы больш да канца пяцігодкі.

Пасьля правядзеньня арганізацыйнай работы трэба ўзяцца за зьнішчэньне браканьерства і драпежнікаў, якія разбураюць паляўнічую гаспадарку. Трэба стварыць сярод паляўнічых і насельніцтва грамадзкую думку, павесьці культурна-асьветную працу ня толькі сярод паляўнічых, але і сярод усяго насельніцтва, асабліва сярод колгаснай і бядняцка-серадняцкай моладзі, каб яна яскрава ўяўляла сабе, што такое паляўнічая гаспадарка, якую яна ролю адыгрывае ва ўсёй нашай гаспадарцы, якую шкоду прыносяць браканьерства і драпежнікі паляўнічай гаспадарцы, а значыць дзяржаве?

Якім чынам вызначыць браканьерства, па якіх адзнаках яго пазнаць? Відаў браканьерства шмат. Першы—гэта, калі чалавек паляўнічае бяз білета, а значыцца забівае дзіч і зьвера не ў часы паляваньня, калі яго могуць злавіць, а тады, калі паляўнічыя яшчэ ня бываюць на паляўнічых угодзьдзях. Другі—гэта браканьер бяз стрэльбы, які ловіць дзіч і зьвера рознымі пасткамі, сецямі і г. д. Ён вельмі шкодзен таму, што ў пастку, у сець пападае ўсё жывое—і тое, што зараз адстрэльваецца і тое, што не адстрэльваецца. Трэці—гэта член саюзу паляўнічых, які не захоўвае тэрміны паляваньня, забівае матак, чым прыносіць вялікую шкоду паляўнічай гаспадарцы, бо пакінуты вывадак птушкі ці зьвера звычайна гіне. Такі паляўнічы часта пасьля зачыненьня паляваньня страляе зайцоў на прынадзе з гумна, цецярукоў і глушцоў увесну на таку, выбірае малых птушанят з гнёздаў, выкапвае лісянят, вылаўлівае зайцоў. Ёсьць яшчэ чацьверты від браканьерства—калі яго можна так назваць,—у якім замечаны шмат паляўнічых. Гэта тыя, хто на паляваньні страляе па ўсяму жывому, бягучаму і лятучаму, па няведаньню часта за драпежніка прымае карыс-

ную птушку і забівае яе, адстрэльвае на паляваньні яшчэ недарослых птушак, або матак каля вывадку. Усё гэта наносіць вялікую шкоду паляўнічай гаспадарцы і зьмяншае запасы дзічы і зьвера на паляўнічых угодзьдзях.

Вось што зьяўляецца перашкодным у будаўніцтве паляўнічай гаспадаркі. На мой погляд, браканьерства можна зьнішчыць толькі тады, калі ўсе мы, паляўнічыя па БССР, разам з перадавой масай насельніцтва возьмемся актыўна змагацца з браканьерствам шляхам арганізацыі брыгад з паляўнічых, адбіраньня стрэльбаў і аддаваньня пад суд тых, хто нарушае правілы паляваньня і ня прытрымліваюцца гаспадарчых прынцыпаў пры паляваньні, падняцьцем культурнага узроўня сярод паляўнічых, асабліва ўсяго насельніцтва. Наркамасьветы БССР неабходна ў наступным годзе ўключыць у праграму навучэньня школьнікаў лекцыі аб ахове дзічы, прыроды наогул, аб паляўніцтве.

Акрамя браканьерства неабходна зьнішчыць драпежнікаў, як: воўк, рысь, тхор, дзікая кошка, якія павінны зьнішчацца паляўнічымі і брыгадамі з паляўнічых на працягу ўсяго году. Акрамя гэтых чатыраногіх драпежнікаў, сысуноў, ёсьць яшчэ драпежнікі пярнатыя,—гэта каршун-цецяравятнік, каршун-перапялятнік, балотны лунь, шэрая варона і сарока. Іх таксама неабходна зьнішчыць як мага хутчэй, як вельмі шкодных драпежнікаў. Напрыклад: каршун-цецяравятнік з сваёй сямьёй зьнішчае на працягу году 1 500 цецярукоў, гэта значыць 100 пудоў мяса. Ёсьць яшчэ і такія драпежнікі, як напрыклад, ліса, куніца, ласка, горнастай, мядзьведзь, дзікі кабан. Гэтыя драпежнікі або вельмі каштоўны сваім мехам, або зьяўляюцца выміраючымі, а таму ўзяты пад ахову закона і адстрэльваюцца толькі тады (кабан), калі іх шмат разводзіцца ў якім-небудзь месцы і шкодзяць сельскай гаспадарцы.

Што датычыць хатніх драпежнікаў, да якіх належаць бадзячыя сабакі і каты, якія больш бываюць у паляўнічых угодзьдзях, чым дома, кормяцца там, зьнішчаючы цэлыя вывадкі дзічы, а прыходзяць да хаты толькі на нач, дык з гэтымі драпежнікам весьці барацьбу вельмі лёгка, што паказаў бягучы год. Неабходна самым бязьлітасным чынам зьнішчаць гэтых драпежнікаў. Шкуркі іх зараз маюць вялікае значэньне ў гаспадарцы і іх неабходна здымаць і здаваць у паляўнічую гаспадарку.

Да канца пяцігодкі ў нас не павінна быць ніводнага драпежніка, ніводнага браканьера. Я заклікаю ўсіх карэспандэнтаў нашае часопісі „Паляўнічы Беларусі" да змаганьня з паказанымі шкоднымі зьявішчамі ў нашай гаспадарцы. Я заклікаю ўсіх паляўнічых і ўсё насельніцтва пісаць у насьценгазэты райтаварыстваў, гаварыць на агульных сходах, арганізоўваць брыгады з паляўнічых, наладжваць сацспаборніцтва і ўдарніцтва па зьнішчэньню браканьерства і драпежнікаў. Да канца пяцігодкі ніводнага браканьера, ніводнага драпежніка на паляўнічых угодзьдзях.

**Волдынь.**

# Як раёны падрыхтаваліся да дзічанарыхтовак

Па ўсіх раённых т-вах несваечасова былі разасланы пляны дзічанарыхтоўкі ў гэтым годзе, але ня ўсе раёны павялі падрыхтоўчую працу ў гэтай галіне. Адны паклалі гэтыя пляны пад сукно, другія абмежаваліся фармальнай пасылкай плянаў па ячэйках, трэція наогул прапанавалі кожнаму паляўнічаму ў абавязковым парадку здаць належную колькасьць дзічы і чацьвертыя — павялі растлумачальную працу сярод усіх паляўнічых праз ячэйкі, вылучылі прэміраваны фонд з шроту для прэміраваньня здатчыкаў за кожную здадзеную штуку дзічы.

Ня ўсе зацікавіліся гэтай справай і не зразумелі, што нарыхтоўкі—грунтоўная галіна нашай вытворчай працы і нельга сядзець і чакаць, пакуль самацёкам пойдзе да т-ваў забітая птушка. Таксама ня ўсе т-вы вырашалі прымаць забітую дзічыну ў сваіх крамах і потым абскубшы яе, здаваць штодзённа ў органы пушпрадукта на мясцох. Яны ня ўлічвалі таго, што такім чынам яны будуць адначасова і выконваць свае пляны па нарыхтоўцы пуха і пяра.

Далейшая праца адзначыць, якія вынікі будуць мець розныя мэтады дзічанарыхтовак, якія былі скарыстаны раённымі т-вамі.

Прыплод дзічы ў гэтым годзе павінен быць добры. Тэрміны паляваньня таксама, і каб нам выканаць і перавыканаць свае пляны, трэба кіраўнікам т-ваў зьвярнуць увагу на гэтае заданьне і своечасова і правідлова падыйсьці да яго выкананьня. Не магчыма наогул у галіне нашай грунтоўнай працы чакаць самацёку—дзічына сама ў краму не прыляціць. Калі іншыя т-вы зараз не скарысталі ўсе магчымасьці для пасьпяховага выкананьня плянаў нарыхтовак, яны павінны тэрмінова выправіць свае памылкі і да нарыхтоўкі мяса зайца падыйсьці ўжо без усякіх памылак і лепшымі спосабамі.

Да гэтага часу на старонках нашай часопісі я ня бачыў ніводнага выкліку на сацспаборніцтва з боку якога-небудзь т-ва ў адносіне выкананьня плянаў нарыхтовак, а між тым гэты бальшавіцкі мэтод работы павінен быць выкарыстаны поўнасьцю. Гэта таксама трэба ўлічыць тым т-вам, якія да гэтага часу добра выконваюць свае пляны.

**Б. С.**

# Лепшым—прэмія, зрыўшчыкаў—пад суд

Адным з галоўнейшых відаў экспарта з БССР зьяўляецца пушнамехавая сыравіна, якая займае другое месца ў экспартным балянсе, пасьля лесу.

Сюды ўваходзяць веснавыя віды пушніны: крот, вадзяны пацук, суслік і інш. Ад вывазу пушніны за-межы БССР залежаць у значнай ступені нашы закупкі за мяжою. Надаючы гэтай важнейшай рабоце выключную значымасьць, ЦП „Белкохотсоюза“, атрымаўшы плян нарыхтовак пушніны на 1931 год ад Пушнасындыкату, зацьверджаны Наркамснабам БССР, разьмеркавала яго паміж 98 райтаварыствамі, выходзячы пры разьмеркаваньні з наступнага: колькасьць паляўнічых у раёне, багацьце раёнаў зьвярам і інш. абставіны. Прыняўшы ўсё гэта пад увагу, Белкохотсоюз склаў дагаворы і падпісаў іх з райтаварыствамі па нарыхтоўцы пушніны. Гэтыя дагаворы некаторыя райтаварыствы зусім не зразумелі, не зразумелі той важнасьці, якую яны павінны адыграць пры нарыхтоўцы пушніны, не зразумелі лёзунгу „кантроль рублём“ і да гэтага часу не вярнулі падпісаных дагавароў. Апрача таго ні адзін раён па БССР ня даў сустрэчнага пляну ў бок павялічэньня пушнанарыхтовак. А разам з тым па БССР ёсьць раёны, якія ня толькі выканалі, але і перавыканалі плян пушнанарыхтовак.

Большасьць-жа раёнаў выканалі плян у сярэднім на 20—30 проц., ня гледзячы на тое, што на нарадах старшынь райтаварыстваў, якія адбыліся ў маі гэтага году ў Менску, Воршы, Гомелі і Віцебску, былі вынесены пастановы аб 100 проц. выкананьні пляну нарыхтовак, ня гледзячы на тое, што ўсе магчымасьці для выкананьня пляну ёсьць у кожным раёне.

Такая слабая нарыхтоўка тлумачыцца тым, што праўленьні раённых таварystваў не зьвярнулі дастатковай увагі на нарыхтоўкі, не прыцягнулі асноўнай масы паляўнічых да гэтай работы, не давялі да кожнага паляўнічага ў паасобку плянаў, не зьвязаліся з калгасамі, саўгасамі, школамі, піянэр-атрадамі (загатоўка крата), камсамольскімі арганізацыямі; не зарганізавалі бядняцка-серадняцкую моладзь, пастушкоў, не разьмеркавалі сваячасова краталовак па асноўных нарыхтоўчых групах па брыгадах. Поўнае адсутнічаньне інструктарскіх груп нарыхтоўшчыкаў здабытчыкаў крата, адсутнічаньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, арганізацыя брыгад — прычыны гэтага.

У сувязі з бязьдзейнасьцю райтаварыстваў прэміяльныя фонды застаюцца ў раёнах не рэалізаванымі, а таксама і вылучаныя Пушнасындыкатам 3000 рублёў для прэміраваньня нарыхтоўчых груп. Усё гэта паказвае на тое, што ў шмат якіх раённых таварыствах паляўнічых кіраўніцтва слабое, апартуністычнае. Усё гэта паказвае на тое, што такія таварыствы ў такой важнай рабоце, як нарыхтоўка крата, спадзяваліся на самацёк.

На падставе гэтага ЦП Белкохотсоюза занялося выяўленьнем зрыўшчыкаў нарыхтовак пушнамехсыравіны для прыцягненьня іх да судовай адказнасьці. Апрача таго, на такую работу райтаварыстваў павінна зьвярнуць сваю ўвагу РСІ.

Але ёсьць раёны, якія ня толькі выканалі, але і перавыканалі пляны пушных нарыхтовак—ужо гэта адно паказвае на тое, што выканаць іх маглі і другія таварыствы—гэтыя раёны наступныя: Рэчыцкі, Чачэрскі, Веткаўскі, Койданаўскі і Слуцкі. Раённыя таварыствы паляўнічых у гэтых раёнах будуць прэміраваны дэфіцытнымі таварамі і грашыма. Для гэтага яны павінны падаць у Белкохотсоюз пацьверджаныя дакумэнты аб праробленай імі рабоце па выкананьню плянаў пушных нарыхтовак.

Не сакрэт, што шкуркі здабытых зьвяроў часта застаюцца нявыкарыстанымі, гэта значыць ляжаць у здабытчыка, ня зданы ў каапэрацыю. Паляўнічыя масы БССР павінны дабіцца таго, каб кожная шкурка абавязкова пападала ў каапэрацыю, у загатоўчыя органы. Скарыстоўваючы ўсё пушное багацьце БССР, усе магчымасьці, мы дапаможам выкананьню пяцігодкі ў чатыры гады.

Вадзынь.



Разьведчык.

# Трусагадоўля

## ЦІ ІСНУЕ „КОКЦИДИОЗНЫЙ НАСМОРК“

Мы лічым, што так званы „кокцидиозный насморк“ адносіцца да ліку тых заблуджэньняў, якіх нямала ёсьць у паталёгіі трусоў

Энзоотычнае ўспаленьне носа трусоў (rhinitis coccidiosa, Tosartioge Schnupfen), вядома даўно, але тыолёгія яго доўга ня была вядома. У 1878 годзе Цурн Türn), знайшоўшы ў сьлізі носа хворых насмаркам трусоў „псоросьпермін“ (кокцыдый) прыпісаў прычыну яго гэтым прасьцейшым. З лёгкай рукі гэтага аўтара тэрмін „кокцидиозный насморк“ замацаваўся як сярод трусаводаў, так і сярод вэтэрынарных урачэй. Лічыцца нават, што насмарк зьяўляецца абавязковым зьявішчам кокцыдзіоза. Аднак, ніхто ня стане адмаўляць, што больш выпадкаў кокцыдзіоза працякае зусім без насмарку. З другога боку мы назіраем насмарк, які выклікаецца разнымі прычынамі (хэмічнымі, тэрмічнымі, а інфэкцыйны насмарк—бактэрыяльнага паходжаньня). Некаторыя аўтары ў сучасны момант апісваюць кокцыдзіозны насмарк як самастойнае захварэньне. Зэйфрыд (Soijrid) 1927 году гаворыць, што „як кішэчны і пячонкавы кокцыдзіозны, так і выкідаемы кокцыдзіямі рэміт выклікае Coccidum oriforme S. cuniculi (Emeria stiedae); галоўным чынам у поласьці носа знаходзяць Coccidium perforans, малую форму Coccidium oriforme“.

Макарэўскі (1930 год) лічыць, што ўзбуджальнікам яго зьяўляецца адна з кішэчных кокцыдзій (Eimeria perforans), якая нібы выклікае кокцыдзійнае ўспаленьне сьлізістай абалонкі носа, прымаючае амаль такую ж абвострануюформу, як і кішэчны кокцыдзіоз. Роўным чынам і ў іншых падручніках па трусагадоўлі (напрыклад, Гадзяцкага, 1930 год) ёсьць параграфы, якія гавораць аб гэтым захварэньні, прычынай якога лічаць кокцыдый. Тое ж самае гаворыць Міхнін (часоп. „Кролиководство“, 1930 г., № 8—9, старонка 18). Мала таго, некаторыя аўтары нават выказваюцца за асобны від кокцыдый. Так, Макарэўскі, у сваёй кніжцы „Хваробы трусоў і зайцоў“, 1930 г. гаворыць: „магчыма, што ў даным выпадку мы маем некаторую разнавіднасьць кокцыдый, якая мае схільнасьць разьвівацца на сьлізістай абалонцы носа“.

Аднак ці існуе насмарк, прычынай якога зьяўляецца пранікаьньне кокцыдый у поласьць носа? Разьбярэм гэтае пытаньне згодна протозолёгічных даных.

Каб лічыць насмарк „кокцыдыозным“ неабходна, каб ён выклікаўся кокцыдыямі. Аднэй наяўнасьці ў сьлізі носа оацыст кокцыдый зусім недастаткова, каб называць яго кокцыдыозным.

Для таго, каб трус заразіўся якой небудзь формай кокдыоза— кішэчнай або пячонкавай, неабходна, каб ён праглынуў сьпелую оацысту, г. зн., якая прышла ў стан спор і споразаітаў (Ня сьпелыя оацысты ня могуць выклікаць хваробы). Пад уплывам сокаў кішэчніка і панкрэатычнай залозы абалонка оацысты (або вярней тая частка, дзе знаходзіцца мікропіле)расчыняюцца і споразаіты выходзяць на двор. Яны пранікаюць у эпітэлій (пячоначная Eimeria stiedae — у эпытэлій страўнікавых ходаў, а кішэчныя Eimeria perforuns і Eimeria magna ў эпітэлій кішэчніка) і праробліваюць у ёй шызагонны (бясполавы) спосаб памнажэньня, які канчаецца ўтварэннем мерозоітаў. Апошнія таксама пранікаюць у эпітэлій і зноў пачынаецца шызагонія. І так утвараецца некалькі раз, пакуль шызагонію не зьмяняе гаметагонія (утварэньне полавых форм), пасьля чаго наступае апладненьне з утварэньнем оацыст, якія потым выкідаюцца вон. Разбураюць эпітэліяльныя каморкі і значыцца служаць прычынай хваробы шызагоны і, можа быць, гаметы (полавыя формы); оацысты-ж, якія ўтвараюцца ў выніку апладненьня, не зьяўляюцца агентамі разбуральнікамі.

З гэтага відаць, што для таго, каб абвінавачваць кокцыдыю ў выкліканьні захварэньня носа, сымптомам якога явіўся б насмарк, неабходна, каб у насавыя поласьці папала сьпелая оацыста. Потым неабходна, каб абалонка расчынілася пад уплывам насавой сьлізі, але да гэтага

часу ніхто яшчэ не давёў, каб насавая сьлізь уладала такой-жа расчыняючай уласьцівасьцю, якой уладаюць сокі кішэчнай і падстраўнікавай залоз. Потым неабходна, каб спораэаід пасяліўся ў эпітэліяльных каморках насавой поласьці і прарабіў там n—ую колькасьць шызагоній, а потым гаметагонію і апладненьне з паступовым утварэньнем оацыст. Гэтага таксама яшчэ ніхто не апісаў. Наяўнасьць-жа ў сьлізі оацыст яшчэ не гаворыць за тое, што яны зьяўляюцца прадуктам тых працэсаў, якія мы толькі што апісалі. Наяўнасьць іх у сьлізі можа быць зусім выпадковай, і туды яны могуць папасьці знадворку, нават можна дапусьціць, што мэханічным штурханьнем оацысты могуць папасьці ў насавую поласьць, але паўтарасм, развіцьцё іх там ніхто яшчэ не апісаў, а раз у насавой поласьці ніякага разьвіцьця кокцыдый не ўтвараецца, дык думаць аб „кокцидиозном насморке“, як абасобнай носалёгічнай адзінцы будзе справай не навуковай і супярэчлівай даным протозоолёгіі.

Між іншым ня ўсе аўтары прыпісваюць кокцыдыям эціолёгічную ролю. Напрыклад, Дзехцяроў, 1930 год, весткі аўтараў аб кокцыдыозным рыніце лічыць недастаткова праверанымі; асабіста яму кокцыдыоза насавой поласьці бачыць ня прыходзілася. Зацікаўленыя гэтым пытаньнем мы таксама ўтварылі нямала досьледаў насавой сьлізі ў трусоў, хварэючых насмаркам, але ні ў адным выпадку оацыст не знаходзілі. Досьледы ў гэтым напрамку намі працягваюцца.

Праф. акадэм. **В. Л. Якімаў.**

# Работа з кокцыдыознымі трусамі

Пасьля распрацоўкі мэтадаў прывівак супроць сэптыцэміі самым страшэнным па сваіх практычных выніках інфэкцыйным захварэньнем трусоў застаецца, як вядома, кокцыдыёз. Штогадовы вялізарны адыход маладняка ад гэтай хваробы, даходзячы ў асобных гаспадарках да 80—90 проц., зьяўляецца самым сур'ёзным тормазам у справе разгортваньня масавай трусагадоўлі ў Саюзе да разьмераў, адпавядаючых і капіталаўкладаньням у гэтую справу і патрэбнасьцям краіны. Гэта прымушае саміх трусаводаў незалежна ад лябораторных досьледаў навуковых устаноў шукаць нейкага выхаду з становішча на сёньняшні дзень, і ўсякая колькі-небудзь удалая папытка практычнага вырашэньня праблемы трусавога кокцыдыоза мае па гэтаму вядомую грамадзкую каштоўнасьць.

У двухгадовай практыцы Байкальскага зьверасаўгасу выявілася поўная магчымасьць атрыманьня ўстойлівага супроцьзахварэньня патомства ад хворых кокцыдыозам бацькоў пры захаваньні вельмі нескладанага, але некалькі рознага, ад агульна прынятага і рэкамандуемага звычайна папулярнай літаратуры рэжыму.

Выходным момантам работы была прыёмка мною ў сакавіку 1929 году ў ліку іншых жывёл былога першага Сібдзяржгадавальніка пушных і капытных зьвяроў 16 самак і 6 самцоў трусоў пароды дробны-шаншыл, народжаных у жніўні-верасьні 1928 году ад увезеных з Германіі бацькоў. І аналізам лябораторыі Іркуцкага унівэрсытэту і маімі праглядамі пад мікраскопам устанаўлівалася суцэльная заражанасьць стада кокцыдыозам. Узімку агульны стан трусоў пагоршыўся яшчэ шэрагам іншых захварэньняў, галоўным чынам знадворных, але вясной амаль усе гэтыя захварэньні былі ліквідаваны, так што да лета засталіся толькі кокцыдыоз і заразны насмарк.

Сутнасьць дапасованага да стада рэжыму заключалася ў тым, што ўперад за ўсё для кожнага труса былі адведзены дзьве клеткі, пры чым перасадка ўтваралася не праз традыцыйны тыдзень, а праз кожныя тры дні, на чацьверты. У чыстую клетку пераносіўся толькі сам трус, а пасудзіна паступала непасрэдна ў кацёл, дзе кіпяцілася на працягу поўгадзіны. Астача карма і гной, сабраныя ў латкі зараз-жа спаліваліся, пры ўборцы зьвярталася асаблівая ўвага на тыя прыватнасьці дэзынфэкцыйнага і прафіляктычнага парадку, не захаваньне якіх зводзіць звычайна самыя прадуманыя сыстэмы ні-на-што: каб бруд з клеткі не рассыпаўся з латка на падлогу, каб латкі і савочкі для чысткі пры пераходзе да кожнай на-

ступнай клеткі акуналіся ў расчыну крэаліна і г. д.

Аслабанёная клетка падлягала агнявой дэзінфекцыі паяльнай лямпай з паступовай пабелкай вапнай і праз 3 дні засялялася нанава.

Усякая падсьцілка была адменена, а падлога клеткі пасыпалася тонкім пластом сьвежа-пагашанай вапнай, паверх якой клаліся сухія апілкі.

За 3 дні да радоў перасадка трусіх спынялася да таго часу, калі трусяняты пачынаюць рабіць першыя спробы выхаду з гнязда, пасьля чаго перасадка пачыналася нанава.

Па дасягненьні трусянятамі двухтыднёвага ўзросту вывадкі высаджваліся ў летнія выгулы агульнапрынятага ў сыстэме пушнасындыкату тыпу з земляной падлогай плошчай 2×3 м. і дрывянымі прытулкамі 2 м.×30 см. Тут перасадка ўтваралася з ранейшай рытмікай, але лямпай прапальвалася толькі прытулішча, плошча-ж самога выгулу пасьля ачысткі пасыпалася расьцёртай нягашанай вапнай з паступовай паліўкай з лейкі.

У зімнія месяцы, пачынаючы з лістапада ў клетку, вядома, кладзецца падсьцілка, якая мяняецца таксама праз кожныя 3 дні.

Пры такім доглядзе і пры вельмі далікатным і аднолькавым харчовым рэжыме мы маем за гэтыя два гады здавальняючыя вынікі. Так, у 1929 годзе ад 15 самак (адна пала пры першых родах) было ўзята два памёты. З атрыманых 165 трусянят да 7 лістапада загінула 4 трусянят—2 з адзнакамі цымпаніта і 2 ад мэханічных папсаваньняў, ды ў канцы лістапада замерзла 6 трусянят позьніх вывадкаў, які засталіся і зімой разам з сваім стадам на адкрытым паветры. Апошні маладняк быў заведзен да дарослага стану.

Пасьля перадачы часткі прыплода іншым арганізацыям і забою на працягу зімы большай часткі стада ў мэтах ліквідацыі насмарка да вытворчага сэзону 1930 г. у трусятніку заставалася толькі 13 самак і 2 самцы. Усяго за гэты год ад іх атрымана 256 трусянят, з якіх да 7 лістападу загінула двое.

У гэтым годзе перамены клетак не ўтвараецца, але ў апошнім чыстка праводзіцца ранейшым парадкам і ў тыя-ж тэрміны. У выгулах паранейшаму ўтвараецца перасадка.

Неабходна адзначыць, што ў пасьпяховым правядзеньні вышэйпаказанага рэжыму, а яму менавіта і належыць прыпісаць атрыманыя вынікі, вялізарную ролю сыграла тая абставіна, што з самага пачатку мы адмовіліся ад агульна прынятай канструкцыі клетак з падвойнымі падлогамі. У нас дно клеткі ўяўляе сабой ардзінарную, шчыльную дашчатую падлогу, прасмоленую і засыпаную па гарачай смале попелам.

Пад'ёмная сетачная падлога, маючая назначэньне забясьпечыць вялізарную чыстату клетак, на практыцы звычайна зьяўляецца асноўнай крыніцай заразы з прычыны вялікай цяжкасьці ўтварыць ачыстку і дызэнфэкцыю між планкамі з неабходнай шчыльнасьцю, не гаворачы ўжо аб тым, што работа з ёй вымагае куды больш часу. Калі пры адзіночных падлогах на ўсе маніпуляцыі, зьвязаныя з чарговай чысткай, г. зн. ачыстку, прапальваньне і закладку сьвежай вапны і апілак уходзіць у сярэднім 8—9 мінут на клетку, дык пры падвойных падлогах на гэтыя апэрацыі патрабуецца больш, чым патроеная колькасьць часу, што ніколі не давала магчымасьці ажыцьцявіць прынятую ў саўгасе нагрузку ў 100 трусоў на аднаго даглядальніка, якая найлепш апраўдвае сябе гаспадарча.

Павінен агаварыцца, што дапасаваньне складзенага рэжыму, забясьпечваючы атрыманьне ўпаўне жыцьцяздольнага патомства, ня прыводзіць, вядома, да канчатковай ліквідацыі кокцыдыоза. Заражэньне трусянят усё-ж утвараецца, але першыя ооцысты пачынаюць прыглядацца толькі ў трусянят старэй двухмесячнага ўзросту, і хвароба ніколі ня прымае той вострай формы, ад якой бывае звычайна адход маладняка.

Наяўнасьць-жа кокцыдый пры форме хранічнай, не перадаючыся ніколькі ні на прадукцыйнасьць трусоў, ні на іх экстэр'ерных якасьцях, ні на іх веку, перастае мець сур'ёзнае практычнае значэньне.

**Ул. Падароўскі.**

**Да канца пяцігодкі ніводнага ваўка ў лясох Беларусі.**

# ВОЎК*)

(*Працяг*)

Хаця воўк па сваіх драпежніцкіх нападах на хатнюю жывёлу і нават на чалавека добра ўсім паляўнічым і сялянам вядомы, аднак-жа, жыцьцё ваўка, яго паводкі і ўласьцівасьці дасканальна ня ўсім вядомы.

Селянін, бачачы сацыяльна-гаспадарчую шкоднасьць ваўкоў здаўна прыраўнаваў яго да другога свайго суседа паразіта—да абшарніка і часта называў ваўка „шэрым абшарнікам“. Але, каб з посьпехам зьнішчыць ваўка, мала ведаць яго агульную ўласьцівасьць—шкоднасьць і яго драпежна паразытычнае жыцьцё і практыку, а трэба добра і дакладна ведаць усё жыцьцё ваўка ад нараджэньня да старасьці, яго паводзіны, спосабы харчаваньня, здабываньня дзікай і хатняй жывёлы і інш.

Воўк зьяўляецца сабакападобным драпежнікам і вадзяўся ці водзіцца амаль што ўсюды ў Эўропе, Азіі і ў Паўночнай Амэрыцы за выключэньнем палярнай поўначы. У Афрыцы, у Паўднёва-заходняй Азіі, у Аўстрыі і ў Паўночнай Афрыцы ваўкоў няма. Замест іх у гэтых апошніх краінах водзяцца іншыя сабакападобныя драпежнікі: розныя шакалы (Афрыка, Азія), дзінго (Аўстралія). Дзінго, які рабіў ня менш шкоды аўстралійскім авечым статкам, чым звычайны шэры воўк нашым, цяпер амаль што зьнішчаны, як і воўк у Англіі і ў Заходняй Эўропе. Як кажа Брэм „Ваўкі розьняцца вялікаю колькасьцю мясцовых форм і разнастайнасьцю ў масьці шэрсьці. Сярод іх бываюць зусім чорныя і зусім белыя“. Але мы тут спынімся і будзем разглядаць звычайнага шэрага ваўка, які водзіцца амаль што ўсюды ў СССР, а ў Беларусі зьяўляецца выключным тыпам.

Воўк мае выгляд сабакі з трохі абвіслым, але заўсёды роўным хвастом. Корпус яго худы і паджары з трохі абвіслым задам, загрывак—высокі, шыя тоўстая, якой воўк ніколі ня згінае, але калі трэба павярнуць галаву, дык ён паварачваецца ўсім корпусам. Галава ў параўнаньні з мордаю шмат шырэйшая і дзеля гэтага воўк робіць уражаньне вострашчыпага. Вочы прарэзаны наўкось, вушы кароткія і заўсёды падняты тырчма. Зубоў у ваўка, як і ў іншых сабакападобных драпежнікаў, 42. Дарослы воўк мае даўжыню каля 1,6 мэтра.

Хаця воўк выходзіць на паляваньне і ўдзень і задзірае скаціну на пашы, але звычайнай парою, калі ён выходзіць за спажываю, ёсьць ноч. Воўк зьяўляецца пераважна начным драпежнікам, а ўдзень ён звычайна сьпіць і адпачывае дзе-небудзь у патайным месцы ці логаве пры маладых ваўчанятах. Вочы ваўка прыстасаваны да такога начнога жыцьця і паляваньня, добра бачаць у цемры і маюць як і вочы іншых начных драпежнікаў, фосфарычны бляск.

Воўк ня толькі зьяўляецца сабакападобным драпежнікам, але ён ёсьць блізкі родзіч сабакі. Гэта даводзіцца тым, што воўк лёгка мяшаецца (паруецца) з сабакам і прыплод ад гэтай мешаніны бывае вялікі, здаровы і нават удалы. Блізкае радство з сабакам аднак-жа не перашкаджае ваўком задзіраць сабак, якія ўзімку зьяўляюцца галоўным наедкам для абяднелых „шэрых абшарнікаў“, а сабакам не перашкаджае быць сярод іншай хатняй жывёлы найзьлейшым ворагам ваўкоў—ганяць, травіць і нават загрызаць.

Зрок, нюх і слых ваўка як і ў іншых драпежнікаў, якім з цяжарам, з небясьпекай для жыцьця і з неабходнасьцю перамаганьня самаабароны афяры прыходзіцца здабываць сабе спажыву, вельмі добрыя. У параўнаньні з іншымі органамі пачуцьця ў ваўка найлепшы слых; калі нюхам воўк можа пачуць пах падлы ці чаго іншага проці ветра на дзьве вярсты і больш, дык вухам ён чуе на 5—8 вёрст. Што нюх у ваўка слабейшы, чым слых, відаць з наступных прыкладаў. Што воўк за зайцам ці іншай жывёлай ніколі не ганяецца па нюху, а толькі бяжыць за імі, калі іх бачыць (гоніць „на вока“). Вочы ў ваўка, як і ў іншых драпежнікаў, маюць

---

*) Гл. „П. Б“ № 6.

тую вялікую перавагу, што вельмі добра, ня горш, як удзень бачаць у цемры ночы. Але воўк здох бы з голаду, каб яго, як кажуць „не кармілі ногі“. І сапраўды, часам з прычыны недахопу, а часьцей для перасьцярогі ад небясьпекі, або, каб дагнаць уцякаючую здабычу, ваўку трэба прабегчы шмат дзесяткаў кілёмэтраў. Каб набіць сваё ненасытнае „абшарніцкае“ бруха, каб наесьціся ў запас, як гэта робяць ваўкі, і каб накарміць свой прыплод, які першыя паўгода і нават болей, ня можа самастойна выходзіць на паляваньне і здзіраць здаровую жывёлу. Ваўку трэба, бывае, за ноч прабегчы вялікую адлегласьць (да 70 кілёмэтраў), мець добрыя ногі. Ён іх і мае ад прыроды: ногі ваўка моцныя і трывалыя. Пярэднія ногі стаяць вузка адна каля аднэй, а заднія троху шырэй, апошнія воўк, крадучыся да сваёй здабычы часта падгінае. З гэтае прычыны нават, калі воўк стаіць, ён робіць уражаньне троху— нібы прысеўшага і зад яго здаецца абвіслым.

Ваўкі цэнтральнай часткі СССР і ў Беларусі шэрай масьці з амаль што чорным хрыбтом. Зімовая скура ваўка густая і параўнальна дорага цэніцца. Акрамя зьнішчэньня ваўка, як шкодніка паразыта, паляваньне на яго дае добрую экспартную пушніну і прыбытак. Воўчых скур з СССР вывозяць штогодна да 100.000 штук.

Плодзяцца ваўкі, робяць свае сямейнае логава ў залежнасьці ад мясцовасьці, дзе яны вядуцца: у тарфяных амшарах, у лясных лагчынах, у частым маладняку ці ў кустох на нізінах, у непраходных альшэўніках. У сьцяпох воўк плодзіцца ў зарасьлях, у ляскох, калі яны ёсьць, і ўрэшце ў высокай траве і ў хмызьняках па берагох рэчак і вазёраў. Гнязло, г. зн. месца, дзе шчэніцца ваўчыца, робіцца ёю проста на трохі раскопанай зямлі ў сухім і патайным месцы пад кустом ці пад каменем. Калі ў лесе ці ў кустох ёсьць шчыліны ў гары ці пячура, дык ваўчыца часта выкарыстоўвае для гнязда; для гэтай жа мэты ваўкі залазяць у лісіныя ці барсуковыя норы: але сваіх нораў самі ваўкі для гнязда амаль што ніколі не капаюць, а толькі пашыраюць ужо гатовыя. Логава робіцца заўсёды недалёка ад вады, бо ваўкі часта п'юць і выводзяць на вадапой маладых.

Паруюцца ваўкі зімою: мацерыя ў сьнежні і студзені месяцы, а пераяркі — на месяц пазьней. Спачатку параваньня і аж да пары, пакуль не падрастуць маладыя ваўчаняты, ваўчыца і самец, якія спараваліся, ходзяць і жывуць разам. У гэтым сэнсе ваўкі зьяўляюцца жывёлай парнай і першы амаль што цэлы год пасьля спараваньня самец і самка разам з маладымі ваўчанятамі жывуць цэлай сям'ёй. У час параваньня паміж самцамі вядзецца крывавая барацьба за самку. Хто пераможа ў гэтай барацьбе, той застаецца з самкаю амаль што да наступнага лістапада ці сьнежня месяца, калі зусім падрастуць маладыя ваўчаняты.

Ваўчыца носіць шчанят 64 дні і пасьля гэтага родзіць іх сьляпымі; ваўчанят яна звычайна прыводзіць 4—6 штук, але бывалі выпадкі, калі ў адным гнязьдзе знаходзілі 10—12 ваўчанят. Першыя пяць, шэсьць тыдняў пакуль шчанята сасуць матку, яны даглядаюцца і кормяцца толькі ёю, а потым у доглядзе і асабліва ў кармленьні прымае актыўны ўдзел і бацька гнязда—самец. Ён прыносіць у гняздо спачатку дробную жывёлу, а потым буйнейшую. Ваўчаняты на 6 ым тыдні ўжо маюць такія моцныя і вострыя зубы, што могуць грызьці дробныя косьці, а ў 4—5 месяцеў яны могуць зарэзаць ягнё. Апошніх бацькі часта прыносяць у логава жывых, каб напрактыкаваць на іх маладых, як драць жывую скаціну. Ваўчыца даглядае за логавам і абараняе яго ад ворагоў. Паблізу двух воўчых логаваў быць ня можа, бо адна ваўчыца, калі даведаецца пра суседняе гняздо, дык абавязкова паесьць у ім маладых ваўчанят. Пакуль ваўчаняты малыя, ваўчыца бароніць іх ад ворагоў і кідаецца на іх, а калі маладыя падрастуць, дык толькі дае сыгнал аб небясьпецы і сама першая ўцякае, а потым пераводзіць гняздо ў іншае месца, але паблізу ад ранейшага. Большую частку клопатаў аб сям'і, аб харчох для яе прымае на сябе ваўчыца, але і самец, наеўшыся сам, прыносіць у логава рэшту ад свайго „абшарніцкага“ стала. Летам гэтыя рэшты бываюць досыць багатыя і маладыя ваўчаняты, такім чынам, бываюць добра дагледжаны і выкармлены бацькамі.

Пасьля таго, як маладыя падрастуць, бацькі пачынаюць браць іх на паляваньне (жнівень—верасень) і навучаюць хадзіць

адзін за адным ступа ў ступу і розным драпежніцкім спосабам (драць скаціну за горла, скрадвацца і інш.).

Каб не паказаць месца, дзе знаходзіцца гняздо, старыя ваўкі, пакуль маладыя не падрасьлі, ніколі не бяруць хатняй жывёлы паблізу: чалавека ваўкі найбольш баяцца і, каб перасьцерагчы сябе ад небясьпекі, яны да часу не чапаюць скаціны з бліжэйшых месц, а ходзяць за спажываю за 10 і больш вёрст. Прысутнасьці паблізу воўчага гнязда і адносным супакоем на полі летам для скаціны сяляне бываюць рады і вельмі часта не чапаюць гнязда. Але гэты погляд вельмі шкодны і нядбайны, бо для воўчых ног ня цяжка прабегчы 10 вёрст за спажываю, пакуль маладыя яшчэ не падрасьлі, але за тое, потым, калі яны вырастуць, або калі выпадкова загінуць маладыя ваўчаняты, дык найбольш прыходзіцца цярпець ад ваўкоў бліжэйшым статкам і гаспадаркам. Калі загінуць маладыя ваўчаняты, дык старыя і пераяркі, якія былі пры лагве, пачынаюць рэзаць без разбору бліжэйшыя статкі, таксама практыка маладых на паляваньні пачынаецца з бліжэйшых месц, і там, дзе ў чэрвені, ліпені і ў жніўні было ціха, у верасьні ваўкі пачынаюць драць хатнюю жывёлу. Сялянскім гаспадаркам прыходзіцца расквітвацца за сваю ранейшую нядбайчасьць, калі было лёгка зьнішчыць усё воўчае гняздо.

З верасьня месяца воўчая сям'я пакідае свае логавы і пачынае памалу пераходзіць у іншыя месцы, але часта варочаецца і наведваецца да свайго логава. У кастрычніку і лістападзе ваўкі вандруюць па ўсіх мясцох, ня пільнуючыся сям'і, а ў сьнежні пачынаюць грацца маткі: ваўкі пачынаюць стаіцца, вясьці барацьбу за самкі, а там зноў ідзе параваньне і новая сямейнае жыцьцё пары і гадаваньне маладых.

Спажыва ваўку даецца цяжка і з гэтае прычыны пры шуканьні лепшых месц ваўкі ў час вандраваньняў па восені і асабліва ў час зьбіраньня ў стаі зімою, пераходзяць з месца на месца на вялікія адлегласьці і зьяўляюцца там, дзе іх раней ня было, або сходзяць з тых месц, дзе пладзіліся. Але пры звычайных акалічнасьцях мацерая самка або самка пераярка імкнецца зрабіць новае гняздо каля леташняга логава або каля знаёмага месца, дзе яна сама зьявілася на сьвет.

Воўчы век роўны 15—20 гадам, але цяжкія ўмовы воўчага жыцьця, недахоп харчоў, асабліва ў сьнежныя цяжкія зімы, зьнішчэньне ваўка чалавекам і іншыя прычыны рэдкаму ваўку даюць магчымасьць на шмат больш перажыць свой найлепшы 5—7 гадовы ўзрост. „У цяжкай барацьбе за сваё існаваньне нямногія ваўкі выжываюць і палову свайго веку“, — кажа Салаўёў у сваёй кніжцы „Воўк і яго зьнішчэньне“.

Каб скончыць гэта кароткае апісаньне воўчага жыцьця, трэба некалькі слоў сказаць аб так званых пераярках, якіх амаль што заўсёды можна застаць летам пры воўчай сям'і. Пераярак—гэта ёсьць воўк пярэзімак; звычайна ў час параваньня мацерыя ваўкі і леташнія пераяркі, як дужэйшыя разганяюць маладых самцоў і маладых самак і апошнія, праблытаўшы самастойна канец зімы і весну потым знаходзяць гняздо маладых і прыстаюць да яго. Харчуюцца пераяркі самастойна, і не заўважана, каб яны прымалі які-небудзь удзел у доглядзе і кармленьні воўчай сям'і, да якой прысталі. Яны жывуць пры сям'і нібы для кампаніі, каб наступнаю зімою, дасягнуўшы ўжо поўнага ўзросту спарвацца і скласьці новую самастойную сям'ю. Але пераяркам— самцом па другой зіме рэдка ўдаецца спарвацца, бо іх адбіваюць ад самак — пераяркаў дужэйшыя. Мацерныя ваўкі, а самцам пераяркам прыходзіцца хадзіць трэцяе лета свайго жыцьця ў якасьці халастога мацернага ваўка, — якіх толькі і можна застаць летам паасобна ад сям'і. Усе іншыя ваўкі: спараваныя мацерыя, маладыя ваўчаняты і пераяркі, якія прысталі да гэтай сям'і, усё лета жывуць разам. Вось чаму на летніх аблавах можна зьнішчыць цэлую стаю да 10 штук (двое старых, 4—6 шчанюкоў і 1—3 пераяркі).

### Спосабы зьнішчэньня ваўка

Спосабы зьнішчэньня ваўка былі ўжо пералічаны раней (№ 6 часопісі „Паляўнічы Беларусі“). З гэтых спосабаў сэзоннае значэньне маюць: летнія воўчыя аблавы і зьнішчэньне воўчых гнёзд, на гэтых спосабах я цяпер і спынюся.

З дадзенага вышэй кароткага нарысу аб жыцьці ваўка відаць, што ўлетку найлягчэй зьнішчаць маладых ваўчанят, пакуль яны не пайшлі ў паход і пакуль трымаюцца ці ў самым логаве, ці каля яго. Трэба тут

вдзначыць, што летняе зьнішчэньне ваўкоў не дае пушніны і на першы погляд менш карыснае, чым зімовае. Але гэты погляд памылковы, бо ўлетку, калі страціш на якасьці, дык гэта нагоніш на колькасьці. Страты на пушніне ў шмат разоў акупяцца тою карысьцю, якую будзе мець народная гаспадарка ад таго, што ня трэба будзе карміць і выгадоўваць зьнішчаных маладых пражорлівых паразітаў. Гэта відавочна і, ня гледзячы на тое, што з летняга ваўка няма добрай пушніны, трэба карыстацца гэтаю добраю парою, калі можна лёгка зьнішчыць цэлую воўчую сям'ю ў складзе да 10 шт. ваўкоў рознага ўзросту.

Зьнішчэньне гнёздаў лепш за ўсё вытвараць у маі, чэрвечі і нават ліпені месяцы, калі маладыя ваўчаняты сядзяць у гняздзе, бегаюць па логаве і потым ходзяць са старымі на вадапой. Шукаць воўчае гняздо, як было раней адзначана, трэба ў патайных мясцох, у глыбіні амшараў, у густых маладых кустох ці ў густым маладым лесе па нізінах у непраходных альшэўніках і інш. Воўчае гняздо абавязкова будзе знаходзіцца паблізу ад возера, рэчкі ці крыніцы. Ад гэтых вадапояў, калі паблізу ёсьць воўчае гняздо, будзе да яго ісьці пратаптаная ваўком сьцежка, па якой добра можна высьлядзіць ваўкоў. Трохі пазьней, калі ваўчанятам старыя пачнуць прыносіць у логава розную жывёліну, пазнаць, дзе знаходзіцца воўчае гняздо, можна па тым смуродзе, якое ідзе ад логава і ад згноеных там аб'едкаў воўчага стала і па раскіданых навокал логава касьцях больш буйных жывёлін. Таксама можна прасьлядзіць воўчае гняздо па крыку вараньня, якое заўсёды кружыцца каля воўчага логава і жывіцца аб'едкамі з „панскага стала“. Але найлепшым спосабам высьледжваньня воўчага гнязда зьяўляецца падслухоўваньне, калі яны выюць. Самец, а найчасьцей самка, калі раніцаю варочаецца з начнога паляваньня ў логава, дык, каб даць аб сабе вестачку дзецям, пачынае выць, а ваўчаняты ўжо ў чэрвені месяцы могуць ёй адказваць таксама выям на розныя галасы. На гэты вый часам адгукаюцца і перавяркі, і такім чынам па рачяшняй пераклічцы ваўкоў можна высьлядзіць іх логава. Позна ўвечары, калі старыя выходзяць з логава, яны таксама часам пераклікаюцца, але гэта бывае радзей. Калі хто ўмее падвываць маладых ці старых, дык гэтым спосабам можна дайсьці да самага логава, а таксама прывабіць на стрэл старую ваўчыцу ці маладых ваўчанят. Але ў апошнім выпадку, калі ёсьць магчымасьць лепш не здавальняцца паасобным стрэлам, тым больш, што пасьля яго ваўкі могуць перайсьці ў інш. месца,—а трэба сабраць паляўнічых ці проста ахвотнікаў з насельніцтва і зрабіць аблаву ці зьнішчыць усё гняздо маладых ваўчанят.

Калі гняздо знойдзена і хочуць сабраць ваўчанят жывымі, дык трэба памятаць, што ваўчыцца добрая матка і што яна перш адводзіць чалавека ад гнязда, а потым, калі бачыць, што гняздо знойдзена, дык на няўзброенага чалавека, як і на іншага ворага, яна можа кінуцца і загрызьці. Дзеля гэтага забіраць маладых з гнязда трэба хадзіць са стрэльбаю ці інакш узброеным.

Зьнішчэньне гнёздаў добры спосаб барацьбы з ваўкамі, але ім трэба карыстацца пакуль вывадак яшчэ зусім малады і шчанюкі з гнязда не распаўзаюцца далёка ад яго. Пазьней пры набліжэньні чалавека матка ўцякае першая, а за ёю ў розныя бакі разьбягаюцца маладыя ваўчаняты і зашываюцца па кустох так, што іх цяжка знайсьці. Акрамя таго пры зьнішчэньні гнёздаў найчасьцей застаюцца жывымі старыя самец і самка і пераяркі, якія прысталі да воўчай сям'і. З гэтай прычыны зьнішчаць гняздо абавязкова



На прывале.

трэба вытвараць толькі тады, калі няма магчымасьці зрабіць аблаву каля логава і зьнішчыць разам з маладымі і бацькоў, а таксама і пераяркаў. Летняя аблава зьяўляецца лепшым спосабам зьнішчэньня воўчай сям'і ўлетку.

Летняя аблава па колькасьці забітых ваўкоў пры іншых роўных умовах заўсёды бывае больш здабычлівейшая, чым зімовая. Галоўнаю перавагаю летняй аблавы перад зімоваю зьяўляецца высьледжваньне і большая сталасьць месца, дзе трымаюцца ваўкі. Як было раней паказана ўся воўчая сям'я ў колькасьці да 10 штук, усё лета трымаецца разам прыблізна ў адным месцы каля логава. Зімою-ж ваўкі вандруюць большымі ці меншымі стаямі і іх цяжка асачыць. Там, дзе іх знойдзеш сёньня, пакуль арганізуеш аблаву, можна ўжо не знайсьці; а ўлетку можна быць пэўным, што калі знойдзена логава, дык і праз тыдзень усю сям'ю можна знайсьці на ранейшым месцы, калі яе моцна не патрывожыш.

Акрамя таго ўлетку маладыя ваўкі дурнейшыя і слабейшыя, чым прыбылыя зімовыя; бацькі ўлетку таксама пільней пры іх трымаюцца, у той час як нават увосень старыя часта пакідаюць надоўга, а часам і назаўсёды сваю сям'ю. Зімовага ваўка ўзяць шмат цяжэй, чым летняга Праўда летні воўк не такая зайздросная штука для паляўнічага, чым зімовы, але калі справа ідзе аб зьнішчэньні ненаедпага паразіта і драпежніка, дык усе густы трэба адкласьці ўбок і зьнішчаць ваўка тады, калі гэта лепш і наогул можна зрабіць.

Высьледжваньне (асочваньне) воўчага логава такое самае, як і пры зьнішчэньні воўчых гнёздаў: найлепш карыстацца падвываньнем, бо іншыя спосабы больш выпадковыя.

Што-ж да спосабаў аблавы, дык аб іх будзем гаварыць у наступным артыкуле, калі будзем пісаць аб аблавах наогул. Тут толькі адзначаем, што флажкі, якімі з посьпехам можна карыстацца зімою, улетку ня маюць такога значэньня, бо паміж зялёнага лісьця і травы яны мала прыметны і ня робяць такога ўражаньня на ваўка як тады, калі выразна чырванеюць на белым суцэльным сьнежным фоне.

Тамаш.

# Цецярук і паляваньне на яго

Сярод паляўнічых птушак нашай фаўны бязумоўна першае месца ў нас у Беларусі займае цецярук. Цецярук—аб'ект паляўнічай увагі аднолькава і для паляўнічага гораду, і для паляўнічага вёскі. Птушка гэта цягне да сябе паляўнічага на працягу ўсяго году, вядома, за выключэньнем таго пэрыяду, калі ўсякае паляваньне забараняецца.

Калі паляўнічы, як толькі стаў пахаджваць з стрэльбай бярэ на мушку цецярука, дык далёка ня ўсе згрупоўваюць сваю ўвагу, з боку назіраньня, за гэтай птушкай і паляваньне пераважна абмяжоўваецца ў шчыльных рамках якога-небудзь аднаго спосабу. Паляўнічы робіць, так сказаць, па шаблёну, як паляўнічаў яго дзед. Сучасны паляўнічы абавязан ведаць аб сваіх аб'ектах паляваньня больш, чым знаў яго дзед. Мала ўзяць здабычу, трэба ведаць яе жыцьцё, асабліва правільнае паляваньне на яе і толькі пасьля гэтага мы забясьпечаны і здабычай, і запасам дзічы на нашых паляўнічых угодзьдзях. Прайшоў час, калі думалі: „абы сёньня, а там... хоць трава не расьці“.

Мэта маіх нарысаў палягаецца, галоўным чынам, з пачынаючым паляўнічым тым, што я набыў з дзяцінства на балотах і ў лясох Беларусі. І калі бывае прыходзіцца рабіць экскурсію за межы ведаў другіх назіральнікаў, дык толькі ў тым выпадку, калі выклікаецца неабходнасьць перадаць або невядомыя спосабы паляваньня іншых месц, або тыя асаблівасьці, якія выпалі ад майго вока.

І так аб цецяруку. Род цецярукоў мае ў нас два віды, калі ня лічыць глушца, буйнейшага прадстаўніка гэтага роду. Гэтыя віды—цецярук звычайны, або цецярук беразавік, як яго яшчэ называюць, і цецярук карнаскі. Між сабой яны лёгка розьняцца наступнымі адзнакамі: у самца цецярука нашага агульная афарбоўка чор-

ная з мэталічным адлівам шыі і вальля, папярок крыла белая палоска, хвост ліраў. У каўкаскага цецярука агульная афарбоўка бархатна-чорная, хвост выразан, бакавыя пер'я слаба загнуты ў бакі і ўніз. Разьмерам ён менш за нашага касача. Сярод асаблівасьці гэтай птушкі— яго такаваньне. Такуе ён моўчкі, прымаючы толькі ўласныя яму постаці, напрыклад, апусьціўшы крылы закідвае назад галаву.

Каўкаскі цецярук даў знаць аб сабе толькі з 70 х гадоў мінулага стагодзьдзя. Да гэтага часу зналі яго толькі мясцовыя жыхары. Распаўсюджана гэтая птушка на Каўказе ня ніжэй 6 тысяч футаў над узроўнем мора, у паласе Альпійскіх лугоў, па горных хрыбтох вялікага і малага Каўказа. Трымаецца ён каля зарасьляў родэндрона і ня спускаецца ў лясную зону да краёў лесу.

Распаўсюджаньне цецярука беразавіка вельмі шырокае. У Эўропе ён распаўсюджан ад 69$^1/_2$° паўночнай шырыні ў ў Скандзінавіі і 69° (Ляпляндыя), 66° (Уралу). У Расіі ад поўдня да паўночных Апенін і паўднёвай Расіі. Сустракаецца ў шмат якіх частках Брытанскіх выспаў. У нас на паўночным Каўказе, але далей яго ўжо замяняе каўкаскі цецярук,

У Азіі цецярук дасягае 68° у даліне Енісея і толькі 63° на Лене. З усходу ад Лены ў паўночнай Сібіры цецярук не распаўсюджан. У паўднёвай Сібіры гэта птушка—звычайная і распаўсюджава на ўсход да Усуры і на поўдзень да меж Манжурыі, але не даходзіць да Ціхага акіяну. Апроч таго цецярук распаўсюджан у падыходзячых мясцох паўночнай паласы кіргіскіх стэпаў і паўночна ўсходняй часткі Туркестану на вышыні ад 6.000 да 10 000 футаў над узроўнем мора.

У тайзе і вялікіх масывах лесу ён ня трымаецца, а застаецца па краёх іх. Няма яго і ў тундры, апроч тых мясцоў, куды пранікае крывалесьсе з нізкарослай бярозай.

Цецярук трымаецца ўсюды: і ў вялікім, і ў малым, і ў чырвоным, і ў чорным лесе, у пералесках, у рэдкалесьсі і на махавым балоце, наогул там, дзе дастаткова ягад. У стэп мясцамі адыходзіць ён ад лесу настолькі, наколькі пранікаюць туды кусты ягад (дзікая вішня, цернаўнік, клубніка і інш.). Цецярук наш даходзіць па вазе да 1 кілё, а ў самцах бывае і да паўтара кілё, але такая вага (паўтара кілё)—выключэньне.

Калі ўсім вядомае апярэньне цецярука не патрабуе падрабязнага апісаньня, дык нельга, каб ня спыніцца на тых зьявішчах па апярэньню, якія, бывае, ставяць паляўнічага ў асобнае зьдзіўленьне. Сярод цецярукоў нярэдкі зьявішчы альбі-



Пасьля паляваньня

нізму—частковага і поўнага, г. зн. адсутнасьці ці недахопа ў пер'ях фарбуючых істот-пігмэнта. Гэтым і тлумачацца выпадкі белага ці пегага колеру птушкі. На мяжы Люценскага і Апочыцкага паветаў, б. губ. Пскоўскай і Віцебскай быў здабыт у маё дзяцінства дымчата-белы касач. Як зараз памятаю, чучала гэтай птушкі выклікала ўсеагульнае зьдзіўленьне.

Сустракаюцца помесі цецярука в белай курапаткай, цецярука з глушцом, вытвараючы помесь пад назвай межняка. Вельмі было-б цікава атрымаць помесь цецярука з нашай курыцай. Вопыты такія наўрад ці рабіліся кім-небудзь, а калі і рабіліся дык заставаліся не абвешчанымі. А такі вопыт магчым.

Калі зялёнае лета зьменіць жоўтая восень, трава прыляжа да зямлі, цецярукі раніцай і вечарам пачынаюць садзіцца на дрэвы, спачатку выводкамі, а потым сабраўшыся стаямі, у якіх старыя ўжо зьмешваюцца з маладымі. Гэтыя стаі часта складаюцца з адных касачоў або адных цяцерак. Чым глыбей восень, тым стаі сядзяць далей, калі ня згоніць іх вялікі вецер. Пры такой пагодзе асабліва пры дробным дажджу, толькі ў поўдзень садзяцца стаі цецярукоў на зямлю на паляну ў чыстым месцы, дзе б не турбавалі іх дажджавыя кроплі, падаючыя без перадышкі з мокрых дрэў ветак. Калі ж сонца пачынае схіляцца да захаду, цецярукі падымаюцца на дрэвы і сядзяць начубіўшыся, нібы дрэмлюць, да глыбокага змроку. Потым перасаджваюцца ў паўдрэва і, пасядзеўшы некаторы час, спускаюцца ўжо на начлег, на зямлю.

У паўдрэва і блізка да дрывяного ствала сядзяць цецярукі ў вельмі моцны вецер, каб іх ня хістаў вецер разам з веткамі, чаго яны ня любяць.

Спосаб жыцьця цецярука зімой становіцца іншым. Цецярук зімой можа быць прылічан у поўным сэнсе да мясцовай птушкі, бо на гэты час ён забіраецца ў лясы нават у стэпавай паласе, дзе ўлетку трымаецца выключна ў кустох дзікай вішні і цярноўніка.

Усю зіму цецярукі трымаюцца стаямі, часьцей за ўсё толькі з самцоў, а бывае і разам з самкамі і маладымі, як гэта ўжо было сказана.

Стаі больш за сотні штук бываюць рэдка ў нас у Беларусі, але на Урале і Сібіры стаі даходзяць да 500 штук. Немалыя стаі і на поўначы ў нас, як, напрыклад, у вобласьці Комі, адкуль мне давялося атрымаць зьвесткі ў гэтым годзе.

Увесь дзень стая трымаецца ў беразьняку, віднеючыся чорнымі кропкамі на белым фоне пакрытых сьнегам бяроз і толькі ў поўдзень, пры ясным надвор'і, вылятаюць на край лесу, дзе цецярукі рассаджваюцца на дрэвах, каб загрэцца на сонцы. На нач птушкі забіраюцца ў гушчар, і пакуль сьнега мала або пры кепскім надвор'і разьмяшчаюцца на начлег на ніжніх ветках дрэў; калі-ж сьнег ляжыць даволі тоўстым слоем— цецярукі начуюць у сьнягу. Пры вялікіх марозах яны нават днём забіраюцца ў сьнег. Апускаючыся на нач цецярукі не зьлятаюць, а нібы падаюць уніз без усякага шуму, адвесна і тонуць у пушыстым сьнегу, так што і пер'яў ня відаць. Толькі ўзварушаная гладзь сьнега выдае птушку. У зімовыя мяцеліцы заносіць іх сьнегам зусім так, што вельмі цяжка знайсьці іх. Марозы ўначы, пасьля адлігі з вечара, губяць ня мала цецярукоў, бо корку зьверху сьнега яны не заўсёды ў сілах прабіць і гінуць пад ёй.

У канцы лютага стаі цецярукоў усё часьцей і часьцей вылятаюць на край лесу і застаюцца там куды далей, чым у сярэдзіне зімы, а стаі, якія адляталіся далёка на корм, пачынаюць вяртацца ў свае родныя месцы. Становіцца большы дзень, сонца мацней пачынае саграваць сьнег, стаі паступова радзеюць і цяцеркі пачынаюць улятаць ад самцоў, ды і самцы ўжо ня тыя: яны з зайдрасьцю скачуць па сьнегу, не сядзяць на дрэвах начубіўшыся ў сумным раздум'і, трымаюць баявую выпраўку, і паступова забываюць свае кампанейскія вылеты в начлегу на кармежку або з кармежкі на краі лясоў.

Прыгрэла сонца сакавіка, разагрэўся касач, чырвонымі макамі закрасавалі бровы—наступіў час каханьня і забыцьця, пал забіў фантанам. Цецярук зачуфыкаў, забалбатаў, песьня яго стала дамінуючым гукам вясеньняй раніцы. Стаі цецярукоў пачалі вылятаць на кармежку ў поле на прагаліну.

### Паляваньне па таку

Месцам тока цецярука бывае або лясная паляна, або край лесу, махавое балота, або горка поля, якая ўкліняецца ў балота.

Такуюць цецярукі на вядомым месцы па некалькі штук разам, дзе іх шмат, такуюць і адзіночкамі, дзе іх мала. У цецярукоў ёсьць аблюбленыя месцы для такаваньня, на якія яны зьбіраюцца з году ў год. Цецяравіны ток адбываецца на зямлі і разгар яго бывае ў канцы красавіка, пачатку мая па новаму стылю, але прэлюдыя тока праходзіць на дрэвах і пачынаецца, як толькі цецярук адчуў вясну.

Існуе шырока распаўсюджаная думка, нібы першы на таку пачынае балбатаць той самы такавік, які зьяўляецца ў зімнія часы важаком стаі, аблюбаваўшы сабе вядомы ток. Гэтага старога цецярука называюць такавіком. Яго лічаць главаром тока і прытрымліваюцца той думкі, што без яго ток разбураецца і таму некаторыя паляўнічыя не страляюць такавікоў. На колькі гэта верна, сказаць цяжка, бо я асабіста гэтага не праверыў. Вось што гавораць тыя, хто верыць у якасьці такавіка.

—Забіць такавіка, гэта значыць разбурыць увесь ток і папсаваць сабе паляваньне на ўвесь вясеньні сэзон. Зборышча тады спыняецца і замяняецца адзіночнымі такамі ў разброд на больш ці менш далёкай адлегласьці ад ранейшага тока. Можна забіваць толькі праціўнікаў такавіка. Дзе гаспадарыць паляўнічы драпежнік, страляючы без разбора самак і самцоў, там трэба забіць такавіка, каб разбурыць ток і такім чынам пазбавіць драпежніка паляваньня.

Так ці іначай я асабіста ня схілен забіваць такавіка пры нармальных умовах па душы, што ў хоры павінен быць запявала, а калі і ня з гэтае прычыны, дык хоць бы таму, што пасьля яго на таку застануцца толькі маладыя такавікі, а ад гэтага вельмі шмат страціць паляўнічая гаспадарка, бо некаторыя самкі могуць застацца халастымі.

Узяць такавіка зразумела трэба, калі гэтым будзе дасягнута захаваньне другіх цецярукоў.

Такуюць цецярукі ня толькі раніцой, але і ўвечары. Яшчэ сонца ня села, скот толькі што стаў выбірацца з балота на поле, а цецярук ужо забалбатаў там, дзе толькі што пасься скот. Толькі што стаў згушчацца змрок і ён ужо на месцы свайго такавішча. Вячэрні ток ідзе вяла, нядоўга, ня прыцягвае да сябе самак. Сьцямнела—цецярук сядзіць у сасняку, дрэмле.

Зорка на ўсходзе чуць для вока ўлавімя, — праснуўся цецярук. Чуфыкнуў, прыслухаўся і... стралой праразае паветра. Мінута і ён ужо на такавішчы. Сеў і нібы яго няма. Думаеш: і на дрэва не напароўся, і сеў на вядомае месца—вострагалавая птушка. Чуф-чуфы! Чуф-чуфы! і ўсьлед балбатаньне. Ізноў—чуф-чуфы! Чуф-чуфы!—адказваюць у сасьняку. Чорнымі камкамі вырастаюць праціўнікі. Бліснуўшы белай люстэрачкай, разгарнуўшы ліру, раздуўшы пер'е і выцягнуўшы шыю па зямлі пачынае балбатаць, бесьперапынку нахіляючыся амаль што да зямлі. Спачатку ціха, глуха, з некаторымі перарывамі і ўрэшце зьліваецца ў нейкае яраснае палкае клакатаньне яго песьня, нібы гарохам пасыпалі. Ток разгарэўся. Там ужо шчапіліся ў бойку два такачы, не шкадуючы шлюбнага адзеньня. Тут, хлопнуўшы крыламі, уверх вышэй мэтра і, чуфыкнуўшы, ідзе ўніз, зрабіўшы востры куток на крылах і зноў балбатаньне. Што ні чуфыканьне—трук, скачок уверх. А там, дзе пад конус складзены сасоначкі, у шалашы—сэрца молат у грудзёх. Куркі на агонь, але... чаруе малюнак. Пявуны ап'янены: ні палоска агня ад стрэлу, ні гук, гарматным рэхам пакаціўся па лесу, ня спужаў іх. Адзін, які аддзяліўся бліжэй да сасонак, расплыўся па зямлі. Пратрубілі журавы далёка на балоце. Кракнула качка ў мачаліне ў канцы поля. Чутна „шваркнуў" качур. Толькі ціха на таку. Вось забалбатаў адзін, адказаў другі і зноў пасыпаў гарохам. Брызгнула яркае праменьне сонца, усплыла над лесам. Адзін за другім пакідаюць такавішча пявуны, тры засталіся на месцы. Задаволен паляўнічы пал.

Сапраўднае паляваньне на таках пачынаецца тады, калі сьнег канчаткова сойдзе і цецярукі стануць такаваць на зямлі. Тады іх страляюць з будак. Прыходзіць на такавішча і садзіцца ў будку трэба да зары, пры гэтым падыходзіць трэба асьцярожна, бяз шуму: бывае, што цецярукі начуюць і на самым такавішчы, а звычайна па блізасьці яго і прылятаюць туды ў поўнай цемнаце.

Зрабіўшы стрэл на таку, выходзіць з будкі, каб падабраць здабычу нельга, трэба застацца ў будцы нярухома, бо самы стрэл у мясцох, дзе цецярукі нанасьцёганы, не палохае іх так, як палохае зьяўленьне чалавека. Калі цецярукі адля-

цяць песьля стрэлу, пачнуць такаваць на іншых мясцох, дык гэтага ня трэба баяцца: яны могуць вярнуцца на аблюблёнае месца. Каб браць птушку наверняка ня трэба сьпяшацца са стрэлам, а належыць або пачакаць, пакуль пасьвятлее, або браць на мушку белае падхвосьце, чутачку ўперад, бо птушка ўсьпее адыйсьці ў момант націску на спуск і пакуль набой даляціць да яе.

Ніяк не забуду нечаканых вынікаў. Было ў дзяцінстве. Страляў я ўжо добра. Засеў я ў каменку з поўнай упэўненасьцю ў посьпех. Каменку гэтую зрабіў дзядзька Сьцяпан, прывёў і пасадзіў мяне ў яе. Колькі сабралася касачоў я ня ведаю, але ва ўсякім выпадку дзесяткі са два. Цёмна. Выбіраю белую люстэрачку, што бліжэй да мяне і сьпяшаючыся спускаю набой. Куляй вылятаю з каменкі, і так і гэтак шукаю—пустое месца. Толькі разагнаў, застаўся з „папом". Сорамна і перад дзядзькай Сьцяпанам і што скажуць паляўнічыя, калі ён ім раскажа. Люстэрачка падвяло!

Лепшы стрэл па такуючаму цецяруку—у бок або ў зад, пад пер'е. Страляць трэба пры маламальскім сьвеце. Калі сілуэт птушкі дастаткова відаць. Промахі ў такіх выпадках уласныя толькі кепскаму стралку.

Пакуль яшчэ не пачаліся гарачыя такі і цецярукі такуюць на дрэвах, паляваньне ўчыняецца скрадам. Дзе разьвіта браканьерства, г. зн., дзе несьвядомы паляўнічы косіць падрад і самца і самку, абы толькі папалі на яго мушку—нярэдкі і трагічныя выпадкі.

Паляна. Пэлка такуе касач. Шомпалка даўно напагатове, але ня ў меру касач, прыліп ён к месцу. Мажавелавы куст ад балота, далей ні купінкі, ні кусточка.

Стрэл і... набой у галаве. Механая шапка-ўшатка за травяністай купінай была прычэпа за цяцерку ў зрокy ранейшай браканьерам, які ляжаў у мажавелавым кусту.

Другі, які падробліваў голас цяцеркі, жадаючы скрасьці таго-ж пявуна і падставіў сваю галаву пад стрэл аперадзіўшага браканьера. Аналёгічныя выпадкі бывалі і з будак.

Ці балбоча цецярук на дрэве або на зямлі, а як далёка чутны яго голас. Чуеш яго за два кілёмэтры, праз ваду яшчэ далей. Палка такуючы цецярук, як відаць, мала зварачае ўвагі, што робіцца навакол яго. Здавалася-б цецярук—лёгкая здабыча каршуна, бо яго песьня, паказвае яго самаго драпежніку, а пал дазваляе схапіць нечакана. Сапраўды ж, як я падмеціў, цецярука на такох мала калі бярэ драпежнік. Відаць ён ня ўпэўнены ў сваёй перамозе.

Будку трэба ставіць заранеі, да пачатку тока, каб птушкі прыгледзеліся і асвоіліся. Будаваньне будкі ў радавога паляўнічага простае, бяз усякіх прыкрасаў. Некалькі сасонак вяршынкамі разам, з растаўленымі камлямі і будка гатова. Толькі паляўнічы сьпешчаны патрабуе густога слою падсьцілкі яловых лапак, кажух ці яшчэ што, каб мог ляжаць, і моцнага адбудаваньня будкі з крышай і зручнымі вокнамі для страляньня. Як не камічна, а бывае паляўнічаму прыходзіцца сядзець, так сказаць, пад цецяруком:



На стойцы.

зьняўшыся з такавішча, пявун садзіцца на будку і канчае сваю песьню ўжо пры сонечным сьвеце.

Цяцеркі зьяўляюцца на такавішча пасьля самцоў. Вылецеўшы на расьсьвеце з начлегаў, яны спачатку сядзяць на дрэвах, шчыплючы бярозавыя почкі і прыслухоўваючыся да палкіх песьняў самцоў. Пачынаецца ўсё больш і больш сьвятаць. Цяцеркі набліжаюцца да месца тока і хутка зьяўляюцца сярод самцоў, выскачыўшы з-за купіны або падляцеўшы. Ранішні ток пасьля гэтага скора канчаецца: самцы разьлятаюцца з самкамі, толькі застаецца той цецярук, які не знайшоў сабе самку.

У палове мая па старому стылю цяцеркі прыступаюць да пабудовы гнязда. Ток паступова замірае. Надыходзіць чэрвень, пачынаецца лінька, касачы забіраюцца ў крэпкія мясцы, дзе і ліняюць.

Цецярук — полігам [1]) ніякага ўдзелу ў вывадзе цыплянят ня прымае, жыве асобным жыцьцём, не далучаецца да маладых аж да восені, пакуль не пачнуць зьбівацца ў стаі.

### Кладка яек і вывад цыплянят

Гняздо цяцеркі ўяўляе сабой невялікую ямачку, выкапаную наседкай на зямлі і высланую сухой травой, мохам і ўласнымі пер'ямі. Гняздо будуецца пад навісшымі веткамі куста або дрэва, рэдка сустракаецца на адкрытым месцы. Адзін раз было знойзена гняздо ў вяршыне трохкутніка дарог каля лесу, у канцы поля. Выпадак такі—выключэньне. Цецяравіныя гнёзды бываюць заўсёды недалёка ад месц такаваньня цецярукоў, недалёка ад лесу, на дзялянках, дзе ягаднік. На махавых балотах на больш высокіх мясцох, пакрытых кустамі гонабольля і брусьніц, ягады якіх так і цягнуць да сабе цецярукоў. Лік яек бывае ад 5 да 12. Ёсьць месцы, дзе находзяць і 16. У нашых мясцох і 12—рэдкасьць, звычайна ад 5 да 10. Маладыя цецярукі нясуць 5-6. Пры другой кладцы і старыя нясуць ня больш. Яйкі вохрыста белага асноўнага колеру, па якому раскіданы бурыя плямкі розных разьмераў. Па велічыні яйкі нямнога ўступаюць курыным, адкладае цяцерка яйкі ў той час, калі яшчэ ў поўным разгары ток, які яны наведваюць штодзённа, пакуль ня скончуць поўнай кладкі. Наседка сядзіць на яйках вельмі моцна. Сходзіць з гнязда толькі ў поўдзень, калі стане цёпла, каб пакарміцца. Пакідаючы на кароткі час гняздо яна прыкрывае яйкі сухой травой. Насідка цягнецца ад 19 да 23 дзён. Цецяравяты звычайна выводзяцца каля паловы чэрвеня. Праз дзень пасьля таго, як выклюнуцца з яек, яны вельмі бойкія, хутка хаваюцца ў траве, пад кустамі. Матка прывязана да сваіх дзяцей і пры небясьпецы імкнецца адвесьці ворага ад сваіх дзяцей. Яна неўстрашыма кружыцца каля самага носу чуцьістага зьвера, як ліса, і ўводзіць яго на такую адлегласьць ад цецяравят, якія ў гэты час схаваліся, што ніякае чуцьцё ўжо не дапаможа знайсьці іх.

Спачатку цецяравяты ўсе без выключэньня бываюць шэравата-жоўтага колеру. Цецяравенак у пушку носіць назву „пегарок“. Першыя дні цецяравяты растуць памалу, але потым іх рост ідзе вельмі шпарка. Харчуюцца яны ў гэты час суніцамі, чарніцамі, рознымі казяўкамі, між якімі вельмі любяць мурашак і іх яйкі. Праз тыдзень цецяравяты ўжо могуць праляцець некалькі мэтраў, а тыдні праз два лёгка пералятаюць на параўнаўча большую адлегласьць. Праз месяц пасьля вываду цецяравяты лётаюць вельмі добра— не адстаючы ад маткі.

У першыя часы цецяравяты зусім бяспомачны. Прымушаны быць каля маткі і ў выпадку сьмерці маткі гінуць і самі, калі выпадкова ня возьме іх да сябе чужая матка. Гэтым і тлумачацца вялізарныя вывадкі. Знаходзячыся пры матцы цецяравяты звычайна маўчаць, не выдаюць сябе голасам, а як толькі напалоханы, разьлятаюцца і крычаць „фі-у, фі-у“. Праз паўгадзіны пасьля гэтага чутны іх голас там, дзе яны расьселіся, а таксама і заклікаючы голас маткі. Падробліваць голас маткі і голас цецяравят вельмі лёгка. Рэдка хто з паляўнічых ня майстра гэтае справы.

У жніўні ўвесь маладняк (вядома за выключэньнем позьніх вывадкаў якія залежаць ад розных выпадкаў) пасьпявае і тады пачынаецца паляваньне з лягавым сабакам.

---

[1]) Многажон.

## Паляваньне ўлетку

Паляваньне на цецярукоў законам дазваляецца з 1 жніўня ў паўночнай і сярэдняй паласах СССР. Сьпеласьць вывадкаў залежыць ад стану вясны: вясна зацяжная—вывадкі спазьняюцца. Да 1 жніўня маладняк бывае малады, страляць яго зусім ня трэба, у такіх выпадках мы павінны падыходзіць з гаспадарчага боку і калі мясцовыя паляўнічыя аб'яднаньні хадайнічаюць аб працягненьні тэрміну забароны паляваньня і атрымліваюць задавальненьне, дык усякі сьвядомы паляўнічы павінен прывітаць такую пастанову.

Паляваньне на цецярукоў, як і на ўсякую дзічыну становіцца больш цікавым, калі маладняк упаўне пасьпее, малады самец у чорным пер'і, толькі з невялікімі шэрымі плямамі. Паляваньне на цецярукоў улетку вельмі лёгкае: нага паляўнічага ступае то па сенакоснаму месцу, то на вырубках, то па лісьцьвяным рэдкалесьсі і толькі на махавых балотах прыходзіцца абыходзіць то адчу, то другую высьпу. На паляваньні за цецярукамі і боты могуць быць ня ўцягасьць, асабліва ў непастаяннае надвор'е, калі набягаюць дажджавыя хмары.

Вы ад{і цецярукоў на махавых балотах— не абавязковае правіла на высьпах; яны водзяцца ў мясцох ягаднікаў. Ягады гэтыя растуць на балотах на параўнаўча сухіх мясцох, дзе мох хаця і падушкай, але ўсё-ж такі больш ці менш хадзіць па ім лёгка і паляўнічы можа мінуць тыя цяжкасьці, якія ён мае пры паляваньні на белую курапатку. Цецяркі, як і ўсе курыныя, любяць пакупацца ў паску, у попеле, на мясцох былых кастроў, дзе небудзь у вываратці і мурашніках, пакінутых мурашкамі.

— Ах і шмат! Як варон, вунь там на „Дзятляўцы“,—услужліва сьпяшыць адказаць вам пастушок на пытаньне:

— Скажы, малы, ці ня бачыў цецярукоў?

На Дзятлаўцы—месца рабчыка раней было, зараз парадзеў хвойны лес, рабчыку ня месца.

Пастушок па свайму праў: ён зімой сек дровы там з бацькам і бачыў стаю цецярукоў, абляпіўшых бярозы. Вопытнае вока поляўнічага не ўвядзе ў заблуджэньне; ён убачыў і з далёк, ці адпавядае месца для вывадкі цецярукоў.

У мясцох, каля пару і наогул дзе песецца скаціна, шукаць цецярукоў беакарысна, у пачатку жніўня вывадкі яшчэ трымаюцца ў мясцох, абкружаных жытам, бо там іх ня турбуюць, пакуль убяруць жыта і стануць касіць сенакосныя мясцы. Пасьля ўборкі жыта і пакосу яны пера біраюцца да яравых хлябоў, дзе ім спакайней і надзейней. Скончыліся лясныя пакосы—цецярукі перабіраюцца туды, дзе яшчэ затрымалася суніца і чырванеюць брусьніцы. Калі стане пасьпяваць журавіна, вывадкі пераходзяць на махавыя балоты.

Прышоўшы на адпаведнае месца паляўнічы можа сказаць адразу, ці ёсьць тут вывадак цецяркоў. На срэбраным фонэ расістай травы відаць ярка зялёныя палоскі. Па іх, як па шнурку паляўнічы можа дайсьці да самага вывадка, але і тады калі расы няма, паляўнічы разьбярэцца ў расьпісным узоры травы. Няма неабходнасьці накіроўваць сабаку на сьлед, што раяць іншыя паляўнічыя. Сабака сам зараз-жа знойдзе сьлед, разьбярэцца і падвядзе вас да вывадка. Малады вывадак заўсёды трымаецца маткі і займае невялікую адлегласьць. Ад маладога вывадка матка падымаецца амаль заўсёды адна, адбегшыся трохі ў бок, пры ўзьлёце яна трохі заквохча і працягвае квохкаць лятучы. Калі цецяравяты вельмі малыя, дык яна прымае манеры, аб якіх было ўжо сказана раней.

Бывае, што малады вывадак хаваецца разам з маткай і адляцеўшы сажон 100—150 затайваецца ў траве каля кустоў, рассыпаўшыся на невялікай адлегласьці. Пры раптоўным зьяўленьні зьвера або сабакі, цецяравяты, ды і матка садзяцца тут-жа на дрэвах і напалохана глядзяць на яго. Не забуду, як я біў куркамі па пістону і тарапліва навсдзіў сваю аднарульную стрэльбу на сідзячага малыша на сучку ня вышэй трох сажон ад зямлі і як цешыла мой паляўнічы пыл гэтая птаха, калі пасьля чатырох асечак, мая стрэльба „плюнула“ і трафей апыніўся каля маіх ног. Гэта быў першы мой цецярук. Фю-ю, фю-ю, фю-ю —звычайна загавораць напалоханыя цецяравяты, узьлятаючы на дрэвы. Пасядзеўшы з паўгадзіны яны пачынаюць пераклікацца. Звычайна першая падае голас матка, ёй адказваюць маладыя і сьпяшаць да яе. Карыстаючыся га-

тым браканьеры цецярукоў склікаюць і выкалачваюць іх, вядома, не шкадуючы маткі. Сапраўдны паляўнічы дапасоўваць такі спосаб ня будзе, яму не дазволіць сваё прафэсыйнае сумленьне.

Ад вырасшага вывадка матка сабакі не адводзіць, узьлятае моўчкі і ляціць, як халастая цяцерка.

Лепш за ўсё для паляваньня па вывадках—час іх жыроўкі: ранішняй зарой і ўвечары пасьля 5-6 гадзін пасьля поўдня. Знаходзячыся на кармёжцы вывадак расходзіцца і ў гэты час можна ўзяць увесь вывадак па аднаму. Паляваньне пачынаць з 10-11 гадзін да 4 пасьля поўдня. У цёплыя сонечныя дні пасьля поўдня—трата сіл і сваіх і сабакі: цецярукі забіваюцца куды-небудзь глыбей у цень травы і не даюць сьледа. Знайсьці іх тады сабака можа толькі выпадкова. Часы гэтыя павінны быць выкарыстаны для прывалу. Між іншым усё залежыць ад надвор'я, калі маросіць дробны дождж або шэрыя дні без дажджу, цецярукі далей кормяцца і паляўнічыць можна цэлы дзень ня стомліваючы ні сабак, ні сябе.

Вывадак цецярукоў звычайна затайваецца на месцы, дзе яго захапіла небясьпека і толькі, калі маладыя вырастуць дойдуць да старыкоў, уходзяць і то ня так далёка ад сабакі. Куды далей вядзе сабаку белая курапатка. Затое старык сьпяшаецца ўцячы, пачуўшы шум і нарэдка вядзе за 300 мэтраў, пры гэтым імкнецца выбраць мясцы зарослыя і нярэдка ўзьлёт яго чуе толькі вуха. Асабліва навучаны сабака пасодзіць яго ў куст на адкрытым месцы, перарэжа яму шлях адступленьня, але такіх сабак мала. Тады паляўнічы ўзнагараджаецца меткім стрэлам, калі бяглец мала-мальскі сплашае. Чарныш—трафей, цікавы па ўдзельнай вазе сваёй, а менавіта тым, што ўзяць яго з-пад лягавага сабакі не заўсёды проста і лёгка.

Для паляваньня на цецярукоў прыгодны ўсе сабакі, якія робяць стойку. Справа толькі ў тым, што паляваньне на цецярукоў праходзіць у большасьці ў мясцох, зарослых кустамі ў дробналесьсі. У такіх мясцох сабака заўсёды павінен быць на вачох паляўнічага, значыцца тут шырокі пошук сабакі не патрабуецца. На гэтых абставінах і прыходзіцца спыняцца паляўнічаму, г. зн. імкнуцца мець сабаку, які адказваў-бы гэтаму вымаганьню. Дасягаецца гэта або выбарам адпаведнай пароды, або асобным вывучэньнем.

Паляўнічаму вёскі ды і гарадзкому ня кожнаму спаборнічаць на палявых спробах ня прыходзіцца. Таму яму патрэбен ня выставачны матар'ял, а сабака практычны, выносьлівы, не гарачы. Такім умовам лепш за ўсё адпавядае гардон.

Калі мы захапіўшыся палявымі спробамі, на якіх гардон не паказаў такога блеску, як яго сародзічы і якасьці гэтага сабакі сталі зьніжацца з пункту погляду спартсмэна-паляўнічага, дык паляўнічы практык нязьменна цэньвае якасьць гэтага сабакі і ён бяспрэчна не страціў сваёй каштоўнасьці.

Я асабіста лепш за ўсіх люблю сэтароў-гардонаў. Вельмі люблю і ангельскага сэтара. Што датычыць масьці, дык трэба браць лепш за ўсё белага, бо ён лепш віднеецца між кустоў у цецяравіных мясцох. Калі гардон мае гэты недахоп, дык ён адкупаецца яго работай. Пэрыяд летняга паляваньня на цецярукоў—5-6 тыдняў пры раньняй вясьне.

На травяністых балотах, дзе вывадак ня чуў яшчэ стрэлу, цецярук вытрымае стойку і ў пачатку кастрычніка, але вывадкі такія ў гэты час—выпадковы. Чым глыбей восень, тым птушка становіцца асьцярожней і, урэшце, зусім перастае вытрымліваць стойку. Само страляньне старога цецярука не такое лёгкае, як летняга недасьпелага. Тут патрабуецца і стрэльба з вострым боем і добрая меткасьць пры ўскідцы, бо страляць прыходзіцца шпарка і на вялікай адлегласьці. Урэшце летняе паляваньне канчаецца. Канец паляваньня ў нас з лягавым на цецярукоў трэба лічыць з 1 дэкады кастрычніка.

### Паляваньне ўвосень

Па меры таго, як паглыбляецца восень, цецярукі пачынаюць усё больш і больш садзіцца на дрэвы, там кормяцца і аддыхаюць, і ўрэшце вылеты іх прымуць рэгулярны характар. Тады настае пэрыяд паляваньня з пад'ездаў, а таксама і з будкі на чучала. Паляваньне з пад'езда ў большасьці зводзіцца да [illegible]: „[illegible]—ня [illegible] сьвеч". Па мёрзлай зямлі ніяк ня можашісьці, каб ня стукаць ботамі і калі птушка

не баіцца самаго пад'яжджаючага, дык яе палохае гэты грукат. Апрача таго ўвосень на калёсах не заўсёды праедзеш туды, куды трэба. Тут і адкосы і вялізарныя купіны, і кусты, і незамёрзлае яшчэ балота—усё гэта складае перашкоды, якія пазбаўляюць посьпех гэтага паляваньня. Апроч таго, заб'еш аднаго, а паехаць у другі раз да пераляцеўшай стаі ня ўдасца. Таму да восеньняга паляваньня з пад'езда з нашых паляўнічых няма вялікіх ахвотнікаў.

Самае цікавае паляваньне ў глыбокую восень на цецярукоў трэба прызнаць паляваньне з будак на чучала.

У ясную раніцу часта вы чуеце булькаваньне чарнышоў, па якому вы і вызначаеце іх месца. Калі ж прысутнасьць птушкі не выдае яе булькаваньне (маўчыць), дык адшукаўшы палянку сярод кустоў або закрайкаў лесу, дзе стаіць група асобных бяроз вы ўбачыце раніцой або ўвечары стайку жыруючых цецярукоў. Тут і будзе ваша паляваньне. На адлегласьці стрэлу ад бяроз вы стаўце будку з разьлікам, каб страляць ня супроць сонца. Будка робіцца з яловых суччаў і пакрываецца гэтым самым матар'ялам з такім разьлікам, каб будка ня вельмі вылучалася на фоне акружаючых абставін. Будку трэба ставіць заранёй, каб птушкі прыгледзіліся, як і было ўжо сказана ў частцы „Паляваньне на таку".

Запасшыся чучаламі паляўнічы накіроўваецца да будкі і займае яе да сьвету, папярэдня расставіўшы чучалы. Пасадка або выстаўка чучал утвараецца на доўгіх жэрдзях, якія носяць назву падчучальнікаў. На верхні канец падчучальніку насаджаюць чучала і шчыльна прывязваюць шнуркамі, прывязанымі да чучалаў. Падчучальнік ставяць да дрэва, каб чучала ўяўляла сабой сядзячага на суку цецярука і было добра відаць здалёк. Канец яго забіваецца ў зямлю, а потым прымацоўваецца да дрэва, або да сука, што асабліва важна ў вецер. Калі патрабуецца пасадзіць чучала вышэй, напрыклад, на самую вяршыну, тады падчучальнік прыстасоўваецца так: робіцца раскол у камлёвай частцы, ставяць на сук і моцна прывязваюць. Чучала павінна ўяўляць постаць спакойна адпачываючага цецярука.

Калі чучала будзе паказваць выцягнутую шыю, дык яно будзе падобна да цецярука, абеспакоенага нечым і гатовага ўляцець. Да такога чучала цецярукі не падсядуць і паляваньне застанецца бяз вынікаў. Чучалы цецярукоў павінны прадавацца ў паляўнічых магазынах, але наш радавы паляўнічы з большым посьпехам робіць іх сам. Сярод паляўнічых вёскі чучалы носяць назву—„балван". Раздабыўшы кусок чорнага сукна або проста чорнай матэрыі, выкройваюць два профілі птушкі, з разьлікам, каб чучала пасьля набіўкі прыняла і па форме і па велічыні натуральны від цецярука. Склаўшы разам, профілі іх сшываюць, сшытыя профілі выварачваюць, каб рубец быў унутры і набіваюць пакульлем. Бровы нашываюць з чырвонага кумача або сукна, вочы робяць з чорных гладкіх гузікаў, белыя палоскі на крыльлях—з белых шкуматкоў або выкрашваюць белай фарбай, лірападобны хвост або замяняюць пер'ямі пеўня, або куском чорнай скуры ў адпаведным пакроі. Чучала цяцеркі падвесьці пад яе апярэньне цяжэй, таму іх сустракаецца ў паляўнічых менш ды і асабліва патрэбнасьці ў іх няма. Цяцерка асобнай прыманкай у гэты пэрыяд ня служыць. Хто ўмее рабіць чучалы птушак наогул, часта карыстаецца зьнятымі чарнышамі. Такія чучалы, калі ўяўляюць натуральную постаць, нават і тады не практычны ды і сама справа не патрабуе такой тонкасьці: цецярукі не заўважаюць розьніцы. Нават крывапіўца драпежнік—каршун цецяравятнік прымае чучала за чыстую манету і з усёй сілай упіваецца сваімі вострымі капцюрамі ў сукно і вядома жыцьцё ў такіх выпадках яго абрываецца меткім стрэлам паляўнічага.

Цецярук, як і ўсякая птушка садзіцца вальлём да ветра. Значыць і чучала павінна задавальняць усім вымаганьням, прад'яўленым да натуральна сядзячай птушкі, інакш цецярукі тут убачаць абман і не падсядуць.

Вынік паляваньня з чучаламі зьніжаецца пры ветраным надвор'і, а калі сільны вецер, лепш адкласьці паляваньне. Найбольш дабычліва бывае паляваньне, калі цецярукі падлятаюць не стаяй, а адзіночкамі, парамі або па некалькі штук. Добры вынік дае паляваньне з чучаламі, калі з вечара разагнаць цецярукоў на месцах іх начаваньня. Тады цецярукі, начаваўшыя

поразьнь, прылятаюць да будкі таксама поразьнь. Паляўнічыя Карэліі робяць так: высачыўшы месца начаваньня стаі цецярукоў, яны ідуць уначы туды на лыжах, забраўшы з сабой дастатковую колькасьць лучыны і, распаліўшы яе, ідуць у шарэнгу. Асьвечаныя агнём птушкі вырываюцца з сьнегу і тонуць у цемнаце, разьлятаючыся па адзіночцы, а як толькі раніцой пачынае прабівацца сьвет, цецярукі зьлятаюцца ў стаю і, вядома, падсаджваюцца да пастаўленых паляўнічымі чучаламі на відных мясцох, блізкіх да начаваньня цецярукоў.

Падлёт цецярукоў ідзе значнымі перарывамі і адляцеўшая група сама па сабе назад рэдка зьвяртаецца. У такіх выпадках карыстаюцца загоншчыкамі. Загоншчык сочыць за пераляцеўшымі цецяравамі, таксама і за сядзячымі дзе-небудзь на адлёце і імкнецца падагнаць да будкі. Галодны цецярук хутчэй падсаджваецца да чучала, таму задача загоншчыка хутчэй сагнаць птушку, пакуль яна не наелася. У шэрыя асеньнія дні можна страляць цецярукоў з загоншчыкамі цэлы дзень, але лепшым часам для паляваньня зьяўляецца раніца, калі птушкі яшчэ галодныя.

Выходзяць з будкі, каб падымаць забітую птушку ці лавіць падранкаў нельга—гэтым напалохаеш падлятаючых цецярукоў. Страляць трэба заўсёды сядзячага на ніжнім суку: падаючага сядзачыя цецярукі не баяцца і не зьлятаюць.

Калі пачнуць падаць дажджы, задуюць ветры, заіграюць сьняжынкі, паляваньне з чучаламі спыняецца і паляўнічы цярпліва чакае сьнегу: тады наступае другі спосаб паляваньня па цецярукох.

### Паляваньне ўзімку

Узімку цецярукі, як ужо вядома, кормяцца і праводзяць дзень на бярозах. Наступае час паляваньня з пад'езду. Калі ўвосень гэта паляваньне дае мала станоўчых вынікаў, дык узімку яно ўзнагароджае паляўнічага. Сядзяць цецярукі на бярозах, шчыплюць шышкі нібы іх не датычыць тая нябясьпека, якая з кожным часам усё бліжэй і бліжэй. Вось спыніліся дроўні, дубальт і два чарнышы зарыліся ў сьнег. Стая адляцела з чвэртку кілёмэтра, абляпіла бярозу, зноў занялася шышкамі, а дроўні зноў тут, як тут, зноў дубальт. І толькі назойлівае праcьледваньне прымушае цецярукоў уляцець далей

Калі лес пакрываецца інеем, няма ветру, паляваньне тады асабліва ўдалае, выяжджаюць на гэта паляваньне звычайна ўдзень у дроўнях. Адзін павінен правіць канём, другі страляць. Назначэньне падводчыка ўпраўляць канём так, каб была поўная згода з стралком. Пад'яжджаць да цецярукоў па простай ня трэба. Трэба напраўляць каня бокам, робячы выгляд, нібы праяжджаеш міма Пад'ехаўшы на адлегласьць стрэлу, трэба спыніць каня; паляўнічы ў гэты момант страляе. Няма патрэбнасьці, вядома, спыняць, калі паляўнічы можа страляць на хаду. Цяжкасьці ў такой стральбе няма і ўсякі можа навучыцца.

Пад'яжджаючы трэба сачыць за птушкай. Калі цецярукі пачнуць пераступаць па суку, прысядаць, падымацца або выцягваць шыі—гэта паказальнік таго, што яны нечым затурбаваны і гатовы ўляцець. Калі выпадзе глыбокі сьнег, перасоўвацца па яму на кані нельга—паляваньне з пад'езда спыняецца.

Было ўжо сказана, што ўзімку цецярукі начуюць у сьнягу, а ў вялікія маразы сядзяць нават у ім і ўдзень. Карыстаючыся гэтым, паляўнічыя страляюць іх пры выляце з ямы.

Тады жыў я на станцыі Розінаўскай Маскоўска-Віндаўскай чыгункі (зараз Латвія), трэцяя станцыя за Себежам. Быў марозны сьнежаньскі дзень, пылаючы зарывам залівала сонца захад. Адвесным слупам ішоў дым у неба з труб хат. Я глядзеў праз шкло вакна маёй кватэры. Вока маё пападала то на цягнікі, якія манэўрыравалі, то на вярхушкі дрэў ляска, падбегшага шчыльна да станцыі. Бачу стая цецярукоў абляпіла бярозу. Ні сьвісткі паравозаў, ні грукат калёс іх не палохаюць. Да ўсяго раўнадушны. Пасядзеўшы некаторы час, яны сталі спакойна пералятаць з бярозы на бярозу, адлятаючы ад станцыі к лугу, адкуль прыляцелі—мінута і я імчуся дарогаю ў лес, ня спускаючы вачэй з цецярукоў. Але вось аказія: у лугу стая нібы ў зямлю канула. Я зразумеў. Зрабіўшы некалькі крокаў па пушыстму сьнегу вышэй калена, на адлегласьці чвэрткі кілёмэтра, я заўважыў ямкі. Тут было першае маё паляваньне на цецярукоў з-пад сьнегу.

Ці то я ня даў цецярукам абсядзецца, ці то іншыя былі якія прычыны, толькі цецярукі пасьля двух стрэлаў усе як адзін пакінулі сьнег. Я абмежаваўся двума пеўнямі.

Спосабаў здабычы ёсьць шмат. Задача мая сказаць толькі аб паляваньні на гэтую птушку, таму гаварыць аб прамысловым паляваньні я ня буду, а скажу толькі коратка. Здабываюць цецярукоў рознымі пасткамі. Пасткі дзеляцца на такія, пры дапамозе якіх ловіць сам прамыславік, і такія, якія ловяць самі самаловы. Да першых адносяцца так званыя шатры, да другіх слонцы, давушкі, петлі. Самае шырокае распаўсюджаньне сярод самалову—петлі. Петлі маюць вялікае распаўсюджваньне і ў нас, у Беларусі. Петлямі давяць цецярукоў, рабчыкаў, белых курапатак і нават глушцоў ня толькі так званыя паляўнічыя, але і нічога агульнага ня маючыя з паляваньнем. Яны нярэдка абцягваюць петлямі гэтых птушак так, што, як гаворыцца, і яблыку няма дзе зваліцца. Куды б не накіравалася птушка, знаходзіць пятлю.

Сьпелыя брусьніцы, уткнутыя ў расчэп палачкі маняць птушку на пятлю, яна пачынае бегаць кругом палачкі, каб дастаць ягаду, няўхільна наступае на палачку наведзенай пятлі і гіне, будучы заблытанай ёю або за шыю, або за нагу. Пятля—нітка даўжынёй у мэтр прывязаная да спружыністага дрэўца, сасонкі, бярозы і г. д. Адзін канец ніткі прывязваюць да вяршыны дрэўца, другі мае пятлю. Пры дапамозе колышка з сучком накрыж, роўнай палачцы і палачцы, прывязанай да ніткі, пры дапамозе пятлі недалёка ад вяршыны дрэўца настаражваюць пятлю. (Падрабязнае апісаньне гэтайársткі думаю даваць ня варта). Сагнутае ў дугу дрэўца затрымліваецца пры дапамозе колышка і палачкі, як толькі будзе аслабанёна, у тую ж сэкунду выпрамляецца і зацягвае пятлю.

Прысутнасьць сваю петлі выдаюць здалёку, яны відаць па прыгнутых дрэўцах, або ўбітых у зямлю колышках. Абавязак кожнага паляўнічага змагацца з гэтым відам браканьерства, дзе ён ёсьць і ўсяк старацца папярэдзіць яго частымі абходамі паляўнічых угодзьдзяў. Калі паляўнічы хоча паляўнічыць, ён абавязан клапаціцца аб заўтрашнім дню і каб у яго паляўнічых угодзьдзях быў запас дзічы. Таму ў заключэньне я хачу сказаць, што павінен ведаць паляўнічы ў адносіне да цецярукоў: ніколі не страляць маткі пры вывадку, аберагаць самак,—гэтым самым ты можаш, па-першае, загубіць маладых (калі яны яшчэ малыя), а па другое, апустошыць месца і на другі год ня знайдзеш тут вывадка.

У Рэжыцкім лясьніцтве быў лясьнічы стары паляўнічы. Лясная варта ў яго лясьніцтве ні ў якім разе ня біла матак, які-б сьпелы ня быў вывадак цецярукоў, а ўсякага, хто забіў ў матку, праганяў з паляўнічых угодзьдзяў. Ён быў праў. Хто ня меў выпадку ўпэўніцца, дык упэўніцца, што ня будзе там вывадкаў, калі цяцерка загіне па якому небудзь выпадку да кладкі яек.

**Ф. А. Лялін**



## Патырыць практычную работу біостанцыі Белдзяржзапаведніка

# Вавёрка ў запаведніку і яе кармавы рэжым

Згодна тэматычнага пляну работ Біостанцыі ДП запаведніка мною вяліся назіраньні за вавёркай як на волі, так і над гняздом вавёрачак, дастаўленым адным з коиных егароў зусім маленькімі і выращчынымі мною на Біостанцыі.

1930 і 1931 год—час майго прабываньня ў запаведніку—як раз аказаўся няспрыяючым для збору матар'ялаў з мэтай вывучэньня мэтадаў біолёгічнага падліку вавёркі. У раёне Вялікай ракі ў 1930 годзе быў поўны неўраджай як яловых, так і насеньня сасновых шышак—звычайных харчоў вавёрак. Вавёрка з восені харчавалася: грыбамі, жалудамі і арэхамі, хаця апошніх было вельмі мала. Спачатку зімы, маючы свае запасы і магчымасьць дастаць што небудзь з пад сьнегу, вавёрка здабывала толькі почкі елкі. Калі сьнег пакрыў тоўстым слоем зямлю (трэцяя дэкада сьнежня), вавёрка села амаль выключна на паёк з почак елак (28 сьнежня ў хутара Могілкі, 31 сьнежня—Вялікая рака). Праўда, былі яшчэ выпадкі, што белка ўхітрылася дастаць што-небудзь з-пад сьнегу. Так 26 сьнежня ў абходзе № 21 Кавалаёўскага я ўбачыў сьлядок вавёркі ў выкапанай ёю з-пад глыбокага (35-40 сант.) пласту сьнега старой яловай шышкі ды і то амаль пустой. У студзені ж месяцы, колькі я не хадзіў па сьлядох вавёркі, ніякіх аб'едкаў, апрача кароценькіх яловых ветачак з адкусанымі почкамі, не знаходзіў.

Звычайна вавёрку можна было знайсьці на адной з елак на краі леса з наветранага боку дрэва блізка вяршыны яго. Яна весела і хутка захапляла адной або абедзьвума лапкамі ветачку, прыцягвала або прыгібала яе да роту, абкусвала і, трымаючы дзьвума лапкамі, хутка круцячы, зьядала почку. Выкарыстаная ветачка кідалася і ляцела ўніз.

У самы моцны вецер, калі вяршына веткі елкі і сама яна страшэнна хісталіся, вавёрка ўхітралася ўсё-ж такі сядзець і пярэднія лапкі выкарыстоўваць на трыманьне ў.іх харчоў. Выходзіць на жыроўку вавёрка вельмі рана: калі яшчэ зусім цёмна і цяжка ўбачыць яе ў ельніку, а толькі чутна, як яна скрабе капцюрамі па кары дрэва. У 10 гадзін раніцы (9 па сонцу) 3 студзеня 1931 году на асобнай елцы на краю леса я заўважыў вавёрку за ядой. Пасьля начной парошы лёгка было ўпэўніцца, што вавёрка на елцы адна і падлічыць аб'едзеныя раніцой веточкі. Іх аказалася 137—138, пры чым я не магу паручыцца, што гэта елка першая і што вавёрка не паела почак дзе небудзь на другой елцы. 20 студзеня пасьля абеду пад вечар (у гадзіну дня, калі я праходзіў пад елкай, сьлядоў вавёркі і аб'едкаў ня было). З елкі, што на палянцы каля сьцежкі ад Біостанцыі да Драко вавёрка скінула 98 ветак. Пад некаторымі яловымі дрэвамі часьцей за ўсё асобна стаячымі на краю леса пад вясну накаплялася цэлая маса аб'едзеных вавёркай ветак. 22 красавіка я падлічыў лік ветачак пад адным з такіх дрэў. Іх аказалася з дакладнасьцю да аднаго дзесятка тры тысячы штук. Падлічыць дакладна не ўдалося, бо блізка праходзіла праезжая дарога і недалёка стаяла другая елка, пад якой было вельмі мала ветак.

Апасаючыся, што вавёрка, паядаючы почкі вельмі прыкметна панізіць ураджай яловых шышак, я зьвярнуў увагу на кветкаваньне і колькасьць шышак на вышэйпамянёным дрэве. Як кветкаваньне, так і ўраджай шышак на гэтым дрэве аказаліся вялізарнымі.

Такім чынам, апасеньне, што вавёрка, паядаючы почкі наносіць значную шкоду дрэвам, аказаліся напраснымі.

У гэта лета ўраджай шышак елкі тут вельмі вялізарны і вавёрка, таксама як і клясты, з паловы ліпеня пачалі ўжо пробаваць яловае насеньне сьвежага ўраджаю, а з трэцяга жніўня блізка Біостанцыі я назіраў вавёрку, якая аб'ядала сьвежую яловую шышку ў цэлай кучы аб едкаў апошніх. Дарэчы, у гэтым годзе ў зьвязку з ураджаем насеньня елак у раёне Вялікай ракі зьявілася шмат клястоў.

У першым раёне, а мясцамі і ў другім запаведніка, дзе ў 1930 годзе быў ураджай шышак сасонкі хаця і кепскі, вавёрка часткай харчавалася сасновым насеньнем,

часткай яловымі почкамі. Патрацiць цэлы дзень на назiраньне за вавёркай па парошы я ня мог, бо быў з брыгадай на воўчай аблаве або на паляваньні за рысяй. Усё-ж я пасьпеў упэўніцца, што падлічыць колькі адна вавёрка зьесьць сасновых шышак на дзень, задача вельмі і вельмі нялёгкая, бо сьлядоў было шмат і частыя пераходы вавёркі па дрэвах без пакіданьня сьлядоў не дазваляюць паручыцца, што справу маеш з адной толькі вавёркай. Я не гавару ўжо, што і падлічыць дакладна колькасьць сасновых шышак, зьедзеных вавёркай пад адным дрэвам, ня так ужо проста. Па маёй думцы, падлічыць колькасьць вавёрак па ліку зьедзеных імі за дзень сасновых шышак, як гэта думае праф. А. В. Фядзюшын, трэба пакінуць. Гэта куды цяжэй і яшчэ менш дакладней, чым падлічыць колькасьць вавёрак у вядомым раёне шляхам абхода вучастку раніцою па сьлядох.

Справа ўскладняецца тым, што энэргія ў вавёркі і яе апэтыт, а значыць і колькасьць аб'едкаў вельмі мяняюцца ў залежнасьці ад надвор'я. Магчыма, што пры харчаваньні вавёркі яловымі шышкамі, якія і самі буйныя і аб'едкі іх больш, задача будзе прасьцей.

У сярэдзіне жніўня мінулага году на Біостанцыю было дастаўлена пяць маленькіх вавёрачак, няболып як 6—7 дзён таму назад быўшых яшчэ сьляпымі. Гэтыя маленькія вавёрачкі вельмі скора перасталі дзічыцца, лізалі малако, якое налівалася тонкім пластом на блюдца і грызьлі кавалачкі цукру. Калі наліць малако ня так каб блюдца было толькі змочаным, а больш тоўстым пластом, вавёрачкі чыхалі, папэрхаліся малаком і пакідалі яду. Хутка вавёрачкі пачалі есьці малочную пшонную кашу і аладкі на содзе і малаку з падбоўтачнай (пшаніцы і ячменю) мукі. Асабліва любілі яны, калі ў гэтыя аладкі (трохі больш густа разьведзеныя за бліноў) дабавіць трохі цукра. Пшонная каша і памянёныя мною аладкі засталіся ўлюбёнымі харчамі вавёрачак да глыбокай восені. Пілі вавёрачкі малако ўвесь час вельмі ахвотна. Вельмі ахвотна вавёрачкі скакалі, гулялі, насіліся ўсёй сямейкай, то ўніз, то ўверх галавой па мне (маёй куртцы), пакуль я стаяў з каваланкам цукру або аладкі, вавёрачка садзілася звычайна ў мяне на плячы, а то залязала на галаву. Спалі вавёрачкі, заўсёды, разам, спачатку пад печкай, потым, калі маглі поўзаць па дрэву, у рукзаку і хлопях, спецыяльна для іх павешаных на асінавае бярвяно, пастаўленае ў вуглу пакою. Прачыналіся мае вавёркі ня вельмі рана (гадзіне в 7-7-30 па сонцу), да поўдня весела скакалі і гулялі, а ў поўдзень, паеўшы, заўсёды адпыхалі (забіраліся ў гняздо спаць), пад вечар зноў гулялі, але ня вельмі доўга. Спаць клаліся яны рана. Трэба сказаць, што большую частку часу маладыя вавёркі праводзяць у сьне.

З тае прычыны, што мае вавёркі ў пакоі ўчынялі цэльную орду, мне прышлося іх выпусьціць на волю вельмі рана, калі яны былі яшчэ менш палавіны росту дарослай вавёркі. Мае вавёрачкі былі вельмі мілыя, забаўныя і зусім ручныя: зналі мой голас і ішлі на яго, тады як чужых, незнаёмых людзей, баяліся. Звычайна, раніцой вавёркі, наеўшыся і напіўшыся ўсе ўходзілі ў лес гуляць і вярталіся назад на захадзе сонца дамоў спаць вельмі галоднымі. У першыя часы тры вавёркі прыходзілі дамоў паесьці і паспаць і ў поўдзень, але хутка ў поўдзень стала прыходзіць дамоў толькі адна вавёрка. Выпускалі і ўпускалі вавёрак у пакой праз адчыненае вакно або фортачку, а каб ім лягчэй было папасьці на вакно, я прыставіў да падаконьніку абрубак асіны. Сьмешна было і цікава бачыць, як вавёркі, на захадзе сонца, звычайна адным і тым-жа шляхам, задраўшы хвасты несьліся да знаёмага вакна з лесу, мінуючы страшэннага для іх індыка або парасёнка. Хутка нават кароткі час прабываньня пітомцаў у кватэры стаў невынасім, бо яны ўчынялі цэлы садом і гамору. Прышлося пабудаваць ім пад фортачкай кармушку-скрынку, куды для іх і клалася ежа, а ў пакой больш ня пушчаць. Толькі адна вавёрка прыходзіла акуратна адзін—два разы за ежаю да позьняй восені, пакуль яна не надзела сваёй зімняй шубкі. Апошнія вавёрачкі паступова перасталі прыходзіць.

Між іншым, цікава, як наша вавёрачка хутка пералiняла. Вось выпіска з дзеўніку.

17 кастрычніка 1930 г.—вавёрка была ўся рыжанькая, 19 кастрычніка—сьпінка цалкам ужо шэрая, 20 кастрычніка—толькі самыя ногі рыжанькія.

Вавёрач'е насельніцтва ў запаведніку вельмі і вельмі нягустое. Па даных падліку дзічыны, за дакладнасьць якіх нельга паручыцца, у 1931 годзе на 15 студзеня налічвалася 600 і на 15 мая 589 штук, а ў сярэднім 595 штук ва ўсім запаведніку, або на 133 гектары плошчы 1 вавёрка. Па маіх назіраньнях лічба гэта блізка да сапраўднасьці. Не магу дакладна сказаць ці было перасяленьне вавёрак в запаведніка з прычыны неўраджаю шышак у другія вобласьці, дзе быў ураджай шышак, бо ўлетку было мала вавёрак і рэдка можна было іх бачыць. Можна сказаць, што масавага перасяленьня ня было, але магчыма было частковае, мала заўважнае перасяленьне. Трэба сказаць, што куніц, лік якіх, параўнаўча з лікам вавёрак, у запаведніку і асабліва ў абходзе № 27 К. Кунцэвіча, даволі значны (па даных падліку на 15 студзеня—68, а на 15 мая 78 або ў сярэднім 73 штукі ва ўсім запаведніку), не даюць вавёрцы магчымасьці хутка множыцца, але і паказаны лік куніц у запаведніку па мойму трохі павялічан.

У гэтым годзе Біостанцыя Д. П. запаведніка па вывучэньні вавёркі зроблена менш таго, што можна было зрабіць пры іншых умовах работы, гутарка аб чым будзе ў асобным артыкуле ў наступным нумары.

Заг. Біостанцыі **Ф. Патцэр.**

# Ліс у гадавальніку дзяржаўнага паляўнічага запаведніка і ў самым запаведніку

У запаведніку амаль спачатку яго арганізацыі (1925 год) быў закладзен лісіны гадавальнік; тры вальеры з драцяной ацынкованай сеткі на тры пары лісіц. Кожная вальера была разьдзелена на дзьве клеткі: адну большую для самкі з маладымі і адну, невялікую для самца. Між абедзьвюмі клеткамі была адбудована калітка, каб, калі трэба апошнюю адчыняць і даваць магчымасьць лісіцам хадзіць адна да другой. У кожнай клетцы стаяла па дравяной будцы, дзе лісіцы спалі і хаваліся ад непагоды: для самца невялікая, а для самкі вялікая з асобнымі цёплымі гнёздамі пярэдняй.

Упушчаны ў вальеры былі простыя мясцовыя лісіцы з тым, каб прывучыць людзей, якія даглядаюць за лісамі на малакаштоўных простых даглядаць за каштоўнымі, а потым набыць іх чорна-срэбрыстых лісіц і адчыніць гадавальнік. Аднак, чорна-срэбрыстых лісіц запаведніку так і не ўдалося ўбачыць. Улетку 1930 г. я застаў яшчэ ў гадавальніку простых лісіц і выкарыстаў іх, каб назіраць і лепш пазнаёміцца з іх характарам. Было іх 7 штук: 4 старых і 3 маладых з 2-х выводкаў, выкапаных з нор. Адзін з іх маладых быў пераведзен працаваўшымі ў запаведніку энтомологамі з нейкага лясьніцтва, а два другіх выкапаны з нары ў запаведніку. Старыя лісы насілі ўласнае імя: самец—Бандыт і тры самкі: Ягозка, Таццянка і Маруська. Маладыя: два самцы і адна самачка сваіх імён ня мелі.

Гадавальнік, плошчай каля гэктару, быў абкружан высокім дравяным плотам-частаколам. Пабочныя асобы да лісіц не дапускаліся і лісіцы былі вельмі дзікія за выключэньнем Ягозкі, вырасшай у сям'і чалавека і ласкавай да ўсякага, як сабачка. Самым дзікім з усіх быў Бандыт, які пры набліжэньні чалавека да вальер забіраўся па сетцы мэтры на два—тры ўверх ад зямлі і ўсаджваўся там на перакладзіне—кронштэйне. Дзікасьць лісіц тлумачыцца яшчэ тым, што імі тут ніхто ня цікавіўся, належнага догляду і харчаваньня ў іх ня было.

Звычайна, як толькі адчыняюцца дзьверы ў гадавальнік лісіцы кідаюцца ўцякаць і хаваюцца ў будкі і норы, адна толькі Ягозка падбягала да пярэдняй сьценкі клеткі і глядзела, хто гэта прышоў.

Праз 1—1½ тыдні пасьля майго прыезду і частых наведваньняў іх з кавалачкам хлеба, аладкі або мяса, а то з мышай, лісы сталі ўжо больш ручнымі і нават Бандыт ня ўцякаў, а глядзеў, ці не нясу я чаго-небудзь смачнага і часта падыходзіў да рук. Таццянка-ж і Маруська бралі ўсё з рук, а апошняя нярэдка ласкалася, валяючыся па зямлі каля ног [1]).

---

[1]) Калі са мной была староньняя асоба, дык лісы хаваліся і баяліся паказвацца.

Хаця нармальны спосаб жыцьця ў лісіц быў нарушан, але ўсё-ж яны застава ліся пераважна начнымі жывёлінамі. З наступленьнем цемнаты жыцьцё ў гадавальніку ажывала. Пачыналіся бойкі і лаянкі праз падвойную сетку, выпаўзалі з нор маладыя лісяняты. Пачыналася паляваньне за лётаючымі майскімі і іншымі жукамі; пралятаючыя жукі біліся аб сетку, зьніжаліся і часта пападаліся лісіцам, якія іх з апэтытам і гучным хрустам зьядалі. Карміліся лісы тры разы ў дзень: раніцой, упоўдзень і ўвечары малочным супам з круп, бульбай або заціркай з мукі. Калі было мяса — давалася адно мяса. Норма у верасьні была: на 7 лісаў у дзень 1200 грам круп або мукі і 3 літры малака. У кастрычніку, калі выявілася, што ліс неабходна ліквідаваць, норма была паменшана. За кастрычнік месяц і 3 дні лістапада лісы зьелі за 20 дзён 33 літры малака, 8 $^{400}$ кілё мукі і 8 кілё бульбы, а 14 дзён атрымлівалі ў волю мяса. здохнуўшай ад параненьня рысі або каровы і бадзячых сабак.

За ўсе часы 1925 па 1930 г. прыплода ў гадавальніку ў ліс ня было. Гэта трэба растлумачыць толькі адсутнасьцю асобы, якая-б цікавілася лісамі, кепскім даглядам і харчаваньнем.

З усіх чатырох дарослых лісіц кожная мела свае індывідуальныя характэрныя рысы. Як колер шэрсьці, ухваткі, смак, так і выгляд пыскі ў кожнай лісіцы былі свае асобныя.

Ягозка. Рост Ягозкі невялікі, ногі зусім чорныя, канец хваста сантымэтраў на 7 (сем) белы, агульны фон яе шубкі чырвоны. Горла і жывот шэры. Злоўлена яна была, па даных, якія маюцца, 26 красавіка 1926 г. і вырашчана ў сям'і чалавека. Ягозка была зусім ручная і ласкалася да ўсякага, як сабака да свайго гаспадара. У часы паляваньня за жукамі, гульня і ласкі ў яе праглядваліся, як у кошкі. Капцюры ў лісіцы настолькі вострыя, што праз дзьве кашулі або штаны яна балюча разьдзірала цела, скачучы на чалавека ў час гульні. 23 жніўня Ягозку прышлося перавесьці ў другую вальеру, у клетку Марусі. Упушчаная Ягозка, пачуўшы запах другой лісіцы з важным відам, трохі заклаўшы назад вушы, падняўшы хвост уверх сьвечкай пачала ўсё абнюхваць і вывучаць, будучы „на-чаку" і ў кожную мінуту гатовая прыняць бой. У чашку Марусі яна, прысеўшы над ёю, намачыла, а на падстаўку для чашкі, стаяўшую ў другім месцы, нагадзіла. Доўга не магла яна супакоіцца на новым месцы, пакуль ня вывучыўшы і не абнюхаўшы ўсяго, ня ўпэўнілася, што ў клетцы другой лісіцы ўжо няма. Намачыла Ягозка адзін раз і сабе ў чашку, калі я ў вельмі цёплы дзень, думаючы, што ліса хоча піць наліў ёй вады. Ягозка, падышоўшы панюхала, павярнулася і намачыла ў ваду. Тое ж самае зрабіла яна, калі я даў ёй хлуп пад'арліка, мяса якога скарміў канюхам. Зусім інакш аднеслася яна да кінутай галоўкі і ножак сойкі, якія смачна схапіла. За ўсё сваё жыцьцё ў Ягозкі ня было патомства і мацярынскага пачуцьця яна не спрабавала, пакуль у канцы ліпеня ёй ня ўпусьцілі маладога самца, прывезенага інтомолагамі. Ягозка усынавіла яго, палюбіла і стала клапаціцца аб ім таксама, як бы і аб сваім дзіцяняці. Самыя смачныя кавалачкі: мыш, галоўкі, лапкі і крыльля соек, і іншых птушак, якіх я скармліваў канюху і пад орліку, кавалкі хлеба або аладкі—нясла яна самцу і, ласкава, нізкім тонам пішчэла і брахала асобным чынам, падзываючы яго да сябе. Самец пачуўшы заклік, вылазіў з нары і захапіўшы кінуты Ягозкай у гэты момант кавалак, хутка хаваўся з ім зноў у нару.

Зусім інакш адносілася яна да падсаджанай да яе трохі пазьней самкі. Ягозка да апошняй аднеслася варожа, кавалкаў яды ёй не давала, а калі ліска падскаквала на яе заклік, аскаліўшыся і шчыльна прыціснуўшы вушы да патыліцы гучна і злосна крычала.

Недалёка ад вальеры Ягозкі (мэтраў 18—20) у асобнай клетцы жылі дзьве маладых дзікіх качкі, чакаючы адпраўкі на выстаўку ў г. Менск Ягозка зьвярнула на іх увагу і як толькі даглядатай адкрываў дзьверы клеткі, каб наліць ёй корму, ліска, хутка праскочыўшы каля яго, выскачыла з сваёй клеткі Хутка кінулася яна да качак і так хутка пачала ганяцца за імі вакол клеткі, што пасьпела схапіць адну з іх, якая неасьцярожна высунула праз ячэйку сеткі галаву. Калі я падбег, было ўжо позна: Ягозка, упіраючыся пярэднімі лапкамі ў сетку, усімі сіламі цягнула качку за галаву, а качка хлопала крыламі. Такім

чынам на выстаўку ў Менск папала замест пары качак, толькі адна.

Ліска Тацьянка. Рост яе яшчэ менш Ягозкі. На хвасьце белага колеру няма зусім, бо, відаць, канец хваста ў яе адсутнічае. Агульны фон яе шубкі жаўтаваты. Выгляд пыскі любапытны—наіўны, ажыўлёны і жыцьцярадасны. Яна заўсёды ўважлівая, глядзіць проста ў вочы чалавека, сільна схіляючы галаву то ў адзін, то ў другі бок. Ягозка і Маруська, у асаблівасьці апошняя, ніколі проста ў вочы чалавеку не глядзяць. Бандыт, бывае, што і глядзіць чалавеку ў вочы, але з нейкай ненавісьцю і страхам. Калі Тацьянцы даеш кавалачак хлеба з рук, яна хапае яго не шкадуючы і пальцаў. Адзін раз яна схапіла мяне за палец, калі я працягнуў ёй руку, а ў другі за палец босай нагі, але ня вельмі балюча. Жыла Тацьянка ў адной вальеры з Бандытам, пры чым дзьверы між іх клеткамі былі заўсёды адчыненымі. Часьцей Бандыт прыходзіў у госьці да Тацьянкі, а апошняя куды радзей наведвала Бандыта. Відаць, што кожная з лісіц прывыкала да сваёй клеткі і адчувала ў ёй сябе лепш. Бандыт быў сільней і сьмялей уваходзіў на жаночую палову. А Тацьянка-ж, уступаўшая бандыту ў сіле і сьмеласьці, гасьціла на мужской палове толькі са згоды гаспадара. Але за тое Тацьянка была куды жывей і хітрэй Бандыта і нярэдка праводзіла яго.

Калі я кідаў, наўмысна, для вопыта, што-небудзь смачнае (часьцей за ўсё мыш) здалёк абоім лісіцам, Тацьянка хутка схоплівала мыш і неслася да мяне, каб вьесьці яе ў надзеі, што Бандыт пабаіцца да мяне наблізіцца і адабраць ад яе здабычу. Бывалі выпадкі, што Бандыт пасьпяваў нагнаць яе на дарозе і адабраць схопленае. Але ў момант даганяньня Бандыт каротка бурчаў, а Тацьянка гучна і піскліва крычала і кідала мыш. Увесну абедзьве лісіцы любілі ляжаць на сонцы і, расьцягнуўшыся ва ўсю даўжыню на адкрытым месцы, салодка дрымалі. Улетку, ў сьпёку яны хаваліся ў цень кучкі густых елачак, наўмысна для гэтага падсажаных да клетак.

Лісічка Маруська. Таксама вельмі дробная ростам, відаць кепска была выращчана. На хвасьце белага колеру няма ніколькі, бо кончык хваста адсутнічае, ногі ня так чорныя як у Ягозкі. Агульны фон яе шубкі бураваты. Горла і жывот цёмна-шэрыя.

Характар у Маруські быў ціхі. Вяла яна сябе вельмі скромна, з рук харчы брала вельмі асьцярожна. Відаць, здароўе яе было вельмі няважнае. Да падсаджанага ёй у вальеру маладзенькага самца,—брата самца, што быў у Ягозкі,—Маруська аднеслася неяк бяз удзелу. Не падпушчала яго вельмі блізка да сябе, але цярпела яго прысутнасьць.

У розьніцу ад іншых лісіц Маруська баялася падысьці да падстаўкі чашкі. Стоіла толькі паставіць міску з ядой на падстаўку—Маруська не датыкалася харчоў. Да чашкі пастаўленай на зямлю падалей ад падстаўкі сьмела падыходзіла і ела. Калі Маруська была сыта і атрымлівала кавалачак хлеба ці яшчэ чаго-небудзь, яна таксама, як і іншыя лісіцы, закапвала (хавала) яго куды-небудзь. Трымаючы кавалачак у роце, яна лапкай, а то бывала абедзьвума лапкамі выкапвала ямачку, клала ў яе кавалачак і зарывала носам, пасоўваючы выкапаную зямлю ад сябе. Кладовую ўчынялі лісіцы не ў адным вызначаным месцы, а дзе прыдзецца.

У сярэдзіне ліпеня месяца з Маруськай страслася бяда. Відаць, нара, якіх да стыда вартаўніка, было даволі шмат у вальерах, абвалілася і засыпала Маруську і самца. Вартаўнік зьвярнуў увагу, што ні Маруська, ні лісёнак не зачапілі пастаўленай імі яды. У наступны дзень харчы зноў ня былі закрануты. На трэці дзень мы ў дваіх дакладна перашукалі вальеры і перакапалі ўсе норы, але лісіц не знайшлі і рашылі, што яны ўцяклі па сасонцы, растучай недалёка ад сеткі. Толькі на чацьверты дзень прышоўшы сьсячы вышэйпаказаную сасонку, мы заўважылі схудалую і чуць жывую Маруську. На прынесеныя харчы яна з смагнасьцю накінулася; відаць уначы яна сама пракапалася і вылезла на сьвет. Напалоханы-ж абвалам лісёнак удзень так і не паказаўся, а да яды вылез толькі ўначы і наогул ён з той пары ўдзень ніколі ня вылазіў, толькі ўначы.

Ліс Бандыт. Ён старэй і буйней за самак. Быў злоўлен, як кажуць, да 1925 г. і прывезен ужо дарослым. Агульны фон яго шубы жоўты. Горла і жывот сьветлыя, белы канец хваста куды карацей, чым у Ягозкі. Па характару свайму Бандыт

быў дзік, пагарды, і меў сумны выгляд, і пыса яго была пастаянна недавольная. Ён некалькі разоў за сваё жыцьцё ў гадавальніку ўбягаў з вальеры, падкапаўшыся пад плот і зубамі разьеўшы пагніўшую яловую абстаўку, але праз агараду яму перабрацца так і не ўдалося. Адзін толькі Бандыт і ўмеў найлепшым чынам поўзаць па драцяной сетцы.

Нярэдка Бандыт, жадаючы застацца мною незаўважаным, калі праходзіў я міма яго клеткі, клаўся на пясок і шчыльна прыціскаўся да зямлі. Трэба сказаць, што калі-б маё вока ня прывыкла да гэтага малюнку, я-б і ня ведаў, што там магла быць лісіца.

Ліквідацыя гадавальніка. У кастрычніку, калі выявілася, што срэбрыстых лісіц нам атрымаць ня ўдасца, было вырашана ліквідаваць гадавальнік, лісаў забіць, а ўсю маемасьць перадаць Біостанцыі. 3 і 4 лістапада ўсе 7 лісаў былі забіты, ня гледзячы на тое, што шкуркі чатырох з іх яшчэ ня зусім вылінялі, а трох нават не пачыналі ліняць.

Згадзіцца на ўбой у гэты час лісіц я быў прымушан, бо на кастрычнік ужо сродкаў на ўтрыманьне лісіц ня было адпушчана, сваіх прадуктаў ня было, а таксама ня было, каму даглядаць за імі. Выпусьціць траіх нявыліняўшых лісіц на волю, ведаючы, што яны прыносяць у запаведніку толькі шкоду—было нямэтазгодна, бо вартаўнікі на Біостанцыі ня меліся (Дырэктар ДПЗ лічыў, што такому няма чаго рабіць). Забой лісаў, здымка, праўка і сушка шкурак была даручана двум егерам. Праз некалькі дзён, калі я ўбачыў сохнуўшыя ў канторы шкуркі, мне прышлося самому ў кватэры дасушваць вымазаныя попелам і кепска пахнуўшыя шкуркі з падпрэлымі пальцамі, у 2—3 вушамі і 2—3 кончыкамі (недаразрэзанымі) хвастоў.

У 1930 годзе, дзякуючы позна наступіўшым марозам і пазьняй восені лінька ўсіх жывёл вельмі спазьнілася. 3—4 лістападу і на волі лісіцы яшчэ ня вылінялі канчаткова. 1 лістапада забіты ў Антонаўскага возера бяляк зусім яшчэ быў шэры. Цікава, што на часе лінькі вельмі рэзка сказаўся стан здароўя і харчаваньне лісіц. Так, лепшая скурка з забітых у гадавальніку лісіц была ў Ягозкі, потым у Тацьянкі і Бандыта, чацьвертая скурка належала лісіку, якога вырашчвала Ягозка. Шкурка Маруські, якая была хворая, зусім ня выліняла, таксама і ў 2-х маладых лісянят, якія харчаваліся значна горш іншых, бо іх абіжалі і аб'ядалі, аднаго Маруська, а другога Ягозка з усыноўленым лісікам.

Лісіца ў запаведніку. Насельніцтва лісіц у запаведніку ня вельмі густа па плошчы, але вельмі нераўнамерна па густаце: у сярэдзіне запаведніка ў лесе, у балоце, лісіца вельмі рэдкая, па акраінах-жа бліжэй да вёсак і палёў мясцамі, лісіц даволі шмат. Так, у некаторых цэнтральных абходах я ні разу ня бачыў лісінага сьледа, у абходзе № 20 і 27, таксама цэнтральных, дзе ляжалі конскія тушы на ваўкоў, было толькі па адной лісіцы, якія наведвалі гэтыя тушы. У абходзе № 24, найменш у лясным і крайнім, я адзін раз на лузе, у Забродзьдзі бачыў удзень дзьве лісіцы адначасна, а ў другі раз на полі каля вёскі Брады ўвечары тры лісіцы адразу. Шмат лісіц у абходзе 35, таксама крайнім і суседнім з палямі. Між іншым, вясною адна лісіца тут, у вёсцы Сялец, атруцілася стрыхнінам, пакаштаваўшы кабана, пакладзенага на ваўкоў [1]).

Даныя падліку дзічы па запаведніку вельмі разнастайныя ў адносіне да лісіц. Так, па справаздачы Гурына на 1 студзеня 1930 г. было 300 лісіц. Па справаздачы намесьніка тав. Шчэйка на 15 студзеня 1931 году 69, а на 15 мая—100 шт. Па маёй думцы, даныя Гурына вельмі павялічаны, а бліжэй да праўды сярэднія з даных тав. Шчэйка 80—90 лісіц па ўсім запаведніку.

У гэты час для палёў пытаньне аб шкоднасьці, або карыснасьці лісіц зьяўляецца спрэчным, у запаведніку-ж лісіца бязумоўна прыносіць адну шкоду, бо жыве сама, а галоўным чынам вырашчвае маладых за кошт дзічы. Вясной, здымаючы старак з гнязда або аддаўліваючы іх ад маладых, а таксама разбураючы гнёзды, лісіца прыносіць вялізарную шкоду. Успомнім, што яна паляўнічае дзеля паляваньня нават тады, калі негалодная. Па словах егероў, якія забылі ў мінулае лета лісянят з нары

[1]) Як відаць, поле з таўстымі палёўкамі прыцягвае лісіц. Мае ўплыў вядома і стан сьнегавага пласта. На палёх сьнег дробны і шчыльны, у лесе таўсьцей і рыхлей. Хадзіць па такому сьнегу лісіцы цяжэй.

для гадавальніка, у нары было шмат пер'я недаедзеных астаткаў качак, цецярукоў і інш. дзічыны, а таксама нязьедзены жураваль.

Лісіца ў запаведніку павінна быць пад суровым кантролем. Калі яе прыходзіцца цярпець па краях запаведніка, як зьнішчыцеля мышэй і палёвак на палёх або для захаваньня віда, ды і то ў абмежаванай колькасьці, дык у сярэдзіне запаведніка яе трэба аднесьці да драпежнікаў і павялічэньня колькасьці не дапускаць. Падышоўшы да гэтага пытаньня з пункту погляду эканамічнага, лічыць, што лісіца апраўдае прычыненую ёю шкоду паляўнічай гаспадарцы цаной сваёй шубы—таксама ня прыходзіцца, бо гэтая шкода куды больш каштоўнасьці за яе шубу.

**Заг. Біостанцыі М. Патцэр.**

# Канюх

У канцы ліпеня мінулага году адным з лясьнікоў, разам з шкоднымі пярнатымі драпежнікамі, быў дастаўлен на біолёгічную станцыю дзяржаўнага паляўнічага запаведніка жывы малады канюх. Жадаючы за ім паназіраць і закальцаваўшы выпусьціць, я прыняўся яго карміць. У канцы таго-ж дня канюх ужо сьмела браў мяса і ўнутранасьці прэпарыруемага мною пад'орліка. Дні праз тры ён зусім асвоіўся і ўсякі раз прымаўся пішчаць і прасіць харчоў, калі мяне бачыў. Толькі, калі вальлё яго было набіта бітком ён прапускаў мяне міма бяз крыку.

Карміў яго я апроч мяса і ўнутранасьцяй іншых драпежнікаў—рыбай, жабкамі і мышамі. З усяго гэтага больш за ўсё ён любіў мышэй і жабак. Кінуты харч канюх хутка хапаў лапай і, нязграбна скачучы адносіў у бок, у той час як седзячы ў той-жа клет ы малады пад'орлік кінутыя харчы прыкрываў крылом, напэўзаючы на іх неяк бокам і стараўся зьесьці іх, трымаючы галаву пад крылом.

Мой канюх дробную рыбу, мышэй і жабак глытаў цалкам, а больш буйную рыбу, вялізарных жабак і кускі мяса разьбіваў дзюбай, аднэй або абедзьвума лапамі.

Хутка выпушчаны на волю, ён ужо добра лётаў, але сам дабываць сабе харчы яшчэ ня ўмеў, і, седзячы на агародзе біостанцыі або на крышы, чакаў, пакуль яму штонебудзь кінуць.

Неяк раз я пачуў тонкі піск на двары і, выглянуўшы ў вакно, заўважыў, што канюх сам злавіў жабку. У наступны дзень раніцою я бачыў яго ўжо самастойна палюючым на сенажаці блізка біостанцыі, а калі ўсе ўсталі, канюх сядзеў зноў на крышы чакаючы падачку.

Дні праз два ён ужо больш не прылятаў да мяне на двор, а сам здабываў сабе харчы, сьсяброваўшыся з іншымі канюхамі, сям'я якіх жыла недалёка ад біостанцыі.

Закальцсван канюх перад выпускам на волю 27 ліпеня 1930 году колцам Маскоўскага Орнітолёгічнага камітэту, сэрыя С, № 1510.

У гэта лета з паўкілёмэтра ад біостанцыі мне прышлося на паляне ўбачыць свайго канюха з бліскучым колцам на назе. 14 ліпеня 1931 году на біостанцыі мною закальцован і падсажан да старыкоў другі малады канюх такім-жа колцам за № 1498.

Назіраючы канюхоў на волі можна ўбачыць, што канюх, параўнаўча са шкоднымі драпежнікамі, птушка непаваротлівая, не ўладае шпаркім палётам, не баіцца так чалавека і вядзе адкрыты спосаб жыцьця. Таму канюхі так лёгка і пападаюць пад стрэл паляўнічага, хаця і ня прычыняюць паляўнічай гаспадарцы значнай шкоды, у той час, як сельскай гаспадарцы, паядаючы мышэй, прыносяць вялікую карысьць.

Каршуна-ж цецеравятніка—сапраўднага зьнішчыцеля дзічыны, куратнікаў і галубяцен, больш вёрткага і шпаркага, а галоўнае, вядучага скрытны спосаб жыцьця і нападаючага на ахвяру з-пад цішка ў адсутнасьці чалавека, застрэліць удаецца вельмі рэдка. Толькі захоплены паляваньнем за параненым зайцам, або пярнатай дзічынай крыважадны драпежнік сам нарываецца на стрэл.

**Заг. Біостанцыі Д. П. запаведніка**
**М. Ф. Патцэр.**

# Апавяданьні і нарысы

## „ЛЮБАЕ ДЗЕЛА“

### (З падарожжа на паляваньне)

Кілёмэтраў за шэсьцьдзесят ад г. Менску ёсьць такая мясцовасьць—Прыстанішча. Чаму называецца гэта мясцовасьць Прыстанішчам, я ўдавацца ў гісторыю з географіяй ня буду, але скажу тое, што тут столькі знаходзіць сабе прыстанішча дзічына, што сюды зьяжджаюцца паляўнічыя, як гэта кажа сам Аўсей, гэрой гэтага апавяданьня, „з усяго сьвету“. Ці зьяжджаюцца паляўнічыя „з усяго сьвету“—хай чытач сам рашыць, але я, дык усё ж такі папаў адзін раз.

А было гэта так. Ляжаў я, неяк перад выхадным днём, на ложку, задраўшы ногі ўверх, пляваў, як гэта кажуць, у паталок і думаў, куды-б тут на паляваньне смаргануць! Прыходзіць яшчэ адзін такі самы „палкі паляўнічы“ і гаворыць:

— Ну, як, ты едзеш куды небудзь?

— Як бачыш, яшчэ пакуль ня еду.

— Ты не жартуй. Цягнік адыходзіць у чатыры сорак, спозьнімся?

— А ты маеш што-небудзь на ўвазе?

— Едзем да Аўсея.

— Да якога гэта такога Аўсея?—запытаўся я.—Калі ўжо ехаць, дык не да Аўсея, а куды-небудзь у балота, к чарцям на рогі, у самую багну, дзе больш дзічы.

— Не, таварыш Мікола! Калі мы паедзем так куды-небудзь, дык...—тут мой „палкі паляўнічы“ чамусьці прыкусіў язык,—дык...можаш вярнуцца бяз дзічыны, а адтуль дык... прывязем. От сам убачыш?!

— Ці ня думаеш ты страляць дзічыну сярэбраным шротам?

На гэта пытаньне я не атрымаў ад свайго таварыша адказу. Ён толькі, чамусьці, адвярнуў ад мяне твар і нешта стаў перабіраць пальцамі.

— Ну, што-ж—едзем, калі так?

— Зьбірайся!

Я стаў чапляць на сябе ўсякія прылады вытворчасьці, якія патрабуюцца да такой справы, як паляваньне. Таварыш, які ўжо быў напагатове, дапамагаў мне.

— А пляшку не бярэш?

— А навошта?—адказаў я.

— Вазьмі—на ўсякі „пажарны выпадак“.

Я ўзяў і пляшку, а потым, калі мы ўжо хлопнулі калiткай, запытаўся:

— У двох едзем?

— Дзе...О о-о!.. Не!.. Едуць Кастусь Зарэмба і Амільлян Сякерка.

— У чатырох, якраз добра будзе.

Ехалі мы кілёмэтраў з сорак чыгункай, потым пераселі на калёсы нейкага дзядзькі, які ехаў у адну дарогу з намі ад станцыі, а апошні канец шляху прарабілі на сваёй уласнай „пары“. Так мы і дабраліся да Прыстанішча.

Вёска стаяла на невялічкім узгорку, а на паўмэтра, ня больш, унізе серабрыстай зьмейкай вілася рака, зарослая высокім чаротамі. У гэтых чаротах так шмат пладзілася качак і іншых птах, якія радуюць сэрца паляўнічага, што пра іх высокімі легэнды, нібы тут іх проста палкамі б'юць, а то выдзе які-небудзь дзядзька з сярпом, скіне штаны, палезе ў рэчку і давай качкам сярпом адразаць галовы, якія выглядаюць з чарота.—Ніякай стрэльбы непатрэбна тут!—кажуць прыстанаўцы.

Трохі далей, абапал ракі на некалькі дзесяткаў кілёмэтраў зялёным абрусам раскінулася Палесьсе. То тут, то там, па гэтаму палесьсю, па гэтаму заліўному лугу, параскіданы, чорт ведае чаму, невялічкія выспачкі, па мясцоваму „градкі“, зарослыя дробным дубняком, ліпкамі, калінай і другімі расьлінамі. Калі вы ідзеце па гэтых выспачках, ваша нага, так і глядзі, наступіць або на сьпелую, чырвоную і сакавітую суніцу, якіх тут шмат, або, чаго добрага, на шэрую, расьпісаную жаўтаватымі палоскамі гадзіну, якія выбіраюцца на гэтыя сухія месцы з балота, каб пагрэцца і распладзіцца на сонцы. Бачыце, якія кантрасты!

Недзе, яшчэ трохі далей, крычаць жураўы і іх звонкія—„курлыыы...кур...кур... курлыыы“.. мэлёдычнымі гукамі нясуцца некуды далёка-далёка, здаецца за некалькі дзесяткаў кілёмэтраў.

Яшчэ трохі далей, за гэтай зялёнай пустэчай—пустэчай таму, што на дзесяткі квадратных кілёмэтраў вы ня сустрэнеце ні аднэй вёскі, ні аднэй пабудовы—вымалёўваецца ў блакітнай далячыні сінюватая, з зубчатым контурам, сьцяна сасновага бору. Гэта—забароненае месца для паляваньня.

Тут плодзіцца шмат лясной дзічыны. Тут вясною, калі пасінее сьнег і зробіцца мяккім, а пад вашымі нагамі хлюпаціць вада і лёд трашчыцаь, ламаецца на кавалкі, тады лясны красун глушэц, чуць-чуць прабіваецца першая струя сьвету на ўсходзе, на суку сасновага кража робкімі строфамі перад самкай пачынае сваю любоўную песьню. Трохі далей, на краі лесу на дзялянцы, па якой раскіданы абгарэлыя пні, адважна змагаюцца, у імкненьні аўладаць лепшай і прыгажэйшай самкай, цецярукі.

Увечары, калі сонца ўжо закацілася за лес, і з неба сходзіць апошні загар, а ноч пачынае акутваць няясныя сілуэты асінніка пры дарозе, вы можаце пачуць, як нейкая шэрая птаха з вялікай дзюбай, пералятаючы дарогу, толькі ўласным ёй голасам „харкне" і схаваецца за бліжэйшай асінай ці ольхай. Гэта „цягнуць" слонкі. Паляваньне „на цяге" лічыцца найлепшым і там, дзе цягне шмат птах, бывае здабычлівым.

Вось у гэтыя „абетаваныя" для паляўнічага мясцы і завёз мяне мой таварыш Зьміцер Доўгаязык. Мы ўвайшлі ў вёску Прыстанішча. Каля самай рэчкі, пятай з канца вёскі, стаяла невялічкая, скрыўленая да ракі, з дзіравай саламянай страхай, хатка без двара. Пад яе сьцяной, замест прызбы, ляжаў апракінуты стары, расчэплены асінавы човен. Пад страхой тырчэлі дзьве вуды і весла. На воддаль ад хаты, на ўбітых у зямлю коліках, разьвешана сець для рыбнай лоўлі. Тут-жа ляжаў другі човен, трохі цэлы, хаця і пазатыканы ў некаторых мясцох анучамі. Было відаць, што тут жыве і рыбак і паляўнічы.

Крокаў на пяць ад хаты стаяла стопка, якая разам з гэтым спаўняла абавязкі і лазьні для жывёлчых у гэтай маленькай хатцы. Яшчэ далей ад хаткі стаяў крывабокі азярод, у якім не хапала некалькі першых жардзін. Яшчэ, бачыце, не наступіла пара жніва! А радам з азяродам, крокаў на дзесяць ад яго, нешта падобнае на ток, які відаць, таксама, як і стопка, быў „замясьціцялем" і пуні для сена.

Вось і ўсе пабудовы, што былі ў гэтай, так званай, гаспадарцы нашага таварыша па паляваньню. Тут жыў і распараджаўся наш Аўсей.

Мы ўвайшлі ў хату. Цёмна і пуста. У маленькія вакенцы чуць-чуць прабіваецца сонца. Бурая печка пакасілася на хату. Яе комін выходзіў не на верх, як гэта бывае звычайна, а праз сьцяну над дзьвярмі, у бок. Невядома адкуль зьявілася дзяўчынка год дванаццаць. Яна адчыніла дзьверы і ўхмыльнулася, потым яе радасная ўсьмешка на бледным, малакроўным, але прыгожым твары зьмянілася палохам і яна кінулася з усіх ног уцякаць, стукнуўшы дзьвярмі. Зьміцер шпарка выскачыў на двор, кінуўшы стрэльбу на лаву і пачаў гукаць:

— Ганна, Ганначка, куды ты гэта? Не пазнаеш ці што?

Дзяўчынка аглянулася і на яе твары зноў зьявілася радасьць.

— Што—ты спужалася? Думала, бандыты якія ці што?—пытаўся Зьміцер,



прывёўшы Ганну ў хату.—Мы да вас на паляваньне прыехалі. А дзе бацька?

Дзяўчынка стаяла сярод хаты і глядзела на нас сваімі блакітнымі, як пралескі, вачыма. Яе сьветлыя, з завітушкамі на вісках, валасы былі акуратна прычасаны і заплецены ў дзьве маленькія касічкі з чырвонымі стужкамі. Ганка перабірала худзенькімі белымі і доўгімі пальчыкамі рук кончыкі касічак, якія, закінутыя праз плечы, спускаліся на грудзі.

— Татка на полі. Касіць пайшоў.

— А што, хіба ў вас ужо конь ці карова ёсьць, што бацька касіць пайшоў?— запытаўся зноў Зьміцер.

Відаць ён ня раз быў у Аўсея і ведаў яго гаспадарку наскрозь таксама, як і сам гаспадар.

— Не, яшчэ няма, —адказала дзяўчынка.—Але ён пашоў касіць для Сідаравых. Вы здаецца, ведаеце Сідаравых?— як старая, пусьцілася разважаць дзяўчынка.

— Ведаю!—адказаў Доўгаявык.—Гэта, што на тым краю вёскі, асабняком жывуць у новай вялікай хаце. Адзін з іх быў у старыя часы аб'езчыкам у князіцкім лесе, а апошнія два браты лясьнікамі?

— Гэтыя самыя, — пацьвердзіла дзяўчынка.

— А хутка ён прыдзе?

— Ня ведаю.

— Ну, дык мы, Ганулька, пойдзем да ракі, а нашы прыпасы хай тут паляжаць. Між іншым, я табе падарак прыпас: памятаеш, як у апошні раз быў у вас, абяцаў?

Зьміцер палез у сакваяж і доўга, доўга там рыўся, нешта сам сабе бармочачы пад нос. Мы падняліся і сталі зьбірацца ісьці да ракі. Наш адзіны выжла вылез з-пад стала, куды ён забраўся быў ад мух і, ласкава завіляўшы хвастом, падыйшоў да дзяўчынкі і лізнуў яе ў руку, нібы гаворачы: „Будзем знаёмы, мадэмуазэль!“ Потым падыйшоў да дзьвярэй і стаў там, чакаючы з нецярпеньнем пакуль мы выйдзем на паляваньне.

— Дурны пёс твой,—хацеў укалоць Кастуся Зарэмбу Амельлян Сякерка,—ён думае, што мы ўжо на паляваньне зьбіраемся! Ляжаў-бы пад сталом, а то мух возіць на сьпіне цэлыя тысячы!

Зьміцер, кончыўшы капацца ў сакваяжы, ускрыкнуў:

— Ёсьць, ёсьць, Ганна!

— Што ты, блаху за хвост злавіў?— адамсьціў за абіду ад Сякеркі Зарэмба.

— Я думаў, што страціў па дарозе!— сказаў Зьміцер, падносячы Ганцы хустачку. —На, насі, на здароўе!

Ганка ўзяла хустачку і, з радасьцю на вачох, завязала на галаву. Мы вышлі да ракі.

---

Сонца ўжо садзілася за лесам. Над лугам слаўся туман. Паветра пахаладзела і запахла сырасьцю. Нейдзе ў вёсцы зараўлі каровы, вяртаючыся з поля. Над ракой паявіліся качкі. Яны ляталі тудысюды, ад выжарыны да выжарыны, зарослай чаротам, на гнуткіх крылах, лёгка пасьвістваючы імі. З чаротаў падкялася вып і, нібы мёртвая, павісла на крылах над чаротам, выглядаючы ахвяру. Гэта драпежніцкая птаха. Хто ня чуў яе страшэннага голасу, які наводзіць сум на цёмных людзей.—„Нячысьцік крычыць!“—гавораць звычайна. А гэта вып, уклаўшы сваю даўгую і вострую дзюбу ў раку і набраўшы вады, патрасе паветра сваім моцным, нейкім дзікім, нібы іржаньне каня, голасам. За ракой, там, дзе віднелася сьцяна лесу тонкім і сільным голасам крычаў ястраб. Вось патухлі і апошнія праменьні вячэрняй зары. Над ракой згусьціўся туман. Стала цёмна. Над галавой, з боку нас, робкім голасам нехта трывожыць хвалі паветра. Гэта бэкасы і дупялі вылятаюць на корм, пераклікаючыся між сабой і парушаючы паветра. Настала ноч.

Мы вярнуліся да хаты Аўсея. Ён толькі што прышоў з поля. Падаткнуўшы касу пад страху стопкі, адзінай пабудовы на яго дварэ, здымае мокрыя штаны і адзявае сухія.

— Добры дзень, Аўсей! — крыкнуў Зьміцер.

Аўсей хутчэй завязаў штаны і падышоў да нас.

— Здаровы, хлопцы, здаровы! На паляваньне зьявіліся? Я то гляджу нешта даўно ўжо ня прыяжджаеце!

— Ну, а яе ёсьць трохі, дзічы?—запытаўся зноў Зьміцер.

— Ды гэтага дабра тут хапае. Дзе-ж ёй тут ня быць, гэткія завадзі!—Аўсей зрабіў круг рукой, нібы абхапляючы ім балота, якое ўжо гінула ў цемры.

— Дупляkoў, гэтых самых, як вы іх называеце, шмат?

— Цьма, цьмушчая!—крыкнуў Аўсей.

— Вы-ж заўтра на работу ня ідзіцё?

— Не, заўтра ў нас сьвята.

— Ну, што сьвята—гэта ерунда!—упэўнена адказаў Зьміцер.—Але што адзін раз у сем дзён трэба адпачыць—гэта другая справа. Значыць на паляваньне заўтра!

— Можна і на паляваньне,—адказаў Аўсей. Але хадзём у хату!

---

— Ну, выбачайце! Закусіць у мяне нічога няма—сказаў Аўсей мінут праз дзесяць пасьля таго, калі мы ўвайшлі ў хату.

— Я знаю, што вы самі бяз куска хлеба сядзіцё,—адказаў Зьміцер і палез у сваю торбу.

— Пралетарыят падзеліцца!—падхапіў Косьця і таксама ўзяўся за торбу.

— Трэба і нам з табой не адставаць, Амельлян!—сказаў я.

Мы селі вячэраць. Запрасілі Аўсея, гаспадыню яго, якая зграбала сена ў тых-жа самых Сідаравых і сядзела галоднай на печы зараз.

— Што гэта вы так бедна жывеце?— запытаўся Зьміцер у Аўсея, як больш з ім знаёмы.

— Э-э-э-э...брат! Людзі кепскія ў нашай вёсцы. Адзін аднаго гатовы на ражон пасадзіць і пячы... Асабліва дастаецца нашаму брату, бедняку. Яно то і вядома, дзе-ж набярэцца дзяржава сродкаў, каб увесь час карміць нас, а з сваёй гаспадаркай з гэтай...—Аўсей памаўчаў і плюнуў,—ніяк не заўладаеш. Мне ўжо давалі, давалі ўзаемадапамогі з сельсавету, ды я і сам перастаў браць, як у процьму ў якую сажу, а толку няма. Быў нават і канём абзавёўся,—здох! Ну, што тут зрабіць—здох і ўсё тут табе...

Аўсей распасьцёр рукі. Абцёр рукавом рыжыя засмаленыя вусы, якія, вечна, здавалася, краталіся, як у прусака, і вылез з-за стала.

— Ешце, чаго вы!

— Ды вам мала будзе. Памесіце гэтай багны назаўтра, дык есьці захочаце, дарма што...

Што ён хацеў гэтымі словамі: „дарма што“ сказаць, для мяне і зараз не вядома...

— А я ўжо закусіў трохі...—скончыў Аўсей.

Мы таксама насыціліся і вылезьлі з-за стала.

— Дзе-ж тут будзеш жыць,—зноў загаварыў Аўсей,—калі...калі... я-ж кажу, людзі ёсьць дрэнныя, адзін аднаго на ражон садзяць і пякуць...пякуць увесь час. І людзей гэтых ня шмат: якіх-небудзь два двары на ўсю вёску, а глядзі колькі тут такіх пастухоў курыных, як я!?

„Пастухоў курыных“ Аўсей ужыў тут, як відаць, у пераносным сэнсе.

— Здавалася-б, от сабраўца ўсім, узяць за вуглы хаты гэтых абдзіралаў, ды і вынесьці вунь туды, на балота... паставіць. Дык не-ж, таму дзядзька, таму сват, таму кум,—яшчэ на іх бок які дзесятак перабягае і муцяць увесь сьвет. А тут, от цяпер—жыві, як хочаш, а ён цябе абдзірае ўвесь час. Чаму-ж яму ня будзе добра, калі за яго людзі працуюць: і пажнуць, і пасеюць, і пакосяць, і ў пуню складуць. Калі хочаш знаць, хто перад табой, пакапайся ў яго кішках... Што-ж, як-жа тут жыць, калі муцяць сьвет, два двары, якіх небудзь. Гэта-ж я, падумаць толькі: калі той пажар быў, калі загарэлася мая гаспадарка, якая была,—мабыць ужо год з пятнаццаць! Гэта было, калі на вайне я быў, а ніяк на ногі ня стаць. Дзе-ж тут: сёньня ідзі, заўтра ідзі: то араць, то касіць, то яшчэ якую халеру, а там— кішка есьці хоча, як не гавары—пазычыш пуд які ўзімку і працуй круглы год на



людзей. Згарэла хата... ну, аб'езчык і кажа мне:—Ведаеш што, Аўсей! Там у „Крывым розе" ёсьць буралом такі, дык вось, каб ніхто ня бачыў, уначы, як небудзь, нацягай сабе на хату, а там паробіш які небудзь дзень і квіта.

— „Ото, добры чалавек на сьвеце знайшоўся",—думаю я. Нацягаў, паставіў от гэты самы зруб і... вось, як унадзіўся аб'езчык—хоць ён ужо і не аб'езчык!—дык і зараз ратунку няма, ужо год пятнаццаць, рабі яму і ўсё тут! Дык вось і жыве, пуза разьеў, чаму не...

— Дык гэта ты і сёньня з Афанасяй за гэта самае рабіў у Сідаравых?—запытаўся Зьміцер.

— Не, сёньня, то ён кажа, рабіў не за гэта, а неяк увесну браў паўпуда мукі але ўсё роўна: назаўтра ён прыдзе і скажа:

— Ты, Аўсей, учора рабіў на буралом а сёньня от пайдзі парабі на паўпуда хлеба! От так яно і цягнецца. Ды другі такі самы дабрадзей ёсьць.

— Не рабі, Аўсей! Не рабі!—крыкнуў Зьміцер.

— А што будзеш рабіць, калі трэба іці і прасіць...

— Ты-ж былы салдат. Арганізуй такіх самых, як сам, папрасі дапамогі з Рыка—там дапамогуць! ы калгас зрабеце!

— Вось аб тым і гаворыцца, што ніяк не арганізуеш. Муцяць сьвет, а там свой брат за іх, так справа і застаецца.

— Ідзі, Аўсей ў Рык і крычы! Крычы каб далі інструктара сюды з Калгасцэнтру, каб дапамаглі вам...

— А дапамогуць?—няўверана спытаў Аўсей.

— Дапамогуць! — сказалі мы неяк разам і, відаць, у гэтым слове Аўсей пачуў сілу, бо калі мы, ужо нагаварыўшыся, ішлі ў пуню на сена класьціся спаць, Аўсей задуменна лічыў на пальцах дні, гаворачы:

— Серада, аўторак, пятніца—у суботу зробім яшчэ раз сход, а ў нядзелю пойдзем усей грамадой у Рык.

---

На заўтра надвор'е было вельмі добрае. Раніцай сонца кідала касыя праменьні на саламяныя стрэхі вёскі Прыстанішча, але гэта іх мала ўпрыгожвала. У небе сотнямі пялі жаўранкі, на стрэхах і сьлівах цэлымі кучамі чырыкалі вераб'і. Трубіў пастух, каб выганялі скаціну на пашу. У Аўсея выганяць было нечага, таму ён, як толькі ўстаў, накіраваўся разбудзіць нас.

Мы вышлі. Уперадзі, з пістаноўкай за плячмі, якую ён атрымаў з т-ва паляўнічых дарэмна, як бядняк і ня ўносіў на той жа падставе аніякіх узносаў у паляўнічую кааперацыю, ішоў сьпераду. Сёньня ён здаваўся яшчэ меншым, чым учора і больш чорным, здавалася жоўтым.

Апрануты ён быў у саматканыя штаны, якія неяк, як на палках, круціліся на яго нагах, калі ён ішоў. Такая-ж саматканая сарочка, засьцягнутая на адзін драўляны, зроблены з лучыны гузік, падпразана ня была. На галаве сядзела мабыць дваццаць раз выцьвіўшая шапка, з-пад якой віднеліся не прычасаныя чарнаватыя валасы. Аўсей ішоў, хутка перастаўляючы свае босыя, пакрытыя гразёй ногі, па расістай траве. Ён быў падобен на „Касьяна с Красивой мечи"*).

Відаць, ён таксама быў захоплены паяваньнем, храством прыроды навокал, як мы і радаваўся сёньняшняму дню. Я не памыліўся. Аўсей хутка пагледзеў уверх, перавёў вочы на лес, зірнуў на раку, адкуль падымаўся воблакамі густы туман і пахла сырасьцю. Нейдзе плёхаліся дзікія качкі, памалу пераклікаючыся між сабой. У нас сэрца задрыжэла, відаць адчуў тое самае і Аўсей.

— Любае дзела!.. — нараспеў сказаў ён.—Любата—гэта паляваньне. Чалавек, неяк, другім становіцца, весялейшым трохі, а каб добра жылося, дык і зусім бы ня дбаў!

У гэты момант, у аднэй з выжарын, падняліся крыжны. Аўсей лёгка ўскіснуў пістаноўку і дым пакрыў тое месца, куды накіроўваўся стрэл.

Тут зяваць было нельга. Мы разышліся ва ўсе бакі і дзень праляцеў хутка. Калі Аўсей праводзіў нас дахаты з набітымі торбамі качкамі і іншай дзічынай, чамусьці вельмі дзякаваў нам, але я ня ведаю чаму: ці то за кампанію, ці за тое, што ён зьбіў крыжнаў з дванаццаць, а можа

---

[1]) „Касьян с Красивой мечи"—гэрой апавяданьня Тургенева, з сэрыі „Записки ружейного охотника".

так за вошта, — аднаму яму вядома, прасіў прыяжджаць у другі раз.

---

Гады праз два, неяк, успомніў я пра свайго Аўсея. Успомніў я пра дупялей, якіх у Прыстанішчы на лузе пладзілася ў нязьмернай колькасьці. А тут з Масквы прыехаў таварыш, ды і немец Альфрэд Генрыхавіч, з якім мы на паляваньні былі неразлучны, не даваў спакою, калі я яму расказаў, колькі дзічыны ў Прыстанішчы.

Паехалі мы. Дарога, пасьля таго, як мы пераселі на падводу, вілася сярод поля па краю лугоў каля той самай ракі Птыч, а трохі далей віднелася серабрыстая рэчка. Алешнік, якім, як нарочна, была абсаджана дарога з таго боку, адкуль паліла сонца, асьцерагаў нас ад яго неміласэрдных праменьняў. Лугі кішэлі людзьмі: зьвінелі косы, несьліся песьні дзяўчат, якія граблі сена; клалі яго або ў стагі, або на вазы,—дзе было суха. За тое, калі праяжджалі па вуліцах чалавечага паселішча, дык яны былі нібы вымершымі; толькі сабака які-небудзь ляжаў каля варот, ды то і дзела падкідваў уверх галаву за мухамі, якія яму, відаць, надакучалі да зарэзу.

Хутка паказалася і Прыстанішча. Я сьмела накіраваў падводчыка так, каб прышлося менш за ўсё ехаць вуліцай да Аўсеевай хаты. Калі мы прыехалі да таго месца, дзе павінна была гэта хата стаяць, перад маімі вачыма адкрылася пустое поле, ды, наогул, і другіх шмат хат ня было на месцы, а то каторая і была, дык стаяла адзінока, бяз шыб.

— Што такое?!—зьдзівіўся я.—Мабыць пажар адбыўся, ці што? Але-ж гэта было-б відаць; галавешкі былі-б!

Альфрэд заўважыў на маім твары недаўменьне і запытаўся:

— Чыво тафо ішешь?

— Хаты няма, Аўсеевай.

Немец паглядзеў на раку і задумаў звастрыць:

— Может хата этот сплыл в река?

„Пармельстон“ і „Лойд“—ня ведаю, чаму ў нас стараюцца даць сабаку ангельскую назву — дыплёматычна пагдядалі з возу. Па вуліцы ішоў чалавек. Я запытаўся:

— Э-э-э... куды гэта, што гэта Аўсея няма на месцы?

Чалавек усьміхнуўся і адказаў:

— Вунь, бачыце новыя пабудовы?! Гэта калгас „Камунар“—там і знойдзіце Аўсея.

— Во яно што! Значыць тут ужо калгас арганізаваўся! Ну, добра, што добрым канчаецца,—падумаў я.

Мы прыехалі да Аўсея. Ён ужо жыў у новым доме, разьбітым на дзьве кватэры, па два пакоі ў кожнай. На сьцяны вісеў партрэт нашых віднейшых правадыроў. Хата была выклеена абоямі, хаця за імі і зараз кішэлі прусакі—ад гэтай заразы ніяк не аберажэшся. У вялікія вокны з новымі белымі рамамі шмат падала сьвету і ў хаце было весела. Адразу-ж я заўважыў нейкую перамену ў Аўсеи: мне здавалася, што і рухі яго больш жвавейшыя, і не такія затуманеныя сумныя вочы. Прышла з работы Ганка з маткай. Ад іх таксама несла чымсьці новым; Ганка нават і трымала сябе вальней, сьмялей і бадзёрысьцей. Яна ўжо стала прыгожай дзяўчынкай.

Калі паклікалі вячэраць, Аўсей ужо не сказаў, што ў яго нечага даць паесьці, а павёў у сталоўку і накарміў нас, як мы не адмаўляліся ад гэтага, кіслым тварагом з сьмятанай і кавай напаіў. На працягу ўсяго вечара я не пачуў ад яго ніводнага слова, каб ён скардзіўся на жыцьцё, пакуль яму не напомніў:

— „Пакапайся ў кішкох і будзеш ведаць, хто перад табой стаіць!“

Аўсей расьсьмяяўся і хлопнуў мяне па плячу, сказаўшы:

— Ну, хоць заўтра ў мяне і ня выходны дзень, але ўжо так і быць, пайду да старшыні прасіцца на заўтрашні дзень, папаляўнічаем.

Аўсей вярнуўся з радасьцю на твары. Я запытаўся, ці згадзіўся старшыня калгасу адпусьціць яго на паляваньне.

— Вядома, згадзіўся!—адказаў Аўсей. У нас, брат, тут ня то, што... У нас, брат, знойдзецца работа для кожнага... хто да чаго гож...

— Як гэта, хто да чаго гож?

— Ну, вядома, калі хто красьці гож, дык мы яго зараз... таго... Я кажу наконт здольнасьцяй... чалавечых... Скажу вам, от калі я паступіў у „Камунар“— тады была восень,—што-ж, ну, вядома, як я спрытны чалавек да зьвяроў, значыцца да паляваньня, от мне і далі нагрузку па гэтай справе.—„Што-ж,—ка-

жуць,—у цябе, Аўсей, пакуль што няма нават і адзежыны падыходзячай, каб заняцца іншай справай. Арганізуй, Аўсей, нашых паляўнічых—мы табе дапаможам у гэтым!—ды займіся паляваньнем. Сабакі ганчакі ёсьць, стрэльбы ёсьць, дагавор Калгасцэнтру аб узаемадапамозе Белкохотсаюзу таксама ёсьць, а дзяржаве вельмі патрэбна пушніна,—страляйце зьвяроў,—гэта будзе ваша работа лічыцца нараўне з іншай!“ Чаму мне не згадзіцца, ды і як гэта не згадзіцца, калі трэба. Я, ня думайце, братцы, што цёмны, а ведаю, што ў жыцьці ўсё трэба к парадку—і зьвера і птаху!..

— Шмат зьвяроў настралялі за зіму?—запытаўся я.

— Трохі далі!.. Адных зайцоў больш за 200, лісіц 39, вавёрак мусіць пад 300, тхароў, гарнастаеў, ласак—усяго...

— І тхароў і ласак стралялі?

— Не, мы на гэту зьвярыну пасткі наводзілі ўсялякія.

— Колькі вас было чалавек?

— Трое. Тут, у калгасе яшчэ ёсьць два добрых паляўнічых. Ячэйку мы ў траіх арганізавалі паляўніцкую, ды вясковыя паляўнічыя ў чатырох прымкнулі ў нашу ячэйку. Аўсей трохі памаўчаў.—Гэтыя вясковыя толькі глядзелі на нашу здабычу: чатыры іх, а і палавіны нашага не здабылі за зіму... Сказана-то хаўрус!..

Аўсей глядзеў, прыжмуранымі вачмі на лямпу, якая ліла на хату сьвятло. На двары калгасная моладзь гарланіла песьню.

— А зараз вось на зямлі працую, хаця ўзімку, магчыма, зноў будзем паляўнічыць. Іш, як вяселяцца маладыя!—пагля- дзеўшы ў вакно сказаў Аўсей.—Давайце, усё ж такі спаць класьціся! Заўтра я вас пабуджу чуць на зорцы!..

---

Той-жа дарогай, якой і ў першы раз мы ішлі на кладкі да ракі. Такая-ж ясная і добрая была раніца. Таксама ў кустох пялі птушкі. Туман аблакамі падмімаўся з ракі, нібы ён увесь час праляжаў на ёй аж з таго разу. Таксама веў нас, ідучы ўперадзі маленькі чалавек Аўсей, але мне, чамусьці, здавалася, што ня той ужо бядняк, раб кулакоў, Аўсей: і ступаў здаецца ён інакш, і глядзеў на прыроду другімі вачмі, і паходка яго была вясёлая, а на плячах быў, хоць і стары, але ўсё-ж такі суконны пiджак, ды штаны цэлыя, ды шапка новая.

Мы спусьціліся на луг і разышліся хто куды, ва ўсе бакі. Пачалася страляніна. Мой „Пармельстон“ ціха, дыплёматычна падводзіў к дупялю, які адразу-ж тлустым комам валіўся на мох пасьля стрэлу. Стралялі кругом і ўсе былі веселы, ня то што ў першы раз. Аўсей паляўнічаў з новай ламанкай тулкай і быў вельмі даволен. Як і ў першы раз мы вярнуліся з паляваньня з набітымі рознай дзічынай торбамі.

**Мік. Цэлеш.**



# Па таварыствах і ячэйках

## Калі-ж разьлічыцца Віцебскае т-ва

Невядома, чым тлумачыцца, што Віцебскае т-ва паляўнічых да гэтага часу не зрабіла разьліку з райтаварыствамі былой Віцебскай акругі. Можа тут бюракратызм і папяровая валакіта апарату, можа „хозяйственные соображения“ Віцебскага т-ва, а магчыма проста апартуністычная недаацэнка значэньня гэтага пытаньня для ўсіх т-ваў з боку кіраўнікоў Віцебскага т-ва. Ва ўсякім разе даволі пабыць у краме Віцебскага і якога-небудзь іншага т-ва, ну хоць-бы, напрыклад, Гарадоцкага, дык магчыма заўважыць вялікую розьніцу ў наяўнасьці тавараў, наколькі іх багата ў краме Віцебскага т-ва, настолькі пуста ў крамах іншых раёнаў.

Чым гэта тлумачыцца?

Толькі тым, што Віцебскае т-ва дасюль яшчэ распараджаецца грашыма ўсіх райтаварыстваў былой Віцебскае акругі.

Вельмі шмат ужо аб гэтым гаварылі, здаецца, пратрубілі вушы ўсім самым зацьвярдзелым бюракратам з Віцебскага т-ва, была катэгарычная пастанова нарады прадстаўнікоў усіх т-ваў был. Віцебскай акругі, каб зрабіць разьлік да 1 лютага 1931 году, але Віцебскае т-ва мабыць годам памылілася (думае, што да 1932 г.) ці што?

„Белкохотсоюз“ не зьвяртае на гэта ніякай увагі, хоць тады на нарадзе ў Віцебску быў і старшыня „Белкохотсаюза“.

Мне здаецца, што раёнам был. Віцебскай акругі засталося толькі адно: зьвярнуцца за дапамогай да РСІ.

**Ю. Леванёнак.**

## Наладзіць працу

У Шапатовіцкай ячэйцы паляўнічых Чачэрскага раёну няма ніякай працы. Ячэйка паляўнічых ня цікавіцца ні карыхтоўкамі, пушніны і дзічы, ні будаўніцтвам паляўнічай гаспадаркі. Старшыня ячэйкі т. Дробушэўскі Іван палец аб палец ня ўдарыў для таго, каб што-небудзь зрабіць для ячэйкі, а толькі п'янствуе і хуліганіць. 24 красавіка т. Дробушэўскі напіўся п'яны і, зайшоўшы ў калгас, пачаў зьбіваць калгасных коняй і калгасьнікаў. Сельсавет вымушаны быў арыштаваць „кіраўніка“ паляўнічай гаспадаркай.

Сам Дробушэўскі ўступаць у калгас ня хоча і працы ў гэтым напрамку ніякай між паляўнічымі не вядзе. Атрымліваецца, што раён калектывізаваны на 90 проц. і астатнія 10 проц., неўвайшоўшыя ў калгас, зьяўляюцца паляўнічымі.

Па ініцыятыве сакратара ячэйкі т. Яўменава П. была арганізавана аблава на варон з мэтаю карыхтоўкі пяра і пуха, а атрыманую прэмію (шрот) забраў сабе Дробушэўскі.

Як старшыня ячэйкі ён паступіў на службу вартаўніка запаведніка, але ніколі там ня бывае. З гэтае прычыны здараюцца такія выпадкі, што адбываюцца аблавы ў запаведніку (вясной гэтага году ў в. Астраў).

Сакратар ячэйкі Яўменаў распачаў быў працу, правёў два сходы і арганізаваў калектыўнае паляваньне, але старшыня асадзіў яго: „Ня лезь раней начальства“.

Неабходна аздаравіць Шапатовіцкую ячэйку.

**Паляўнічы.**

## Выкасілі качак

У Рэчыцкім райне па правым беразе Дняпра з прычыны таго, што вельмі рана пачаўся сенакос, выкасілі больш, чым 200 гнёздаў качак, амаль выключна чыронкаў. Па прыблізных падліках было зьнішчана 2.000 яек. Пападаліся і крыжнавыя.

Апроч качак загінула шмат дупялёў, бакасоў і інш. птушкі. Рэчыцкія паляўнічыя застануцца бяз дзічы.

**Канёў.**

# Бібліятэкі раённых т-ваў паляўнічых павінны працаваць

Лёзунг „кнігі ў масы“ ня новы. Канкрэтнае ажыцьцяўленьне яго ў нашы дні магчыма пры шырокай агітацыі за кнігу і штодзённае прасоўваньне гэтае кнігі ў масы.

Толькі пры разгорнутай працы бібліятэк, узмацненьня перасовачнай бібліятэчнай работы дасьць магчымасьць дабіцца вынікаў на фронце прасоўваньня кнігі ў масы, як аднаго з важных фактараў падвышэньня культурнага ўзроўню працоўных мас.

Але патрэбна сказаць, што бібліятэка, якая маецца пры калектыве паляўнічых Рэчыцкага т-ва, ня толькі не разгарнула свае працы і не прасоўвае кніжкі ў масу паляўнічых, а наадварот—ляжыць зьвязаней—у лепшым выпадку пад лаўкай пакрытая пылам, якія „чытаюць“ толькі пацукі ўжо цэльны год.

Паляўнічыя патрабуюць кнігі для павышэньня ведаў па паляўніцтву, павышэньня тэхнічнай пісьменнасьці паляўнічага, але нажаль, гэтага няма.

Вучоту кнігі няма.

Старое праўленьне перадало бібліятэку зьвязанай новаму, а новае, дык ня толькі разьвязваць ня хоча, а нават і паглядзець на яе ня цікавіцца.

Колькасьць кніг у бібліятэцы як па пытаньнях бягучай палітыкі, так і адбіваючай быт паляўнічага, лік тэхнічнай літаратуры, паказваюць наколькі бібліятэка крочыць у нагу з жыцьцём, і наколькі яна адстае ад запатрабаваньняў саміх паляўнічых. Вось чаму праўленьню зараз жа патрэбна правесьці вучот кніг і шкодныя з іх выкінуць. Адначасна неабходна заняцца пытаньнем для набыцьця сродкаў для папаўненьня бібліятэкі новымі кнігамі. У бібліятэку павінны паступіць толькі сапраўды патрэбныя, добрыя кнігі, якімі была-б зацікаўлена паляўнічая маса.

Патрэбна вылучыць для працы з бібліятэкай аднаго з працаўнікоў праўленьня, якія працуюць непасрэдна пры краме.

Зараз-жа неабходна арганізаваць перасовачныя бібліятэкі, накіраваць гэтыя бібліятэкі па асобных паляўнічых ячэйках. І толькі пры такой пастаноўцы, зьнішчыўшы апартуністычныя погляды членаў праўленьня на справу бібліятэкі,—бібліятэка зможа стаць сапраўдным памочнікам у правядзеньні стаячых задач.

Паляўнічы Вераб'ёў А. А.

## Чаму не працуе ячэйка

Верхня-Слабодзкая ячэйка, Брагінскага раёну зусім не працуе. У той час, калі ў вёсцы трэба было зьнішчаць драпежнікаў і ахоўваць паляўнічыя ўгодзьдзі, старшыня ячэйкі паляўнічых Літош Лявон толькі тады займаўся гэтай справай, калі быў пад настроем, г. зн. добра выпіўшы. У трэзвым-жа выглядзе ён гэтай справай займацца не хацеў.

У вёсцы насельніцтва і нават сам старшыня калгасу „Юны Ленінец“ займаліся зборкай яек качак.

Ваўкі бродзяць вакол вёскі, а паляўнічыя пагядаюць адзін на аднаго: няма каму арганізаваць аблаву.

Раённаму т-ву неабходна зацікавіцца, чаму не працуе ячэйка і прыняць зараз-жа належныя меры.

# Рыбаводзтва і рыбалоўства

## Вужэньне рыбы на рацэ Заходняй Дзьвіне

Самадзельнае вудзялно з рабіны, бярозы, або мажавелавае, леска з конскага воласа, паплавок з кары сасонкі, з пробкі з гусіным пяром—звычайная снасьць радавога рыбалова-вудзільшчыка р. Заходняя Дзьвіна. Па вялікай колькасьці відаў рыбы Заходняя Дзьвіна для рыбака наогул, а для вудзільшчыка—у прыватнасьці рака цікавая.

У ёй плодзяцца шчупакі, акуні, яршы, ляшчы, язі, плоткі, налімы, сомы, угры, вадусты, а бліжэй да ўпадзеньня ў мора ласось.

Спэцыялісту вудзільшчыку ёсьць дзе „сябе паказаць“, удоваль навудзіць, задаволіць свой пал.

У дзьвінскага вудзільшчыка галоўная прыкормка — падзёнка *), нажыўка—апарыш **).

Накіроўваючыся рыбачыць, вудзільшчык павінен мець як тое, так і другое; таму клопаты ў кожнага сур'ёзнага рыбака вудзільшчыка—мець падзёнку і спарыша адначасна.

Поўнасьцю адвесьці душу, атрымаць пажаданы вынік, можа толькі той вудзільшчык, які мае ў сябе падзёнку. За тое, з якой цікавасьцю чакае ён зьяўленьня гэтых мятлікаў.

Масавы вылёт падзёнкі на Заходнай Дзьвіне бывае па старому стылю ў канцы ліпеня і ў пачатку жніўня, у залежнасьці ад надвор'я і працягваецца 3—4 дні. За некалькі дзён да масавага вылёту зьяўляюцца мятлікі ў адзіночным ліку, павялічваючыся колькасна з кожным днём. Мятлікі лётаюць над руслам ракі і, бывае, лёгкім вецярком адганяюцца на сушу; вылёт іх на працягу дня, да вечара павялічваецца. Гэта служыць рыбаком паказаньнем на хуткае зьяўленьне падсыпкі ў вялікай колькасьці. Рыбак шпарка рыхтуецца, каб сабраць дастатковую колькасьць мятлікаў. Збор учыняецца так: увечары пасьля заходу сонца, рыхтуе лодку, расьцілае на дне яе полаг або мяшкі, поперак лодкі на борт кладзе дошкі, а на іх пласт дзёрна. Запасаецца смалістымі дровамі і, з наступленьнем ночы, упэўніўшыся ў масавым зьяўленьні мятліка ў гэтую ноч, на дзёрне раскладае касьцёр. Адпіхнуўшыся ад берага плыве ўніз па цячэньню ракі. Ярка загарэліся смальныя дровы. Сьвеціць далёка, празаючы начную імглу ціхай цёмнай ночы. Загарэлася кастрамі рака.

Да гор. Дрысы я толькі чуў аб масавым вылеце падзёнкі і быў зачарован нябачным дагэтуль малюнкам, калі мая лодка апынулася ў жывой хмары з мятлікаў. Мятлікі ўсё больш і больш круціліся вакол лодкі, прыцягнутыя сьветам кастра і былі падобны на падаючы сьнег. Ад работы іх крыльляў чуваць быў слабы шорах. Матылькі, круцячыся каля кастра, абпальвалі сабе крылы і, страціўшы здольнасьць лётаць, падалі ў лодку і ў ваду. Прайшло ня многа часу, як дно лодкі было аблеплена імі, а барада майго кампаньёна пабялела так, што і валасоў ня было відаць.

Сабраўшы магчыма большую колькасьць падзёнкі, рыбакі яе высушваюць, каб падзёнка магла захавацца да наступнага году. Для гэтага рыбак насыпае падзёнку на палатно або дошкі нятоўстым слоем і выстаўляе на сонцы на дзень—на два, пакуль мятлікі добра ня высушацца. Высушаную такім чынам падзёнку трымаюць у сухім месцы, у шчыльна зачыненай пасудзіне. Так здабываюць падзёнку.

А парышы дастаюць такім спосабам: купляюць пячонку каровы, нажом робяць па ёй надрэзы ў некалькіх мясцох, потым кладуць у гаршчок і ставяць яго адчыненым на сонцы.

У цёплыя дні ўлетку хутка пакрываюць пячонку мухі яйкамі, з якіх выводзяцца чарвякі, называемыя „апарышамі“. Апарыш хутка расьце, харчуючыся пячонкай, якую трэба дабаўляць час ад часу. Як толькі апарышы дастаткова падрасьлі, іх пачынаюць падкармліваць аўсянай мукой. Ад аўсянай мукі яны становяцца мацней

*) Мятуліцу—па-мясцоваму

**) Чэрэц—па-мясцоваму.

204131

10075

захоўваюць белы колер, што мае вялізарнае значэньне.

Накіроўваючыся лавіць рыбу, вудзільшчык бярэ з сабой апарыша і высушаную падзёнку. Узяўшы падзёнку ён мяшае яе з мокрай глінай. Прыплыўшы на месца вудзільшчык ставіць лодку на якар поперак цячэньня ракі і выкідвае гліну з падзёнкай за борт па цячэньню з такім разьлікам, каб гліна лягла на дно не далей двох мэтраў ад лодкі. Гліна хутка размываецца вадой. Рыба кідаецца на муць і пачынае вылаўліваць падзёнку, а рыбак пускае ў ход вудачку, пачапіўшы на кручок апарыша.

Каб закрыць кручок № 3 з жалам трэба каля 20 шт. апарышай.

Галоўны аб'ект лову ў рыбака-вудзільшчыка—падуст. Рыба гэта асабліва добра ловіцца зараз-жа за вылетам падзёнкі, гэта значыць у канцы ліпеня.

Падуст жыве стаямі, ідзе шчыльна выбранымі мясцамі і, калі стая выйшла на прыкормку—у вудзільшчыка найлепшы момант, захапляе дух, томіцца рука. Ня рэдкі выпадкі, калі за раніцу на адну вудачку ловяць па 100 шт. Вага гэтай рыбы ў Заходняй Дзьвіне да 800 гр. кожны падуст. Ловяць на кручок № 3. Вудзілішча № 11/2—2. Лёска ў 4—5 валасоў. Пазнаўшы глыбіню выбранага лёска кручок пускаюць на вяршок ад дна. Вышэй кручка на чвэртку падвешваюць груз. Грузам служыць шрацінка № 1. Кручок апускаюць у барта лодкі, як толькі лёска выцягнулася, яе падцягваюць да сябе і зноў апускаюць і гэтак бесьперапынку, пакуль не заклюе.

Часьцяком на падзёнку і апарыша бярэцца сом, акунь і нават шчупак.

**Ф. Лялін.**

Рэдкалегія: **Домарацкі, Волдынь, Тамашэўскі, Цэлеш, проф. Федвюшын.**

За адказнага рэдактара—**Волдынь.**

